Бібліятэка “Беларускі калегіюм”

Алесь Смалянчук

# Беларуская гісторыя: знайсці чалавека

Мінск
Выдавец І. П. Логвінаў
2013

УДК 94(476)
ББК 63.3(4Беи)
С50

Серыя заснавана ў 2012 г.

*“Бібліятэка “Беларускі калегіюм” рэпрэзентуе тэксты вядомых беларускіх інтэлектуалаў. Гэта эсэі, аналітыка, даследаванні і дыялогі пра Беларусь, грамадства, культуру і час*

**Смалянчук, А. Ф.**
С50 Беларуская гісторыя: знайсці чалавека / Алесь Смалянчук. — Мінск: Выдавец І. П. Логвінаў, 2013. — 158 с. — (Бібліятэка “Беларускі калегіюм”).
ISBN 978-985-562-039-7.

Тэксты кнігі тычацца беларускай гісторыі штодзённасці, біяграфістыкі ды вуснай гісторыі. Іх лучыць аўтарскае імкненне зразумець Чалавека ў айчыннай гісторыі, матывы яго паводзінаў, каштоўнасныя арыенціры

**УДК 94(476)**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-562-039-7**

## ЗМЕСТ

*Гісторык нагадвае казачнага людаеда.*
*Ён ведае, што там, дзе пахне чалавечынай,*
*яго чакае спажыва.*
Марк Блок

# Асаблівасці беларускага гісторыяпісання

Пра ролю гістарычнай памяці ў нацыянальна-дзяржаўных працэсах напісана шмат. Яе значэнне ў жыцці сучаснай Беларусі між іншым адлюстравалася ў тым змаганні, якое апошнія 20 гадоў адбываецца ў беларускім гісторыяпісанні. Нацыянальная (ці "нацыянальна-дзяржаўная" (Міхась Біч)) канцэпцыя гісторыі Беларусі — аб'ект нападак як з боку прадстаўнікоў сучаснай "дырэктыўнай гістарыяграфіі" (тут варта згадаць "школу Якава Трашчанка", якая прапануе абноўлены варыянт заходнерусізму), так і афіцыйных ідэолагаў, што абслугоўваюць правячы рэжым. Невысокі інтэлектуальны патэнцыял першых і другіх не здолеў навукова паслабіць пазіцыі нацыянальнай канцэпцыі. Затое ў галіне прапаганды ды ў сферы навучання, асабліва ў сярэдняй школе, яны спрабуюць узяць рэванш. Пра апошняе ўжо даводзілася пісаць[1]. Цяпер жа хачу засяродзіцца на асаб-

---

[1]Гл., напр., Смалянчук А. Навошта Лукашэнку Трашчанок? // Arche. № 3. 2006; Смалянчук А. Беларускі нацыянальны рух у сучаснай гістарыяграфіі: праблемы, пошукі, дасягненні // Гістарычны альманах. Том 12. 2006; Смалянчук А. Дыскусія пра вытокі на фоне "ідэалягічнай рэвалюцыі" // Arche. № 3. 2008; А.Смалянчук. "Савецкасць" беларускай постсавецкай гістарыяграфіі // Політологічні та соціологічні студії. Збірник наукових праць. VIII том. Тематический выпуск. Украина — Беларусь — Польша и Литва: от коллизий прошлого к общим европейским ценностям и перспективам сотрудничества. Вильнюс, 2010; А.Смалянчук. Школьны падручнік гісторыі Беларусі як месца памяці/месца забыцця пра Другую сусветную вайну // Homo Historicus 2008. Пад рэд. А.Ф. Смаленчука. Вільня: ЕГУ, 2008 ды інш.
За нашую вольнасць. Творы, дакументы / уклад., прадм., паслясл., і камент. Г.Кісялёва. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 28.

лівасцях гісторыяпісання ў межах нацыянальнай даследчай парадыгмы.

Гэты аналіз варта пачаць з праблемы вобраза ворага ў гістарыяграфіі, яго станаўлення ды сучасных інтэрпрэтацый. Традыцыйна гэты вобраз адыгрываў велізарную ролю ў выпрацоўцы калектыўнай ідэнтычнасці (нацыянальнай свядомасці), бо вораг ці “чужы” звычайна з’яўляўся моцным фактарам яднання “сваіх”.

Першыя спробы канструявання вобраза ворага ў тэкстах, дзе закраналася мінуўшчына Беларусі, заўважальныя ў *Мужыцкай праўдзе* Кастуся Каліноўскага. Ужо ў першым нумары газеты (1862) яе выдавец і аўтар пісаў пра “маскалёў” і “паноў”, якія забралі вольнасць у мужыкоў[2]. У другім нумары месца “пана” заняў “немец” (*“Но ў суседстве з намі жыў Немец і Маскаль. Аднаму і другому багацтва нашае калола ў очы — каб іх так колька схапіла, да і хацелі нас сагнаць з нашай бацькаўшчыны... Но калі Маскаль з Немцам хітрасцею нас падбіў і пайшоў ронд маскоўскі, так і ўсё зрабілася па-чартоўску”*)[3]. Але галоўным ворагам заставаўся “маскаль”: К. Каліноўскі вінаваціў маскоўскага цара ў знішчэнні ўніяцкай царквы (*“Адабраў ад нас нашую справядлівую уніяцкую веру і пагубіў нас перад Богам навекі, каб мог нас без канца драці”*)[4]. У ягонай публіцыстыцы “маскалі” сталіся галоўным ворагам Беларусі, які нёс адказнасць практычна за ўсе беды і няшчасці краіны. Адбывалася свайго роду дэманізацыя гэтага вобраза.

Амаль адначасна з “Мужыцкай праўдай” у друкарні А. Сыркіна ў Вільні былі надрукаваныя *Разсказы на белорусском наречіи*[5]. Гэта быў першы гістарычны нарыс на беларускай мове, у якім таксама прысутнічаў вобраз ворага. Аднак у ролі галоўнага ворага цяпер былі ўжо палякі. Яны выразна супрацьставіліся “літ-

---

[2]За нашую вольнасць. Творы, дакументы / уклад., прадм., паслясл. і камент. Г.Кісялёва. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 28.

[3]Тамсама. С. 29.

[4]Тамасама. С. 36.

[5]Гл., Латышонак А. Гутарка «царкоўнага старасты Янкі» з «Яськам гаспадаром з-пад Вільні» // Дзеяслоў. 2004. № 9. С. 203-212.

вінам", якія "жилы з Билоруссамы в вэликой згоди". З палякамі звязвалася страта незалежнасці, культурная і моўная асіміляцыя ды акаталічванне, якое, паводле ананімнага аўтара, актыўна пачало ажыццяўляцца пасля стварэння Рэчы Паспалітай. Звяртае на сябе ўвагу і тое, што аўтар асуджае тых, хто "пнетца да панув" і пры гэтым адракаецца ад роднай мовы і роднай (праваслаўнай) веры. Відавочна, што аўтар не ацэньваў культурна-рэлігійную сітуацыю пасля Люблінскай уніі як безальтэрнатыўную. Ён пісаў не толькі пра польскую палітыку, але і пра той выбар, які рабілі самі "найдаўнейшыя дзяды" беларусаў.

Негатыўныя вобразы палякаў і рускіх стварала і публіцыстыка беларускіх народнікаў, якія напачатку 80-х гг. XIX ст. паспрабавалі тэарэтычна абгрунтаваць існаванне беларускай нацыі. У г. зв. *Пісьме Данілы Баравіка* (1882) адзначалася, што да XV ст. беларускі народ жыў самастойным жыццём, меў уласную дзяржаву ("Літву") і сам вызначаў свой лёс. Усё змянілася, калі ўзмацніліся культурна-рэлігійныя і палітычныя ўплывы Польшчы. Іх вынікам, паводле аўтара, стала паланізацыя "вышэйшага класа беларускага народа" і страта дзяржаўнасці[6]. Працэсы паланізацыі не закранулі "просты беларускі народ", які быў моцна прыціснуты прыгонным ладам і вёў сапраўдную барацьбу за выжыванне. З канца XVIII ст. на беларускіх землях усталявалася расейскае панаванне. Напачатку гэта нічога не змяніла, а вось пасля 1863 г. пачалася гвалтоўная русіфікацыя.

Аналагічных поглядаў на беларускую гісторыю прытрымліваліся выдаўцы часопіса *Гомон* (1884). Яны сцвярджалі, што бліжэйшыя суседзі звычайна глядзелі на беларусаў, як на матэрыял для асіміляцыі і імкнуліся растварыць іх у "вялікарускім або польскім моры": *Палітыка гвалту працягвалася цэлыя стагоддзі. Яна пачалася ўладарніцтвам Польшчы і завяршаецца панаваннем маскоўскага абсалютызму. Апошні не прыпыняецца ні перад якімі сродкамі дзеля дасягнення аднастайнасці, вельмі зручнай для яго фіскальных і паліцыйных мэтаў*[7].

---

[6]Публицистика белорусских народников. Сост. А. Александрович, И. Александрович. Мн., 1983. С. 26.

7 Тамсама. С. 60-61.

Аўтары "Гомона" адзначалі, што Беларусь мела "ўласнае гістарычнае жыццё", характэрнай рысай якога было "народаўладдзе". Ліквідацыю народаўладдзя яны звязвалі з палітыкай Польшчы, якая, на іх думку, разбэсціла "шляхецкую беларускую інтэлігенцыю" і прыгнятала народ. Слова "паляк" для беларуса, указвалі яны, з'яўляецца сінонімам "пан" і "памешчык", што нагадвае пра часы прыгону.

У публіцыстыцы народнікаў упершыню адназначна варожа трактаваліся і рускія, і палякі. Фактычна, гэта яны сфармулявалі тэзіс "дзвюх бедаў" беларускай гісторыі — польскага і маскоўскага чыннікаў.

У шэрагу нумароў газеты "Минский листок" за 1888 г. з'явіўся артыкул маладога гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага (1867–1934) пад назвай *Белорусское прошлое*[8]. Даследчык не сумняваўся ў існаванні беларускай нацыі, якая мела адметную ад суседніх народаў гісторыю. Услед за "Гомоном" ён адзначаў моцныя традыцыі "народаўладдзя". Аднак пашырэнне рэлігійных і палітычных уплываў Польшчы нанесла моцны ўдар па гэтых традыцыях. Дзейнасць польскіх палітыкаў М. Доўнар-Запольскі характарызаваў як імкненне "насадзіць" шляхецкую арыстакратычную рэспубліку і падагнаць пад польска-каталіцкі ўзор усе народы краю. Гэтая палітыка абярнулася для Беларусі ўсталяваннем "польска-каталіцкага іга", што прымусіла беларусаў шукаць дапамогі ў Маскве. Але маскоўскі ўрад сваім стаўленнем да нацыянальна-культурных асаблівасцяў ды дэмакратычных традыцый розных народаў нічым не адрозніваўся ад польскага (*Польшча навязвала Беларусі шляхецкую арыстакратычную рэспубліку, Масква — баярскую алігархію. І першая, і другая дзяржавы цалкам выключалі з палітычнага жыцця дэмас, тады як беларускі народ па сваіх гістарычных і народна-бытавых традыцыях быў у вышэйшай ступені дэмакратычны)*[9].

[8]Довнор-Запольский М. Белорусское прошлое (Минский листок. 1888) / падрыхтоўка да друку А. Смалянчук, В. Лебедзева // Homo Historicus 2008. Вільня: ЕГУ, 2008.

[9]Тамсама. С. 323.

У сваёй *Кароткай гісторыі Беларусі* (1910) Вацлаў Ластоўскі паўтарыў многія тэзісы М. Доўнар-Запольскага, але ў трактоўцы вобраза ворага не пагадзіўся з вядомым гісторыкам. Ён таксама негатыўна ацэньваў ролю "польскага чынніка" ў гісторыі XV — XVIII ст. і "маскоўскага" — у гісторыі XIX ст. Але ў інтэрпрэтацыі асобных падзеяў мінуўшчыны ён адыходзіў ад вобраза "двухгаловага ворага". Напрыклад, "апалячванне" вышэйшых колаў беларускага этнасу ў XVI — XVIII ст. Ластоўскі ацэньваў хутчэй як самапаланізацыю. Аўтар з асуджэннем пісаў пра шляхту, якая "пакідае ўсё роднае, беларускае, забывае аб справе нацыянальной, месцо якой займае справа шляхоцтва"[10]. Гэткім чынам, адным з першых ён звярнуў увагу на адказнасць беларусаў за ўласную гісторыю.

Не выключана, што гэтаму "ўзбагачэнню" вобраза ворага паспрыяла актыўная грамадска-палітычная дзейнасць Вацлава Ластоўскага, які, як і іншыя актывісты беларускага Адраджэння, выразна бачыў, што поспехам нацыянальнага развіцця перашкаджаюць не толькі расійскія або польскія шавіністы, але і абыякавасць і пасіўнасць саміх беларусаў, падзеленасць і адасобленасць "сваіх", дамінаванне асабістага інтарэсу і г. д. Дарэчы, літаратура перыяду Адраджэння выразна адлюстравала гэтую абыякавасць і пасіўнасць. Дастаткова прыгадаць паэзію Максіма Багдановіча ("Пагоня" (1916)), творы Янкі Купалы ("Прарок" (1912), "Перад будучыняй" (1921), "Тутэйшыя" (1922)), публіцыстыку Антона Луцкевіча і Вацлава Ластоўскага.

Савецкі перыяд беларускай гісторыі быў надзвычай спрыяльным для функцыянавання вобраза ворага. Ворагі былі паўсюдна: унутры і па-за межамі БССР. Для беларускай савецкай гістарыяграфіі было характэрным выключна канфрантацыйнае бачанне мінулага беларускага народа. Трагічныя гістарычныя падзеі звычайна тлумачыліся пры дапамозе вобраза ворага, які ў залежнасці ад канкрэтнага эпізоду набываў адпаведнае сацыяльнае, нацыянальнае або рэлігійнае аблічча. Асабліва часта гэты "вораг" апранаўся ў вопратку "польскага пана". Вораг

---

[10]Власт [Ластоўскі В.]. Кароткая гісторыя Беларусі. Мінск: Універсітэцкае, 1992. С. 64.

перыяду Другой сусветнай вайны быў прадстаўлены пераважна “нямецка-фашысцкімі акупантамі” і “беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі”; апошнія нібыта ўхвалялі гітлераўскі парадак і здаўна “былі ворагамі Савецкай улады”[11]. Дарэчы, “буржуазныя нацыяналісты” былі важнай складовай часткай савецкага варыянту ворага. Савецкае гісторыяпісанне зрабіла ў гэтым накірунку надзвычай шмат. Насельніцтва БССР актыўна пераконвалі ў сінанімічнасці слоў “нацыянальнае” і “варожае”.

Сучасныя прадстаўнікі “дырэктыўнай гістарыяграфіі” спрабуюць аднавіць савецкую версію вобраза ворага. Той жа Якаў Трашчанок імкнецца захаваць і мадэрнізаваць вобраз “польскага ворага” як аднаго з галоўных у беларускай гісторыі. Пры гэтым варта задумацца, чаму гісторыка, погляды якога вагаюцца паміж “заходнерусізмам” і вялікадзяржаўным расейскім шавінізмам, наогул хвалюе праблема паланізацыі. Зразумела, не таму, што ў яго баліць душа за лёс беларускай культуры. Хутчэй мы маем справу з асуджэннем палякаў і палітыкі паланізацыі ў Беларусі толькі таму, што яны “сапсавалі” частку адзінага “рускага народа”, вынікам чаго і сталася з’яўленне беларусаў. Здаецца, апошні тэзіс, які нарадзіўся яшчэ ў XIX ст. падчас актыўных намаганняў афіцыйных ідэолагаў даказаць легітымнасць расейскага валодання беларускай зямлёй, і сёння з’яўляецца ідэйным падмуркам разважанняў аўтараў тыпу Якава Трашчанка або Валерыя Чарапіцы. У іх працах савецкасць мадэрнізуецца з дапамогай “заходнерусізму” і праваслаўнага фанатызму. А пасобнікамі “польскага ворага” звычайна выступаюць “беларускія нацыяналісты”.

А што ж сучасная гістарыяграфія, якая прытрымліваецца нацыянальнай парадыгмы? Хваля патрыятычнага рамантызму канца 80-х — пачатку 90-х гг., здавалася б, давала шанец на станаўленне гісторыяпісання, галоўным героям якога (або суб’ектам гісторыі), нарэшце, стаўся б беларус. Але не атрымалася…

---

[11]Напрыклад, Абецедарский Л.С., Баранова М.П., Павлова Н.С. История БССР. Учебник для средней школы. Под ред. П. Петрикова. Минск: Народная асвета, 1982. – 289 с., ил.

Даследчыкі засяродзіліся на апісанні трагічных падзеяў, што паўплывалі на гістарычны лёс народа і краіны. Пры гэтым вобраз ворага набыў яшчэ большае значэнне. Так, напрыклад, гісторыкі 90-х шмат пісалі пра трагічную ваенную гісторыю Беларусі. Пры гэтым падлічваліся шматлікія крыжацкія паходы на беларускія землі (фігуравала лічба 140), набегі крымскіх татараў, жахлівыя войны ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай. Генадзь Сагановіч у кнізе "Невядомая вайна"[12] ўпершыню ў беларускай гістарыяграфіі агучыў падлікі польскіх гісторыкаў, якія прыйшлі да высновы, што колькасць насельніцтва ВКЛ у выніку вайны 1654–1667 гг. паміж Рэччу Паспалітай і Масквой зменшылася больш чым напалову. Таксама згадваліся ахвяры Паўночнай вайны 1700–1721 гг. і вайны Расіі з Напалеонам у 1812 г. (у абодвух выпадках загінула да 30% насельніцтва). У гэтым кантэксце страты Беларусі ў апошнюю вайну ўспрымаліся яшчэ больш выразна. Некаторыя гісторыкі даказвалі, што загінуў кожны трэці жыхар Беларусі.

Вымалёўвалася жахлівая карціна гісторыі краіны і народа з надзвычай трагічным ваенным лёсам. Беларусь пачала ўспрымацца як пляцоўка ваеннага змагання паміж Захадам і Усходам Еўропы або паміж Еўропай і Азіяй. Пры гэтым з поля зроку як беларускага даследчыка, так і чытача цалкам выпадаў еўрапейскі кантэкст беларускай трагедыі. Між тым, нават павярхоўнае знаёмства з ваеннай гісторыяй Еўропы дазваляе сцвярджаць, што беларускі лёс амаль не адрозніваўся ад лёсу іншых народаў рэгіёна. Вядома, што падчас Трыццацігадовай вайны 1618–1648 гг. некаторыя народы Еўропы (напрыклад, чэхі) апынуліся на мяжы фізічнага існавання. А колькі загінула французаў падчас напалеонаўскіх войнаў канца XVIII — пачатку XIX ст.? Якія страты панесла Еўропа ў Першую і Другую сусветныя войны?

На жаль, канцэнтрацыя ўвагі выключна на агрэсіўнай палітыцы блізкіх і далёкіх суседзяў Беларусі, а таксама на ўласных стратах перашкодзіла звярнуць увагу на такую істотную акалічнасць усіх войнаў, як здольнасць і жаданне абараняць сваю Радзіму. Між тым, такая пастаноўка праблемы дапамагае, напрыклад, зразу-

[12]Сагановіч Г. Невядомая вайна: 1654-1667. Менск: Навука і тэхніка, 1995.

мецъ працягласць той самай вайны XVII ст., калі рэальнае змаганне з маскоўскім войскам пачалося толькі тады, калі амаль уся тэрыторыя ВКЛ была ім захоплена. Таксама роздум пра ўласна беларускае месца ў змаганні паміж Гітлерам і Сталіным у 1941–1944 гг. дазваляе звярнуць увагу на выразныя элементы грамадзянскай вайны. Іх, дарэчы, няцяжка разглядзець у большасці тых войнаў, якія зведала беларуская зямля.

Тэма мартыралогу запанавала і ў культурнай гісторыі Беларусі. Як шмат было напісана пра трагічныя наступствы паланізацыі і русіфікацыі! Пры гэтым забывалася, што Рэч Паспалітая не з'яўлялася нацыянальнай дзяржавай і шавіністычныя памкненні былі цалкам чужымі для кіруючай эліты. Больш за тое, захаванне беларускай і літоўскай мовы для ніжэйшых колаў грамадства было выразнай прыкметай сацыяльнага (саслоўнага) падзелу ў гэтай дзяржаве, які яе кіраўнікі ніколі не збіраліся парушаць. Гісторыкі зусім не звярталі ўвагі на тыя моманты своеасаблівай "самапаланізацыі", якія адлюстраваліся ў *Прамове Івана Мялешкі,* і ў свой час падаліся важнымі Вацлаву Ластоўскаму ў *Кароткай гісторыі Беларусі*. Ніхто не адказаў на простае пытанне, хто і якім чынам мог прымусіць Радзівілаў размаўляць на той мове, якую яны лічылі чужой для сябе.

Таксама чамусьці не заўважылі, што найбольш актыўна русіфікацыя Беларусі адбывалася з моманту адкрыцця настаўніцкіх семінарый, якія рыхтавалі кадры настаўнікаў, галоўным чынам, з ліку мясцовых ураджэнцаў праваслаўнага веравызнання. Відавочна, што "чужыя" праводзілі русіфікацыю рукамі саміх беларусаў!

Дамінаванне вобраза ворага ў патрыятычнай гістарыяграфіі і публіцыстыцы было адчувальным і для палітычнай гісторыі. Няўдача Беларускай Народнай Рэспублікі тлумачылася пераважна тэзісам: "Нас не падтрымалі вялікія дзяржавы". Пра гэта, сапраўды, шмат пісалі (і пішуць!), але ніхто не паспрабаваў задумацца над уласна беларускімі прычынамі гэтай ізаляцыі. А адной з найбольш істотных з іх было неразуменне тагачасным грамадствам каштоўнасці незалежнай беларускай дзяржавы.

Вядома, як цяжка было прыйсці да рашэння пра абвяшчэнне незалежнасці БНР нават тагачаснай беларускай палітычнай эліце. А што казаць пра беларускае насельніцтва, нацыянальную свядомасць якога, нягледзячы на сапраўды гераічныя высілкі адраджэнцаў, не магла выхаваць адна “Наша Ніва”.

Зразумела, звяртаць увагу на тое, што беларусы ці, дакладней, беларускія эліты самі мусяць адказваць за ўласны гістарычны лёс, не зусім прыемны занятак, які не выклікае ні гонару, ні ўздыму патрыятызму. Але ж пра ўласныя хібы трэба ведаць і пра іх трэба думаць. Як заўважыла ўкраінская даследчыца Наталля Якавенка, гісторыя — гэта праўда, якая не баіцца адлюстравання, нават калі яно бянтэжыць, а не мацуе дух нацыі. Дык няўжо мы баімся саміх сябе? А калі не, то чаму гісторыя беларускага народа часцяком нагадвае гісторыю палявання, напісаную зайцам?

Разгляд беларускай гісторыі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі або сусветнай гісторыі выбудоўвае зусім іншую перспектыву, задае іншую оптыку, якая дапамагае ўбачыць саміх сябе адным з суб’ектаў гістарычнага працэсу. І менавіта ў той меры, у якой гэты суб’ект сам сябе выяўляе, у той меры ён і ёсць творца ўласнай гісторыі. Адно такі падыход дазваляе зразумець сапраўднае значэнне нашых поспехаў і няўдач. На жаль, можна казаць толькі пра пэўныя спробы такога разгляду. Уведзены яшчэ ў 90-я гг. у вышэйшыя школы краіны курс “Гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі” на самай справе не мае ні еўрапейскага, ні цывілізацыйнага кантэксту. А тыя спробы пераасэнсавання, што ўсё ж такі маюць месца, у вялікай ступені звязаныя з публікацыямі і выдавецкім праектам “Беларускага гістарычнага агляду” (рэдактар Г. Сагановіч), навуковай і выдавецкай дзейнасцю Інстытута гістарычных даследаванняў Беларусі (ІГДБ), створанага пры Еўрапейскім гуманітарным універсітэце. Але дзяржаўныя навуковыя і адукацыйныя структуры ў гэтым працэсе не ўдзельнічаюць, хоць маюць непараўнальна больш магчымасцяў.

Еўрапейскі кантэкст і элементы гістарычнай кампаратывістыкі дапамогуць зразумець, што нацыянальныя арыенціры не павінны супярэчыць агульначалавечым каштоўнасцям. Пакуль што мы вельмі далёкія ад такога разумення. У нацыянальнай гістарыяграфіі ўсё яшчэ пануюць падвоеныя стандарты. Напрыклад, Другая сусветная вайна, Сталін і Гітлер — гэта кепска, але, паколькі "пакт Молатаў-Рыбентроп" прывёў да "ўз'яднання Беларусі", то гэта ўжо добра! Менавіта так можна было б ацаніць мінулагоднюю дыскусію да 70-годдзя "ўз'яднання". Цікава, што азначаную пазіцыю адстойвалі не толькі ветэраны савецкага гісторыяпісання і людзі, ідэалагічна адданыя сучаснаму палітычнаму кіраўніцтву. Пра гэта пісалі і пастаянныя аўтары "Нашай Нівы". Цалкам ігнаравалася, што менавіта гэты акт быў пускавым механізмам Другой сусветнай вайны, якая сталася трагедыяй для ўсяго свету, што 17 верасня 1939 г. у Заходнюю Беларусь прыйшла акупацыйная ўлада, якая распачала генацыд супраць сацыяльна і нацыянальна "чужых", што ахвярамі гэтай "зачысткі" сталі сотні тысяч жыхароў Заходняй Беларусі, і менавіта рукамі "вызваліцеляў" быў знішчаны апошні беларускі нацыянальны цэнтр у Вільні і г. д. Няўжо магчыма з такім падыходам да мінулага адчуваць сябе еўрапейцам і чалавекам, што належыць хрысціянскай цывілізацыі? Пытанне рытарычнае…

Затое відавочныя сляды савецкай свядомасці жыхара "крэпасці ў аблозе". Яны ж адчуваліся і падчас дыскусій, прысвечаных 500-годдзю бітвы пад Грунвальдам. Цэнтральныя газеты поўніліся "славянафільскай пыхай" у сувязі з колішняй перамогай, а аўтар аднаго з артыкулаў нават прапанаваў абвясціць 15 ліпеня — Днём беларуска-расійскага братэрства па зброі[13] (!) Але больш цікавым падаецца пытанне, якое прагучала на адной з дыскусій, дзе сабраліся прыхільнікі нацыянальнай парадыгмы гісторыі, арыентаваныя на еўрапейскія каштоўнасці. Вядоўца запытаўся, ці можа канцэпт перамогі пад Грунвальдам замяніць у свядомасці міфалогію "Вялікай Айчыннай вайны"?[14]

[13]Чудаков А. Грюнвальд: победная битва славян // Народная газета ад 22 ліпеня 2010 г. № 136.

[14]http://arche.by/by/28/10/2850/ці-можа-грунвальд-стаць-асновай-

Дыскутанты пачалі разважаць, наколькі гэта магчыма. Нават не ўзнікла пытанне, а навошта гэта рабіць? Замена адной перамогі іншай не закранае асноваў свядомасці, дзе дамінуе вобраз ворага. Проста рэшткі савецкасці набываюць “другое дыханне”...

Сучасная грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне робіць надзвычай актуальным і важным імкненне ацаніць уласны ўнёсак ва ўласную гісторыю, адсунуўшы на другі план улюбёны “вобраз ворага”. Сапраўды, можа, адной з галоўных задач сучаснага гісторыяпісання з’яўляецца асэнсаванне беларуса як суб’екта гісторыі. Нават спроба дасягнуць гэтага будзе надзвычай важнай для фарміравання і мацавання калектыўнай ідэнтычнасці. Прынамсі, разуменне, што гісторыя з’яўляецца вынікам не толькі варожых дзеянняў, але і ўласных намаганняў, можа паспрыяць пераадоленню таго пачуцця безвыходнасці, якое моцна пашыранае ў беларускім грамадстве.

Гісторыку варта і важна звяртаць увагу грамадства на момант выбару, які прысутнічае як у жыцці кожнага чалавека, так і ў гісторыі краіны. Менавіта асабісты выбар паспрыяў з’яўленню ў нашай гісторыі постацей Еўфрасінні Полацкай і Францішка Скарыны. Якраз ён надаў веліч асобе Кастуся Каліноўскага і зрабіў яго нацыянальным героем Беларусі, незалежна ад напісанага Трашчанком і ягонымі вучнямі...

Людзі ўчынку, якія жылі з адказнасцю перад нашчадкамі, якія “шукалі на ўласных шляхох” (І. Абдзіраловіч), і чый асабісты выбар станавіўся гістарычным выбарам Беларусі, павінны заставацца героямі беларускага гісторыяпісання. Але, чытаючы артыкулы пра нашую веліч, іншым разам задумваешся над пытаннем, куды падзеўся той народ, які культурна дамінаваў у Вялікім Княстве Літоўскім, які намаганнямі Льва Сапегі стварыў адну з першых еўрапейскіх канстытуцый, а мужнасцю Тадэвуша Касцюшкі дапамагаў амерыканцам заваяваць свабоду? Няўжо сучасныя беларусы — гэта, сапраўды, нашчадкі дзеячаў нашаніўскага Адраджэння, якія здолелі вярнуць у еўрапейскую цывілізацыю беларускую культуру і нацыю?

---

нацыянальнай-свядомасці (код доступу 11.10.2010).

А слуцкія паўстанцы, якія гінулі за БНР, — гэта, сапраўды, продкі сучасных случакоў?

Нельга ў гісторыяпісанні ігнараваць тых, чыя абыякавасць і баязлівасць, прадажнасць і прыслужніцтва абарочваліся гібеллю людзей і паразай ідэяў. Яны таксама павінны знайсці сваё месца на старонках гістарычных даследаванняў, інакш мы ніколі не зразумеем ні гісторыю, ні сучасны дзень Беларусі. Дарэчы, гэта таксама дае пэўны шанец дамагчыся хоць якой "гістарычнай справядлівасці" адносна многіх "далакопаў" айчыннай гісторыі.

Пэўная змена арыенціраў дапаможа зразумець, што галоўны вораг беларусаў — не заходні або ўсходні сусед, а ўласная абыякавасць, баязлівасць, недавер да суседзяў, падзеленасць, напрыклад, па прычыне празмернасці ўласных амбіцый, гатоўнасць гандляваць нацыянальнымі каштоўнасцямі, свабодай і дзяржаўнай незалежнасцю.

Дарэчы, гісторыя не з'яўляецца выключна барацьбой за выжыванне. Гісторыя — гэта таксама партнёрства і супрацоўніцтва, якое адно і дазваляе будаваць будучыню. Варта, хіба, сур'ёзна задумацца над тэмай "Вобраз сябра ў беларускай гістарыяграфіі"…

2010

## Асоба Кастуся Каліноўскага як даследчая праблема

10 сакавіка 1864 г. у Вільні на шыбеніцы загінуў Вікенцій Канстанцін (Кастусь) Каліноўскі. Людзі, якія прыйшлі ў гэты дзень на Лукішскую плошчу, былі ўражаныя мужнасцю аднаго з кіраўнікоў паўстання. Нават у апошнія хвіліны жыцця ён захоўваў цвёрдасць духу і яснасць думкі. Падчас чытання смяротнага прысуду ён не ўтрымаўся ад рэплікі: “У нас нет дворян. Все равны…”[15] Гэты эпізод, а таксама іншыя звесткі пра апошнія дні жыцця ды напісаныя ім “Лісты з-пад шыбеніцы” прымушаюць яшчэ раз задумацца над яго асобай. Што дапамагло яму годна і мужна сустрэць смерць? Упэўненасць ва ўласнай праваце? Зацятасць і імкненне нават на эшафоце працягваць барацьбу? Шляхецкая бравада? Ці ён прымаў смерць з пачуццём, што гэта не канец?..

І сапраўды, фізічная смерць Кастуся Каліноўскага сталася пачаткам яго існавання як “справядлівага”, “рэвалюцыйнага дэмакрата”, “народнага героя”, “дыктатара Літвы”, “польскага тэрарыста” і г. д. у гістарычных даследаваннях, у публіцыстыцы, у літаратуры, ва ўсім тым, што нямецкія даследчыкі Яан і Алейда Асманы акрэслілі паняццем “культурная памяць”[16].

---

[15]Апошнія словы (паводле А. Масалова) // Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць. Творы, дакументы. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 208.

[16]Ассман Я. Культурная память. Письмо, память о прошлом и политическая идентичность в высоких культурах древности. Москва, 2004.

Зразумець матывы яго ўчынкаў, разгадаць загадку яго асобы складана. Каліноўскі ў нечым быў "тыповым чалавекам" сваёй эпохі, такім як усе, у нечым — такім як некаторыя, а ў нечым — не падобным ні да каго. Юры Лотман калісьці раіў даследчыкам, калі яны хочуць вытлумачыць нейкую гістарычную асобу, навучыцца аналізаваць яе пачуцці і эмоцыі. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што амаль за стагоддзе беларускага каліноўсказнаўства якраз у гэтым накірунку зроблена было не шмат.

Пачынаць такую працу неабходна з аналізу гістарыяграфіі Беларусі, Польшчы, Літвы і Расіі. У гэтым артыкуле я засяроджуся на вывучэнні таго, як вобраз Каліноўскага паступова набываў беларускія нацыянальныя рысы ды пэўныя чалавечыя якасці...

Першымі, хто пачаў пісаць пра Каліноўскага, былі польскія даследчыкі, якія з'яўляліся непасрэднымі ўдзельнікамі паўстання[17], і ў прыватнасці сярод іх — Агатон Гілер, вядомы дзеяч групоўкі "белых" падчас паўстання. У чатырохтомнай працы *Historia powstania narodu polskiego* (Парыж, 1867–1871) гісторык характарызаваў К. Каліноўскага як галоўнага арганізатара паўстання ў Літве, адзначыў ягоную надзвычайную актыўнасць і "нязломнасць характару". Нават смерць Каліноўскага, паводле А. Гілера, выглядала як перамога, бо "зрабіла моцнае ўражанне смеласцю і надзеяй на будучыню Польшчы". Безумоўнай заслугай Гілера была публікацыя дакументаў, звязаных з асобай Каліноўскага. Пад назвай "Да беларускага народа" быў надрукаваны перадсмяротны зварот, сёння больш вядомы як "Лісты з-пад шыбеніцы". Але аналізаваць дакументы А. Гілер не стаў. Незалежна ад іх зместу ён успрымаў Каліноўскага як польскага паўстанца, які дзейнічаў на тэрыторыі Літвы і Беларусі.

Таксама трэба прыгадаць працы Аляксандра Навалецкага (1868), Валерыя Пшыбароўскага (1887–1888; 1899–1919), ягоны пяцітомнік *Dzieje 1863 roku*. Апошні аўтар падаў кароткі біяграфічны нарыс Каліноўскага, у якім паведаміў пра ягоную прыналеж-

[17] Больш грунтоўна гэтая тэма разглядалася ў артыкуле А. Смаленчука "Кастусь Каліноўскі ў польскай гістарычнай традыцыі" (Спадчына. 1998. № 2. С. 84–105).

насць да роду дробнай мазурскай шляхты, якая некалі перасялілася ў Беларусь, прыгадаў бацьку-ткача са Свіслачы, адзначыў, што сам Каліноўскі ўжо падчас вучобы ў Пецярбургскім універсітэце ўваходзіў у рэвалюцыйную арганізацыю.

Баляслаў Ліманоўскі, які бачыў у дзейнасці К. Каліноўскага вытокі Польскай партыі сацыялістычнай (ППС), падаў больш падрабязную біяграфію Каліноўскага і паспрабаваў увесці ў гістарыяграфію ўжо не "дыктатара Літвы", а рэальнага чалавека. Для яго Каліноўскі таксама заставаўся палякам, які ўздымаў на барацьбу беларускі народ між іншым з дапамогай *Мужыцкай праўды*.

У легальным друку Беларусі і Літвы артыкул "Канстанцін Каліноўскі" (аўтар Людвік Абрамовіч) з'явіўся толькі ў сакавіку 1906 г. на старонках *Gazety Wileńskiej*[18]. Рэдактарам газеты быў адзін са стваральнікаў ліберальна-дэмакратычнага накірунку "краёвай ідэі" Міхал Ромэр (1880-1945). Артыкул быў прымеркаваны да 42-й гадавіны смерці К. Каліноўскага.

Л. Абрамовіч (псеўданім *Licz*) зрабіў кароткі агляд жыцця і змагання Каліноўскага. Аўтар пісаў пра Мастаўляны, пра Свіслацкую прагімназію, вучобу ў Маскоўскім універсітэце, падчас якой Каліноўскі пачаў займацца актыўнай грамадскай дзейнасцю, за што калегі нават называлі яго "апосталам дэмакратычна-патрыятычных поглядаў". Паводле публіцыста, за чытанне і распаўсюд забароненай літаратуры Каліноўскі быў выключаны з Маскоўскага ўніверсітэта, але здолеў працягнуць навучанне ў Пецярбургу. Там ён пазнаёміўся з Зыгмунтам Сераkoўскім і Яраславам Дамброўскім, з расійскімі рэвалюцыянерамі, што аказала моцны ўплыў на яго погляды. Людвік Абрамовіч бачыў у Каліноўскім прыхільніка поглядаў Станіслава Ворцаля[19], Іахіма Лялевеля[20] і Аляксандра Герцэна[21]. Як некалі Людвік

[18]Gazeta Wileńska. 1906 № 17 ад 7 (20).03.1906

[19]Станіслаў Ворцаль (Worcell) (1799-1857) — палітык, удзельнік паўстання 1830–1831 г., дзеяч "Вялікай эміграцыі", прыхільнік сацыялістычных ідэй.

[20]Іахім Лялевель (1786-1861) – польскі гісторык і палітык, старшыня Патрыятычнага таварыства (1830), прыхільнік грунтоўных сацыяльных рэформ.

[21]Аляксандр Герцэн (1812-1870) – рускі пісьменнік, публіцыст, філосаф. Яго-

Мераслаўскі[22], К. Каліноўскі марыў пра адраджэнне Польшчы як "народнай федэратыўнай дзяржавы".

Аўтар адзначыў велізарную ролю Каліноўскага ў паўстанні 1863 г., ягоную папулярнасць сярод радыкальнай моладзі, прыгадаў, што расійскія ўлады назвалі яго "дыктатарам Літвы". Публіцыст распавёў пра арышт Каліноўскага, ягоную мужнасць падчас следства і смяротнага пакарання. Таксама быў прыгаданы зварот да беларускага народа, у якім Каліноўскі заклікаў да барацьбы "за чалавечыя і нацыянальныя правы". Людвік Абрамовіч убачыў у дзейнасці і поглядах Каліноўскага вытокі краёвай ідэі ў яе дэмакратычным варыянце.

Ператварэнне Каліноўскага з польскага паўстанца ў героя беларускага вызвольнага руху адбылося ў перыяд аслаблення і распаду Расійскай імперыі і свайго роду "геапалітычнай рэвалюцыі" ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе другой дэкады ХХ ст.

Першая спроба паказаць значэнне Каліноўскага для беларусаў і беларускага руху належыць Леану Васілеўскаму[23]. У кнізе *Litwa i Bialorus. Przeszlosc — terazniejszosc — tendencje rozwojowe* (Кракаў, 1912) Каліноўскі быў згаданы як аўтар першых беларускіх палітычных тэкстаў.

Вялікае значэнне мелі даследаванні літоўскага гісторыка і грамадскага дзеяча Аўгусцінаса Янулайціса (1878-1950). У 1921 г. у перыядычным друку з'явіўся ягоны артыкул *1863 metų sukilimo veikėjai Lietuvoje* (Дзеячы паўстання 1863 г. у Літве) (Švietimo Darbas. 1921, Nr 1–2). А. Янулайціс упершыню трактаваў Каліноўскага як беларускага нацыянальнага героя, які моцна канфліктаваў з Варшавай. Пры гэтым ён паспрабаваў ахарак-

ныя погляды перажылі эвалюцыю ад лібералізму ("лібералы-западнікі") да сацыялізму (дактрына А. Прудона).

[22]Людвік Адам Мераслаўскі (1814-1878) – удзельнік паўстання 1830-1831 г., актыўны дзеяч "Вялікай эміграцыі".

[23]Леан Васілеўскі (1870-1936) – дзеяч ППС, прыхільнік федэрацыі Польшчы, Літвы і Беларусі і саюза з незалежнай Украінай. Пасля Рыжскага міра выступаў супраць паланізацыі беларусаў і ўкраінцаў. Даследчык нацыянальна-культурнай праблематыкі Беларусі і Літвы, на пачатку 30-х гг. кіраўнік Інстытута даследавання нацыянальных праблем (Варшава).

тарызаваць асобу “дыктатара Літвы”. Літоўскі даследчык сцвярджаў, што Каліноўскі быў прыхільнікам жорсткіх дзеянняў і смяротнага пакарання шляхціцаў-здраднікаў толькі на словах. У практыцы такіх жорсткіх дзеянняў не было. Каліноўскі рабіў выключэнні і шкадаваў людзей. Ён таксама клапаціўся пра сяброў, якія траплялі ў рукі ворага. Нават пагроза арышту не перашкаджала “дыктатару” прысутнічаць пры пакараннях і высылцы сваіх сяброў і паплечнікаў[24].

Беларуская гістарыяграфія жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага пачынаецца з артыкула Вацлава Ластоўскага “Памяці справядлівага” ў газеце *Гоман* (№ 1 ад 16 лютага 1916 г.). Аналіз гэтага тэксту дазваляе сцвярджаць, што В. Ластоўскі выкарыстаў фактэлагічны матэрыял ужо згаданай публікацыі Л. Абрамовіча (1906). Каб падкрэсліць беларускасць галоўнага героя, В. Ластоўскі апублікаваў фрагменты “Лістоў з-пад шыбеніцы” з пэўнымі праўкамі. У прыватнасці, у вершы Каліноўскага замест “Марыські чарнабрэвай” пачала фігураваць “Беларуская зямелька, галубка мая” і г. д. Таксама ўпершыню была выкарыстана адна з беларускіх формаў імя Канстанцін — Касцюк.

У 1919 г. ксёндз Уладзіслаў Талочка ў артыкулах на старонках газеты “Беларускае жыццё” (№№ 9, 10) характарызаваў К. Каліноўскага як “глаўнага ваяку за дэмакратычнае Адраджэнне Беларусі”, “чалавека, які вельмі любіў Беларусь”, “вялікага ваяку за Адраджэнне беларускага народу”. Аўтар распавядаў пра адкрыццё беларускіх школ, падрыхтоўку да выдання беларускіх кніг і г. д. Ён паўтарыў публікацыю “Лістоў з-пад шыбеніцы” (па версіі “Гомана” 1916 г.), але пры гэтым заўважыў, што Каліноўскі і яго паплечнікі (Сонгін, Ражаньскі, Урублеўскі) “адначасна былі польскімі патрыётамі”.

Пазней з’явіліся публікацыі Івана Цвікевіча (1921), Усевалада Ігнатоўскага (1930) ды Адама Станкевіча (1933), якому нале-

[24] Janulaitis A. 1863 metų sukilimo veikėjai Lietuvoje // Švietimo Darbas. 1921, Nr 1-2, p. 53-54. (у аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук захоўваецца асабісты архіў Аўгусцінаса Янулайціса, у якім між іншым знаходзяцца фрагменты гістарычных дакументаў, важныя як для вывучэння постаці Каліноўскага, так і гісторыі самога паўстання).

жаць найбольш грунтоўныя працы міжваеннага перыяду. У пазнейшыя часы вялікі ўнёсак у каліноўсказнаўства зрабілі Вячаслаў Шалькевіч, Генадзь Кісялёў, Анатоль Смірноў, Міхась Біч ды інш. Аўтарам найбольш значнага біяграфічнага даследавання стаў В. Шалькевіч (1988), а дзякуючы Г. Кісялёву мы маем збор дакументаў "За нашую вольнасць" серыі "Беларускі кнігазбор" (1999). Таксама належыць згадаць матэрыялы зборнікаў дакументаў, падрыхтаваных да 100-годдзя паўстання 1863 г. пры актыўным удзеле расійскага даследчыка Анатоля Смірнова[25].

Лёс Каліноўскага ў беларускай гістарыяграфіі не быў занадта шчаслівым. Перыядычна распачыналіся дыскусіі наконт яго месца ў беларускай гісторыі. Такія даследчыкі, як С. Агурскі (30-я гг.), у пазнейшыя часы У. Казбярук, І. Новік і Г. Марцуль (90-я гг.) спрабавалі занесці Каліноўскага ў спіс "фальшывых маякоў" беларускай гісторыі. Сёння гэтыя спробы набылі больш прадуманы характар, бо за публікацыямі Аляксандра Гронскага, Якава Трашчанка, Анатоля Астапенкі ды некаторых іншых бачная цень ідэолагаў сучаснай беларускай дзяржавы. Дастаткова прыгадаць характарыстыку Кастуся Каліноўскага ў падручніку па гісторыі Беларусі для 10 класа сярэдніх школ з беларускай мовай навучання (2008, пад рэд. Я. Трашчанка). Кіраўнік паўстання "За вольнасць нашу і вашу" на старонках гэтага выдання ператвараецца ў польскага фанатыка-рэвалюцыянера, які адстойваў польскае панаванне ў Беларусі. Між тым, паводле Трашчанка, "адраджэнне Беларусі як нацыі магчыма толькі ў дзяржаўным саюзе з Расіяй" і г. д.

Пры ўсёй выразнай палітызаванасці чарговай спробы дэгераізацыі Каліноўскага, сучасная дыскусія вакол ацэнкі яго жыцця і дзейнасці высветліла пэўныя праблемы. Нават павярхоўны агляд гістарыяграфіі прымушае прызнаць, што беларускія даследчыкі так і не здолелі стварыць цэльнага вобраза чалавека, які стаяў на чале паўстання. Вобраз распадаецца на асобныя фрагменты, сярод якіх выразна дамінуе постаць "дыктатара Літвы". Між тым відавочна, што дзеля разумення, напрыклад, свядомасных арыенціраў Каліноўскага, трэба знач-

---

[25]Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: Документы и материалы. Москва, 1964; Восстание в Литве и Белоруссии. Москва, 1965.

на пашырыць нашы веды пра чалавека, які пражыў кароткае, але вельмі насычанае падзеямі жыццё, у якім апроч паўстання былі звычайныя чалавечыя радасці і расчараванні, а мужнасць апошніх дзён і заклікі працягваць змаганне з Імперыяй спалучалася з успамінамі пра нарачоную Марылю Ямант (“Марыська чарнабрэва, галубка мая…”).

Стварэнню цэльнага вобраза Каліноўскага можа дапамагчы біяграфістыка (біяграфіка), якая з перыферыйнага накірунку гістарычных даследаванняў паступова ператвараецца ў асобную галіну гуманітарных ведаў. Даследаванні сацыёлагаў, псіхолагаў і філосафаў XX ст. Шарлоты Бюлер, Зігмунда Фрэйда, Мікалая Рыбнікава, Ралана Джорджа Калінгвуда, Поля Кендала, Міхаіла Ярашэўскага, Юрыя Лотмана дапамаглі зразумець, наколькі складаную структуру мае жанр навуковай біяграфіі. У другой палове XX ст. нарадзілася інтэлектуальная гісторыя, якая ў адносінах да біяграфіі прапанавала храналагізм і факталагічную дакладнасць, а таксама выявіла здольнасць да шматаспектнага вывучэння біяграфіі. Якраз інтэлектуальна-гістарычны кантэкст з’яўляецца кагнітыўным падмуркам для біяграфістыкі, якая, безумоўна, належыць да сферы міждысцыплінарных гуманітарных даследаванняў.

Біяграфістыку сёння трактуюць як рэканструкцыю гісторыі індывідуума, якая дапамагае адказаць на наступныя пытанні: як асоба, яе жыццёвы шлях, дынаміка сацыяльных роляў упісваецца ў гістарычны і культурны кантэкст; як зафіксаваць унікальнасць і непаўторнасць перажывання сацыяльных працэсаў самімі ўдзельнікамі гістарычнай падзеі; як адмовіцца ад разумення індывідуальнасці як свайго роду сацыяльнага атама, паводзіны якога нібыта дэтэрмінаваны сацыяльнымі законамі, ды інш.[26]

Але біяграфістыка не можа быць эфектыўнай без адпаведных крыніцаў. Наогул многія складанасці ў вывучэнні жыцця і дзейнасці Каліноўскага абумоўленыя якраз нявырашанасцю крыніцазнаўчай праблемы. Перадусім, трэба адзначыць, што мы і сёння не ведаем, што з тэкстаў, вядомых нам за подпісам “Яські-гаспадара з-пад Вільні”, напісаў сам Каліноўскі, што ён пі-

[26]Валевский А.Л. Основания биографики. Киев: Наукова думка, 1993.

саў у сааўтарстве, што пісалі іншыя, карыстаючыся ягоным псеўданімам.

Адсутнічае комплексны аналіз усіх тэкстаў “Яські-гаспадара...” Можна казаць толькі пра спробы такога аналізу. У прыватнасці, беларускі філолаг з Варшавы Ніна Баршчэўская, аналізуючы мову “Мужыцкай праўды” і “Лістоў з-пад шыбеніцы”, звярнула ўвагу на істотныя моўныя адрозненні № 7 газеты[27]. Таксама трэба адзначыць, што гэты нумар выразна адрозніваецца зместам (вельмі брутальны, з пагрозамі, нагадвае змест вядомага *Загаду-звароту да сялян зямлі літоўскай і беларускай*, што з’явіўся прыблізна ў той самы час (чэрвень 1863 г.), нарэшце, утрымлівае непраўдзівыя звесткі пра дапамогу паўстанцам з боку Францыі, пра вяртанне польскаму сялянству ўніяцкіх храмаў і г. д.). Між тым, першая беларуская газета выразна трымалася ідэі праўды, “мужыцкай праўды”...

Вядомы літоўскі гісторык культуры і супрацоўнік бібліятэкі Акадэміі навук Літвы Уладас Абрамавічус у рукапісе працы, прысвечанай гісторыі беларускага друку (1949), сцвярджаў, што № 3 “Мужыцкай праўды” быў напісаны Валерыем Урублеўскім[28]. Меркаванне даследчыка, хутчэй за ўсё, грунтавалася на паметцы “Pisał Walery Wróblewski” на асобніку гэтага нумару “Мужыцкай праўды”, які захоўваецца ў Аддзеле старой перыёдыкі гэтай бібліятэкі. Аўтарам гэтай паметкі звычайна лічаць адваката і краёўца Тадэвуша Урублеўскага, які сабраў унікальную калекцыю кніг, рукапісаў і перыядычнага друку. (Дарэчы, на згаданым асобніку “Мужыцкай праўды” захаваўся наклеены экслібрыс “Własność Eustachego Tyszkiewicza”…)

Праблема аўтарства ўзнікае ў дачыненні да вядомага ліста “Яські-гаспадара з-пад Вільні” “Да мужыкоў зямлі польскай”.

---

[27]Omeljaniuk N. Wersje językowe gazety „Mużycka Prauda” // Studia z Filologii Rosyjskiej i Słowiańskiej. T. 15. Warszawa, 1989. S.101-109; Яна ж. Jeszcze o języku i autorstwie „Mużyckiej Praudy” i listów „z-pad szybienicy” // Studia z Filologii Rosyjskiej i Słowiańskiej. T. 18. Warszawa, 1989. S. 201-208.

[28]Абрамавичюс В. Библиография белорусских периодических изданий. 1861–1944 (рукапіс, 1949) // Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы. F21–2250.

У свой час яшчэ Адам Станкевіч сцвярджаў, што Каліноўскі не з’яўляецца аўтарам гэтага звароту. Святар і гісторык быў пэўным, што Каліноўскі не мог звярнуцца да беларускіх сялянаў са словамі: “Мы, што ямо хлеб польскі...”[29] У пазнейшыя часы польскі гісторык Кшыштаф Канкалеўскі таксама сцвярджаў, што аўтара гэтага ліста трэба шукаць сярод “белых” у Варшаве, што хтосьці з польскіх дзеячаў (Дзюлеран?) выкарыстаў папулярны псеўданім[30]. Да такой жа думкі схіляўся і Міхась Біч[31].

Сур’ёзнага тэкстуальнага аналізу патрабуюць апублікаваныя беларускімі і польскімі даследчыкамі тэксты “Мужыцкай праўды” і “Лістоў з-пад шыбеніцы”. Як ужо адзначалася, упершыню яны былі апублікаваныя Агатонам Гілерам. Трэба прызнаць, што змест “Лістоў з-пад шыбеніцы” ў некаторых публікацыях моцна адрозніваўся ад тэксту ў кнізе А. Гілера. Першыя выпраўленні заўважаныя ў згаданым артыкуле Вацлава Ластоўскага (1916). Хто і калі ўнёс гэтыя праўкі ў змест апошніх лістоў Каліноўскага, мы не ведаем. Ці зрабіў іх сам Ластоўскі, ці ён атрымаў ужо папраўленыя тэксты?..

Таксама варта адзначыць недастаткова ўважлівае прачытанне тэкстаў К. Каліноўскага. Далёка не ўсе даследчыкі ўсведамляюць той факт, што аўтар, прынамсі, большасці тэкстаў “Мужыцкай праўды” атрымаў вельмі добрую юрыдычную адукацыю (выпускнік факультэта камеральнага права Пецярбургскага ўніверсітэта са ступенню кандыдата права) і, да таго ж, дзякуючы старэйшаму брату Віктару добра арыентаваўся ў гісторыі Літвы-Беларусі.

Істотным недахопам беларускага каліноўсказнаўства з’яўляецца недастатковая ўвага да дакументаў, якія належаць да свай-

[29]Станкевіч А. Кастусь Каліноўскі. “Мужыцкая праўда” і ідэя незалежнасьці Беларусі // З Богам за Беларусь. Збор твораў. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. С. 230.

[30]Kąkolewski K. Konstanty Kalinowski i jego piśma w latach 1862-1864 // Z dziejów wspólpracy rewolucyjnej Polaków i Rosjan w drugiej połowie XIX w. Wrocław, 1956.

[31]Біч М. “...І думаў аб самастойнасці Літвы” // Беларуская мінуўшчына. 1997. № 5. С. 37-41.

го роду “сямейнага архіва” Каліноўскага. У прыватнасці, грунтоўнага аналізу патрабуюць паказанні бацькі, Сымона Каліноўскага. Недастаткова асэнсаваная роля Віктара Каліноўскага ў фарміраванні свядомасці малодшага брата. Неабходна працягваць пошукі матэрыялаў, звязаных з іншымі прадстаўнікамі шматлікай сям'і. Паводле В. Шалькевіча, толькі ад шлюбу Сымона Каліноўскага з Веранікай Рыбіньскай нарадзілася 12 дзяцей (большасць памерла ў дзяцінстве). У другім шлюбе з Ізабэлай Лазарэвіч нарадзілася яшчэ 5 дзяцей[32].

Пра значны даследчы патэнцыял гэтых дакументаў сведчаць, між іншым, лісты сястры Каліноўскага Казіміры Багушэвіч і Марыі Плаўскай (гл. ніжэй), якая, верагодна, таксама была ягонай сястрой альбо блізкай сваячаніцай. Лісты былі напісаныя ўвесну 1905 г. невядомаму адрасату ў Вільню. Яны знаходзяцца ў фондзе Таварыства сяброў навук Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва. Гісторыя гэтых дакументаў патрабуе асобнага даследавання.

Пакуль можна толькі адзначыць, што ў 1905 г. нехта з кола віленскіх “літоўскіх палякаў” і, верагодна, краёўцаў пачаў збіраць матэрыялы пра Каліноўскага. Пошукі адрасата гэтых лістоў прымушаюць уважліва прыглядзецца да тагачаснай віленскай польскай эліты дэмакратычнай і краёвай арыентацыі. Адрасатам, напрыклад, мог быць ужо згаданы карэспандэнт “*Gazety Wileńskiej*” Людвік Абрамовіч. Аднак параўнанне той інфармацыі, якая ўтрымлівалася ў лістах Казіміры Багушэвіч і Марыі Плаўскай, са зместам артыкула Л. Абрамовіча сведчыць, што яны, хутчэй за ўсё, былі невядомыя апошняму. У ягоным артыкуле пераважаюць звесткі, прыведзеныя Баляславам Ліманоўскім у кнізе *Historia powstania narodu polskiego. 1863 i 1864* (Львоў, 1882).

Верагоднымі збіральнікамі інфармацыі пра Кастуся Каліноўскага могуць быць Уладзіслаў Захорскі і Станіслаў Касцялкоўскі. У сакавіку 1907 г. менавіта яны ўвайшлі ў кіраўніцтва віленска-

[32]Шалькевич В.Ф. Кастусь Калиновский. Страницы биографии. Минск: Университетское, 1988. С. 48.

га Таварыства сяброў навук і актыўна займаліся гістарычнай праблематыкай. Таксама адрасатам К. Багушэвіч і М. Плаўскай мог быць Вацлаў Студніцкі. У лютым 1916 г. ён быў адным з ініцыятараў раскопак магілы паўстанцаў на вяршыні Замкавай гары ў Вільні. Пазней на старонках "Dziennika Wileńskiego" В. Студніцкі падрабязна апісаў гэтыя раскопкі, а ў 1925 г. апублікаваў даследаванне смяротных пакаранняў дзеячаў паўстання[33]. У кожным выпадку, высвятленне таямнічага адрасата можа абярнуцца знаходкамі новых дакументальных матэрыялаў, звязаных з Каліноўскім.

Прачытанне лістоў Казіміры Багушэвіч і Марыі Плаўскай дапамагае абвергнуць сумненні Я. Трашчанка і яго аднадумцаў у правамоцнасці ўжывання імя "Кастусь" ("Канстанцін, Konstanty") у даследаваннях. Блізкія Каліноўскага ў двух кароткіх лістах 13 разоў згадвалі імя "Konstanty". Форма "Wincenty Konstanty" прыводзілася толькі ў выпадку цытавання афіцыйных дакументаў, напрыклад, запісу ў метрычнай кнізе. Зразумела, што ў сямейным і сяброўскім ужытку "Канстанціна" павінны былі замяняць пэўныя памяншальна-ласкальныя формы.

Таксама звяртае на сябе ўвагу адназначнае сцвярджэнне Казіміры Багушэвіч, што Кастусь Каліноўскі ніколі не вучыўся ў Маскве. Гэта здзіўляе, бо пра сваё маскоўскае навучанне казаў сам Каліноўскі падчас следства. Аднак дакументальнае пацвярджэнне ягонай вучобы ў Маскоўскім універсітэце да гэтага часу не знойдзена.

Цікавасць выклікае згадка пра ліст Каліноўскага, які яго сям'я атрымала з Пецярбурга напрыканцы 1862 г. Паводле Марыі Плаўскай, ліст быў перададзены вайсковаму начальніку Ваўкавыскага павета падпалкоўніку Казанлі[34]. Аднак у рукі даследчыкаў гэты ліст пакуль не трапіў.

Аналіз зместу лістоў таксама дазваляе вызначыць кола асобаў, якія яшчэ на пачатку XX ст. маглі мець пэўныя дакументы або

[33]Rok 1863. Wyroki śmierci. Pod red. W.Studnickiego. Wilno, [1925].

[34]Гэта ж пацвердзіў у сваіх паказаннях Сымон Каліноўскі, бацька паўстанца.

прадставіць уласныя ўспаміны пра асобу славутага "дыктатара Літвы". У прыватнасці, гэта Фелікс Ражаньскі і Эльжбета Данцэвіч, а таксама стрыечны брат Казіміры Багушэвіч з Берасцейскага пав. Дарэчы, запісы, зробленыя віленскім адрасатам лістоў, сведчаць, што менавіта дзякуючы Казіміры Багушэвіч мы маем вядомы фотаздымак Кастуся Каліноўскага, выкананы А. Банольдзі ў 1862 г. Яна ж паведаміла пра існаванне страчанага архіва Віктара Каліноўскага.

## ДАКУМЕНТ

**Літоўскі Дзяржаўны гістарычны архіў. Фонд 1135. воп. 4, ад.з. 381. Арк. 1–1 адв.**
**Карэспандэнцыя, якая датычыць Канстанціна Каліноўскага. 1905**
**Ліст Казіміры Багушэвіч з Каліноўскіх[35]**

*Шаноўны пан!*

*Як прыгадваю, ці не знаходзіцца фотаздымак с.п. Канстанціна ў майго стрыечнага брата ў Брэсцкім[36], куды ў хуткім часе збіраюся паехаць, калі ён там сапраўды ёсць, здаецца, у большым фармаце і лепшы, то вышлю яго да Пана. Фотаздымак, які даслала, быў зроблены ў 1862 г. у Вільні, дзе найбольш знаходзіўся, меў тады 26 гадоў. Шмат інфармацыі пра с.п. Канстанціна можна было б даведацца ў пана Фелік-*

[35]Лісты Казіміры Багушэвіч і Марыі Плаўскай друкуюцца з захаваннем усіх асаблівасцяў арыгіналу. Пераклад з польскай мовы А. Смаленчука. Лісты былі выяўлены ў Літоўскім Дзяржаўным гістарычным архіве студэнтам праграмы "Гісторыя Беларусі і культурная антрапалогія" Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта Андрэем Мастыкам падчас рэалізацыі навуковага праекта "Беларусістыка ў архівах і бібліятэках Вільні" (Інстытут гістарычных даследаванняў Беларусі ЕГУ, Гісторыка-антрапалагічны гурток імя М.Улашчыка).

[36]Паводле Г.Кісялёва, у Берасцейскім пав. жыў дзядзька Каліноўскага Юры Сцяпанавіч (Г. Кісялёў. Кастусь Каліноўскі: яго час і спадчына // Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць. Творы, дакументы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 287).

*са Ражаньскага, які ў тыя часы займаў пасаду каморніка ў Вялікай Бераставіцы ў графа Касакоўскага. З ім Канстанцін сябраваў. Падчас знаходжання Канстанціна ў доме ён часта ў нас бываў, і часцяком яны разам выязджалі. Пасля 63 г. Ражанські пасяліўся ў Кракоўскім, ведаю, што там ён ажаніўся і праз пані Дамброўску з Шніпава[37], якая ездзіла ў Кракоўскае, прыслаў знаёмым і сябрам фотаздымак свой і жонкі, такім чынам і для мяне прыслаў, але, ці ён жывы і дзе пражывае, не ведаю. Не ведаю, ці Ш. Пан ведае, што Канстанціна забраў у Пецярбург с.п. Віктар, і што Канстанцін закончыў прагімназію ў Свіслачы, 5 класаў. Паехаўшы ў Пецярбург, падрыхтаваўся і паступіў на Праўна-камеральны факультэт, атрымліваў стыпендыю, закончыў кандыдатам. Чытала замежную кніжку пра паўстанне, дзе пераблыталі с.п. Віктара і Канстанціна, бо ў Маскве быў толькі Віктар і ў Публічнай імператарскай бібліятэцы сляпіўся ў Пецярбургу с.п. Віктар і скончыў сухотамі. Шмат прывёз папераў сваёй працы, а с.п. Эльжбета Данцэвіч прадала іх за некалькі соцен рублёў у Варшаве, а каму, не ведаю. У тых паперах было шмат помнікаў старажытнасці. Таксама пра с.п. бацьку сказана сын ткача, на самай справе ў Якушоўцы была фабрыка льняных вырабаў, трымаў работнікаў, а сам імі кіраваў. Пра с.п. Канстанціна з тых часоў магла бы....*

(Далей неразборліва. Заканчэнне ліста адсутнічае — *А.С.*)
Пераклад з польскай аўтара

**Літоўскі Дзяржаўны гістарычны архіў. Фонд 1135. воп. 4, ад.з. 381. Арк. 2–3 адв.**
**Ліст Марыі Плаўскай**

*1905 году 29 сакавіка*

---

[37]Довнор-Запольский М. Заметки из путешествия по Белоруссии // Виленский вестник. 1890, № 18 ад 22.01 (тут і далей усе цытаты падаюцца ў адпаведнасці з аўтэнтычным тэкстам).

*Шаноўны пан!*

*Нарэшце атрымала патрэбныя звесткі пра с.п. Канстанціна. Свіслацкі пробашч вельмі заняты ўпарадкаваннем касцёла, ставіць агароджу на могілках. Узорнага маем цяпер ксяндза.*

*Канстанцін быў хрышчаны Ялоўскім пробашчам, бо Мастаўляны належаць да Ялоўскай парафіі. Вінцэнт Канстанцін нарадзіўся 1838 года 21 студзеня. Маці Вераніка Рыбіньска з Янушэўскіх, бацька — Сымон ...* (далей неразборліва — А.С.)

*Канстанцін перад сваёй смерцю наведаў дом: пасля смерці с.п. Віктара, які памёр у кастрычніку перад хваляваннямі ў Каралеўстве Польскім, праз два тыдні пасля яго смерці прыехаў Канстанцін да дому і, нягледзячы на ўсе просьбы с.п. бацькі, не стаў доўга затрымлівацца. Быў у доме толькі адзін дзень, а пасля яго выезду на другі дзень прыехала свіслацкая паліцыя, шукаючы яго, а разам з ёй нейкая фігура з Гродна.*

*Другі раз быў у доме толькі некалькі гадзін. Прайшоў вайсковы атрад, а ён прыехаў тады з Ялавеска (?) з другім маладым чалавекам, якога, відавочна, вельмі паважаў. Маладзён быў прыстойны і меў сівыя валасы. Тады ён апошні раз быў у доме, а тады, калі прыязджаў пасля смерці брата, то яго пераследавалі, але яны былі на другім баку Нёмана, а калі Канстанцін дабраўся да Гродна, то знайсці яго ўжо не здолелі.*

*Аднойчы таксама прыслаў нам ліст з Пецярбургу, які прадставілі мы вайскому начальніку Казанлі.*

*Влодзя метрыку дастала з кнігі. Ксёндз адмаўляў, не хацеў сам высылаць яе да кансістора, але цяпер пагадзіўся з тым і ўзяў 3 рублі. Ці гэтай сумы будзе дастаткова невядома, як вернецца метрыка з кансісторыя.*

*Сымонак у Пецярбургу пасля чакання пэўны час быў прыняты кандыдатам на начальніка ст. або касіра, назначана чатыры месяцы навучання, як пісаў, а іншым год часу, таму напісаў,*

*што не ведае, ці будзе для яго добра ці кепска, калі атрымаецца здаць экзамен, прызначаная пенсія 25 руб. Пісаў, што разам з ім паступілі інжынеры і сыны вышэйшых чыноўнікаў чыгуначных, таму, гаворыць, што экзамен напэўна для іх будзе лягчэйшы. Сымона рэкамендавала нейкая Пані.*

*Заканчваю сваю балбатню, бо ўжо шмат нагаварыла.*

*Абдымаю Ядзю, кланяюся пану Зыгмунту, застаюся з глыбокай павагай і шчырымі пажаданнямі*

*Марыя Плавска.*

*Прашу шаноўнага пана паведаміць пра атрыманне майго ліста*

Пераклад з польскай аўтара

Гэтыя лісты сведчаць пра высокі даследчы патэнцыял вядомай нам крыніцазнаўчай базы каліноўсказнаўства, а таксама пра неабходнасць пошуку іншых крыніцаў і верагоднасць новых знаходак.

Можна толькі пашкадаваць, што беларускія даследчыкі часцяком нагадваюць пажарную каманду, якая раз-пораз кідаецца тушыць “пажар” вакол знакавых постацяў беларускай гісторыі. Варта падумаць над доўгатэрміновай праграмай вывучэння жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага, каб зразумець не толькі “Яську-гаспадара з-пад Вільні”, але і таго маладога мужчыну, жыццё якога трагічна абарвалася на Лукішскай плошчы ў Вільні ў сакавіку 1864 г.

2009

## Радкевіч *versus* Каліноўскі?

У цэнтры даследчыцкай увагі — трагічнае здарэнне ліпеня 1863 г. у мястэчку Новы Двор Поразаўскай воласці Ваўкавыскага уезда Гродзенскай губерні, калі паўстанцы павесілі мясцовую жыхарку Клару Радкевіч. Наступствы гэтага забойства для навадворцаў былі звязаныя з асобай удаўца Восіпа Радкевіча. У шматлікіх зваротах да ўлады, "прошениях" і даносах ён нястомна нагадваў, што ў 1863 г. быў "доносчиком со стороны для содействия Правительству", падкрэсліваў уласную "преданность Правительству" і "неблагонадежность" навадворцаў, якія нібыта ўдзельнічалі ў забойстве ягонай жонкі. У выніку Новы Двор амаль на 20 гадоў аказаўся ўцягнутым у судовыя ды адміністрацыйныя працэсы.

Зыходзячы з "нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі", мы маем прыклад здрады змагарам "За нашу і вашу вольнасць!", з "цёмным" чалавекам, якога падманулі ўлады. Але ці пацвердзіць такую выснову спроба прааналізаваць гэтае здарэнне з пазіцыі "чалавечага вымярэння гісторыі"?

Важна адказаць на наступныя пытанні: *Што сабой уяўляла асоба Восіпа Радкевіча? Што было характэрна для міжасабовых адносінаў у Новым Двары ў другой палове XIX ст.? Якім было стаўленне навадворцаў да паўстання? Ці сапраўды галоўнай прычынай зваротаў адстаўнога салдата В. Радкевіча да "начальства" было ідэалагічнае непрыняцце паўстання і ягоных мэтаў?*

Паспрабуем зазірнуць ва ўнутраны свет мястэчка і ягоных жыхароў, закрануць праблему менталітэту беларускіх сялянаў 1860-х гг., зразумець матывы дзеянняў прыхільнікаў паўстання, а таксама тых, што засталіся ўбаку ад барацьбы або дапамагалі знішчаць паўстанцкія атрады. Урэшце, тагачасная Беларусь — гэта не толькі Каліноўскі і паўстанцы ягоных атрадаў, гэта таксама і Восіп Радкевіч…

Рэпліка гісторыка (і жыхара XIX ст.):

*“Нет ничего труднее, чем разбирать чужую душу и выворачивать ее наизнанку, особенно же трудно проследить за душой нашего крестьянина, вообще, как известно, весьма скрытного в беседах с интеллигентом, да еще приехавшим издалека, с какою-то ему непонятною целью […] Крестьянин так недоверчив, так мало привык беседовать с кем-нибудь кроме евреев и начальников, миссия которых ему представляется вполне понятно — первых, что они должны доставлять им в кредит водку, деньги, покупать в полцены хлеб, нанимать на сплавные работы, а второго, что оно имеет своей обязанностью наказывать, собирать подати и вообще наводить на население благоговейный трепет”[38].*

Крыніцамі даследавання сталі пераважна дакументы Нацыянальнага гістарычнага архіва Рэспублікі Беларусь у Гродне, а менавіта матэрыялы фондаў Гродзенскага губернатара, губернскай канцылярыі, Гродзенскай Палаты крымінальнага суда, Губернскай вайскова-следчай камісіі па палітычных справах, люстрацыйныя акты XIX ст., запісы метрычных кніг, а таксама этнаграфічныя матэрыялы, сабраныя і апублікаваныя Паўлам Шэйнам, даследаванні і этнаграфічныя назіранні Мітрафана Доўнар-Запольскага, успаміны Адама Багдановіча ды інш. Важную ролю ў спробе зразумець унутраны свет навадворцаў

[38]Хачу выказаць шчырую падзяку супрацоўнікам НГА РБ у Гродне, супрацоўніцы Аддзела рэдкай кнігі і старадрукаў ГДГАМ Алесі Саўчук, загадчыцы Аддзела старой перыёдыкі Бібліятэкі АН Літвы Айдзе Грыбене, настаўніцы Навадворскай СШ Марыне Штоп, дырэктару Гродзенскай вячэрняй школы № 2 Эдуарду Смірнову, а таксама жыхарцы Новага Двара Веры Іванаўне Грыцкевіч за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага тэксту.

адыгралі дзве аднадзённыя экспедыцыі па вуснай гісторыі ў в. Новы Двор Свіслацкага раёна Гродзенскай вобл. 21 кастрычніка і 18 снежня 2007 г.[39]

*Новы Двор і ягоныя жыхары ў прасторы і часе*

На працягу большай часткі сваёй гісторыі Новы Двор быў невялікім мястэчкам, які больш нагадваў вёску. Ён знаходзіўся пры дарозе з Пружан у Ваўкавыск на беразе рэчкі Мядзянкі, прытока Росі. Навакольныя землі былі пясчаныя і багністыя, але якраз яны давалі галоўныя сродкі да жыцця. Гэта было мястэчка з земляробчым насельніцтвам.

Дакументальныя згадкі дазволілі Міхаілу Спірыдонаву пазначыць Новы Двор на карце "Беларусь напрыканцы XVI ст."[40] Заўважым таксама, што бліжэйшым значным населеным пунктам было мястэчка Поразава. Гісторык Аляксей Шаланда сярод матэрыялаў Нацыянальнага гістарычнага архіва ў Беларусі адшукаў петыцыю навадворскіх мяшчанаў да караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, у якой яны прасілі вызвалення ад павіннасцяў і перадачы ім ва ўласнасць сямі валокаў. Падставай для гэтага быў прывілей караля і вялікага князя Стэфана Баторыя ад 12 жніўня 1578 г., якім Новаму Двару надавалася Магдэбургскае права[41]. Таксама захаваўся канфірмацыйны прывілей караля і вялікага князя Аўгуста III ад 14 лістапада 1744 г. Апошні раз правы і вольнасці пацвердзіў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў 1774 г. Такім чынам, у Рэчы Паспалітай навадворцы былі мяшчанамі, а значыць свабоднымі людзьмі і мелі ўласнае самакіраванне. На гербе Новага Двара змяшчалася выява збройнага Архангела Міхаіла, які правай рукой абапіраўся на меч, а ў левай трымаў вагі. Пад нагамі ляжаў пераможаны д'ябал.

---

[39]Гл. Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV-XVI вв.). Минск: Навука і тэхніка, 1993.

[40]Шаланда А. Герб мястэчка Новы Двор у Ваўкавыскім павеце // Герольд=Litherland. 2004, № 1–2 (13–14), с. 35.

[41]Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь у Гродне (далей НГАРБ у Гродне). Ф. 1, воп. 1, ад.з. 2624, арк. 1–8.

Гісторыя вольных жыхароў мястэчка з Магдэбургскім правам закончылася пасля далучэння да Расійскай імперыі. Ужо на пачатку "расійскага перыяду" навадворцы былі пераведзеныя ў катэгорыю дзяржаўных сялянаў. У Беларусі XIX ст. сяляне, якія карысталіся казённымі землямі і знаходзіліся ў залежнасці ад дзяржавы, лічыліся асабіста вольнымі. Тым не менш, гэтыя перамены былі не даспадобы навадворцам. Як сведчаць дакументы, на працягу ўсяго XIX ст. яны ўпарта называлі сябе "мяшчанамі". Згадкі навадворцаў пра колішнюю вольнасць, атрыманую ад каралёў і вялікіх князёў, фіксуюцца ў дакументах, прынамсі, да пачатку XX ст. Пазней гэтую вольнасць захоўвала толькі памяць мясцовага насельніцтва.

XIX ст. стала эпохай вялікіх пераменаў. Войны і паўстанні перамяжоўваліся канфесійнымі катаклізмамі, якія трансфармавалі сялянскую ідэнтычнасць. Гэта быў досыць балючы працэс. Назаўсёды адыходзіў у мінулае непрапісаны закон тутэйшага жыцця: "старыны не рушыць". Сацыяльна-эканамічныя і палітычныя рэформы паступова ўцягвалі традыцыйнае грамадства Беларусі ў працэс мадэрнізацыі, які адбываўся ва ўмовах вострага нацыянальна-культурнага і палітычнага польска-расійскага супрацьстаяння. Апошняе таксама моцна ўплывала на ідэнтычнасць "тутэйшых". У эпіцэнтры ўсіх гэтых пераменаў знаходзіўся чалавек, вымушаны так ці інакш рэагаваць на выклікі часу.

Як жа выглядала жыццё жыхароў Новага Двара ў XIX ст.?

Ужо першыя статыстычныя апісанні Новага Двара як мястэчка Поразаўскай воласці Ваўкавыскага у. Гродзенскай губ. сведчаць пра выключна сялянскі лад жыцця асноўнай масы жыхароў мястэчка, які спалучаўся з мяшчанскай самасвядомасцю. Прамысловае і гандлёвае жыццё тут не вiравала. Галоўным заняткам і адзіным годным сапраўднага гаспадара лічылася земляробства. Вельмі востра стаяла зямельнае пытанне. Новы Двор быў зацiснуты паміж неўрадлівымі пясчанымі глебамі на поўначы і белавежскімі багнамі на поўдні.

Адна з першых у XIX ст. згадак мястэчка датычыла канфлікту навадворцаў з памешчыкамі Быхаўцамі і Сухадольскім, якія захапілі частку іх земляў[42]. Трэба адзначыць, што ў тэксце справы Новы Двор фігуруе ўжо як “казённае мястэчка”. Паводле статыстычнага апісання 1829 г., падрыхтаванага прафесарам Арсенневым (яго подпіс стаіць пад дакументам), у мястэчку знаходзілася драўляная царква і 98 двароў. Усяго пражывала 399 чал. (216 мужчын і 183 жанчын). Сярод мужчынскага насельніцтва перапіс адзначыў двух беззямельных шляхціцаў, аднаго ўніяцкага святара і 18 “мяшчанаў-габрэяў”. Усе астатнія трапілі ў катэгорыю “мяшчане-сяляне”[43]. Можна меркаваць, што за гэтым незвычайным тэрмінам стаяла якраз упартая нязгода навадворцаў прызнаваць сябе сялянамі.

Падзеі паўстання 1830–1831 гг. непасрэдна закранулі мястэчка і ягоных жыхароў. Улетку 1831 г. праз Новы Двор праходзіў паўстанцкі атрад Генрыка Дэмбіньскага, які пасля няўдалага штурму Вільні выводзіў свае войскі ў Каралеўства Польскае[44]. Паблізу мястэчка ў Белавежскай пушчы знаходзіліся базы паўстанцаў, у т. л. атрада ўладальніка Свіслачы графа Тадэвуша Тышкевіча.

Статыстыка 1837 г., якая фіксавала не толькі колькасць насельніцтва, але таксама і ягонае веравызнанне, засведчыла пражыванне ў Новым Двары ўжо 714 чал., з якіх 652 трапілі ў катэгорыю “сялянаў, што не належаць да маёнтку”, а 49 аказаліся мяшчанамі і габрэямі, якія мелі маёмасць. Адзін шляхціц з жонкай, два адстаўныя афіцэры і два ўніяцкія святары з сем’ямі маёмасці не мелі[45].

Новы Двор быў пераважна ўніяцкім мястэчкам. Напярэдадні Полацкага сабора да ўніяцкай царквы належала 650 чал., у т. л.

---

[42]НГАРБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, ад.з. 422, арк. 120 адв. – 121.

[43]Палубінскі А.С. Постаці паўстання 1830-1831 гг. // Памяць. Свіслацкі раён: гісторыка-дакументальная хроніка гарадоў і раёнаў Беларусі. / Рэдкал. І.І. Варанец і інш. Мн.: Беларусь, 2004, с. 57.

[44]НГАРБ у Гродне. Ф. 1, воп. 4, ад.з. 646, арк. 101 адв. – 102.

[45]Расійскі Дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу (далей РДГА ў СПб.). Ф. 1290, воп. 4, ад.з. 77, арк. 75.

адстаўныя афіцэры з сем'ямі. Пераважную большасць вернікаў складалі дзяржаўныя сяляне. Апроч уніятаў у Новым Двары пражывалі іудзеі (49 чал.), якія належалі да мяшчанскага саслоўя, і каталікі (17 чал.). Сярод апошніх таксама пераважалі сяляне. Наступныя звесткі пра канфесійны склад навадворцаў датычаць 1857 г. У гэтым годзе ў Новым Двары пражывала пераважна праваслаўнае насельніцтва (899 чал.)[46]. А напачатку 60-х гг. XIX ст. прыход навадворскай царквы Св. Міхаіла налічваў ужо 1012 вернікаў[47].

На жаль, не знойдзеныя дакументы пра тое, як адбывалася канфесійна-свядомасная "рэвалюцыя" ў Новым Двары. Можна толькі меркаваць, што мясцовы святар падтрымаў рашэнні Полацкага сабору і пераканаў навадворскіх уніятаў перайсці ў праваслаўе. Аднак тыя, каго ў афіцыйнай тэрміналогіі акрэслілі "новоправославные", рэлігійнай "благонадежностью" не адрозніваліся. З прыходам да ўлады імператара Аляксандра II у былых уніяцкіх вёсках сталі хадзіць чуткі пра адраджэнне ўніяцтва. У 1856–1857 гг. у розных мясцовасцях Беларусі адзначаліся выпадкі адраджэння жыцця уніі. У прыватнасці, у 1857 г. пра сваю вернасць уніі заявілі каля 100 мяшчан Поразава. У адказ у мястэчка быў уведзены вайсковы атрад, які фізічна пакараў мяшчан-уніятаў. Іх "секлі" розгамі да "поўнага вяртання" ў лона праваслаўнай царквы[48]. "Новоправославные" навадворцы павінны былі зрабіць належныя высновы з лёсу бліжэйшых суседзяў.

Зрэшты, яны яшчэ раней атрымалі магчымасць пазнаёміцца з карнымі акцыямі расійскага войска. Увесну 1839 г. навадворцы катэгарычна адмовіліся выконваць шарваркавую павіннасць. Пры гэтым яны згадалі пра вольнасці, якія атрымалі "ад былых каралёў польскіх", і былі гатовыя гэтыя вольнасці адстойваць. Прынамсі, такую выснову можна зрабіць з ліста сакратара Ваўкавыскага земскага суда да гродзенскага губернатара: "…Без

[46]Атлас народонаселения Западно-русского края по вероисповеданию. СПб., 1864, с. 10.

[47]Марозава С. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі. 1596-1839. Гродна, 2001, с. 254.

[48]НГА РБ у Гродне. Ф. 1, воп. 4, ад.з. 909, арк. 1.

достаточной военной команды нельзя привести тех крестьян в должное повиновение, ибо азартность их да такой дошла степени, что опасно даже ехать к ним чиновнику с каким либо предложением”. У выніку губернатар аддаў загад накіраваць у Новы Двор дзве роты салдат Гродзенскага гарнізона[49].

У 1847 г. у рамках рэформы дзяржаўных сялянаў, якую ініцыяваў міністр дзяржаўных маёмасцяў граф П. Кісялёў, у Новым Двары была праведзена люстрацыя. Яна папярэднічала пераводу дзяржаўных маёнткаў на аброк. Паводле новага інвентара (*Ведомость о количестве угодий Волковысского староства и войтовства)*, мястэчка мела 1269,91 дз. “бесспорной” зямлі (разам з лесам). 5433,2 дз. зямлі лічылася “спорной”[50]. Прэтэнзіі на яе выказвалі памешчыкі Свяжыньскі і Андрэйковіч. Усе ворныя землі мястэчка ацэньваліся па ніжэйшай шкале якасці, а менавіта як “худые”.

Люстрацыя ўступіла ў дзеянне ў 1850 г. І амаль адразу пачаліся праблемы. У 1852 г. жыхары Новага Двара і Поразава падалі прашэнне Гродзенскаму губернатару Х. фон Ховэну, у якім адмаўляліся выплачваць аброк, што быў налічаны падчас люстрацыі. У якасці галоўнага аргумента выступалі “прывілеі былых каралёў польскіх”. У прашэнні было адмоўлена. Аднак у 1856 г., калі ў Гродна прыехаў новы губернатар Іван Шпеер, навадворцы накіравалі яму аналагічнае прашэнне і адначасна звярнуліся ў Ваўкавыскі уездны суд. Спасылаючыся на былыя прывілеі і былыя інвентары, сяляне сцвярджалі, што ў Новым Двары ніколі не было паншчыны, што заўсёды яны валодалі землямі на вотчынных правах. Прасілі губернатарскага дазволу не плаціць аброк да вынясення рашэння Ваўкавыскім судом. Аднак і на гэты раз просьба не была задаволена. Чыноўнікі Гродзенскай палаты дзяржаўных маёмасцяў заявілі, што навадворцы не маюць ніякіх прывілеяў і павінны плаціць. Адпаведна губернатар загадаў Ваўкавыскаму уезднаму суду тэрмінова закончыць гэтую справу[51].

[49]Тамсама. Ф. 31, воп. 2, ад.з. 202, арк. 144 адв.-145.

[50]Тамсама. Ф. 1, воп. 13, ад.з. 967, арк. 3-6.

[51]Памяць. Свіслацкі раён..., с. 517.

У 1857 г. закончыўся перавод на аброк дзяржаўных маёнткаў. Іх сітуацыя значна палепшылася ў параўнанні з прыватнаўласніцкімі сялянамі. У прыватнасці, уводзілася самакіраванне, зніжаўся падатковы ціск і павялічваўся зямельны фонд. Галоўным заняткам навадворцаў заставалася земляробства.

Цэнтрам культурнага жыцця мястэчка доўгі час была царква (перабудаваная ў 1866 г.), і невыпадкова першай навучальнай установай у мястэчку стала царкоўна-прыходская школа. Яна існавала ў 1860 г. Праз некалькі гадоў адкрылася народнае вучылішча, якое на паўстагоддзя стала асноўнай адукацыйнай пляцоўкай у мястэчку. У 1891 г. у ім вучылася 77 дзяцей[52]. Народнае вучылішча ў мястэчку фігуравала таксама ў матэрыялах перапісу 1897 г. і ў статыстычным апісанні 1901 г.[53]

Рэформы 60-70-х гг. XIX ст. палепшылі становішча сялянства і стварылі новыя магчымасці для развіцця гаспадаркі. Перамены для дзяржаўных сялянаў распачаліся напрыканцы лета 1863 г. Указам ад 16 жніўня 1863 г. дзяржаўныя сяляне г. зв. “заходніх губерняў” былі пераведзеныя ў катэгорыю “сялян-уласнікаў”. Люстрацыйнымі камісіямі былі вызначаныя выкупныя плацяжы ў памеры налічанай аброчнай падаці з павышэннем на 10%. Сяляне павінны былі вярнуць гэты доўг за 49 гадоў (да 1.01.1913 г.)

Відавочна, што сацыяльна-эканамічныя перамены ў жыцці беларускага сялянства, у т. л. дзяржаўных сялянаў, былі прыспешаныя падзеямі паўстання 1863 г. Гэтае паўстанне стала адной з найважнейшых падзеяў у гісторыі Новага Двара ў другой палове XIX ст. Адным з наступстваў паўстання стаўся перавод дзяржаўных сялян у Беларусі на абавязковы выкуп. Іх новы статус “сялянін-уласнік” пачаў набываць канкрэтны змест. Хоць на самай справе ўласнікам заставалася дзяржава, а сяляне былі толькі землекарыстальнікамі. За сялянамі замацоўваліся надзелы, якія былі ў пастаянным карыстанні. Памеры надзелаў і выкупных плацяжоў устанаўліваліся люстрацыйнымі камісіямі і люстрацыйнымі актамі. У Гродзенскай губ. укладанне гэтых

[52] НГА РБ у Гродне. Ф. 14, воп. 3, ад.з. 76, арк. 28 адв. – 29 адв.

[53] Тамсама. Ф. 31, воп. 2, ад.з. 2447, арк. 18 адв.

актаў завяршылася да 1870 г. Вызначаныя выкупныя плацяжы былі меншыя, чым у прыватнаўласніцкіх сялянаў. Але пры гэтым не выдзяляліся дзяржаўныя крэдыты.

У 1865 г. у Новым Двары пачалася апошняя ў ягонай гісторыі люстрацыя. Быў складзены спіс 150 “домохозяев”, у якім, дарэчы, адсутнічаў галоўны герой артыкула Восіп Радкевіч. Відавочна, што да ліку навадворскіх “домохозяев” ён не належаў, хоць ужо 18 гадоў жыў у мястэчку.

На пачатку люстрацыі сяляне ў чарговы раз падалі скаргу ў суд і згадалі пра колішнія прывілеі. Пачалося чарговае разбіральніцтва, і ніякага рашэння Люстрацыйная камісія не прыняла. Толькі ў верасні 1865 г. Сенат прыняў рашэнне пакінуць скаргу без наступстваў (“Никаких вотчинных прав не имеют”). Камісія налічыла 654 руб. аброку, і навадворцы падалі яшчэ адну скаргу ў Ваўкавыскі суд. Яны прыгадалі, што ў 1798 г. (?!) аброк складаў толькі 180 руб. 50 кап.[54] Дарэчы, абараняючы свае правы, яны ўпершыню спасылаліся на рашэнні царскіх уладаў. Адначасна былі пададзеныя скаргі віленскаму генерал-губернатару, гродзенскаму губернатару, а таксама кіраўніцтву Упраўлення дзяржаўных маёмасцяў.

Неўзабаве Камісія аднавіла сваю дзейнасць, і ў мястэчка прыехаў выканаўца люстрацыйных працаў. Але навадворцы адмовіліся выбіраць упаўнаважанага. Люстрацыйны акт быў складзены без удзелу сялянаў. Толькі пад прымусам міравога пасярэдніка валасны старшыня і стараста выдалі пячатку, якой быў завераны Люстрацыйны акт. Сялянаў пазнаёмілі з ім на агульным сходзе. Але пасля выезду Камісіі зноў была пададзеная скарга, у якой сцвярджалася, што Люстрацыйны акт не мае законнай сілы, бо быў прыняты без сялянскай згоды.

Уражвае ўпартасць навадворскіх сялянаў у барацьбе за захаванне колішніх прывілеяў, за “спорные” землі і сенакосы. Відавочна нежаданне зразумець, што няма больш дзяржавы, у якой дзейнічалі “прывілеі каралёў польскіх”, і Новы Двор не

[54]Тамсама, арк. 30–34.

плаціў падаткаў. Гэтыя бясконцыя спрэчкі і судовыя скаргі таксама падкрэсліваюць значэнне зямлі для сялянскага жыцця, прынамсі, у Новым Двары XIX ст.

У рэшце рэшт у 1869 г. у Новым Двары быў падпісаны канчатковы Люстрацыйны акт[55]. Ён зафіксаваў у мястэчку 180 двароў і 400 "податных душ" сялян-уласнікаў, прыпісаных да мясцовага "общества". Паводле гэтага Акту, усё мястэчка мела 6179,33 дз. зямлі, у т. л. "удобной" — 5855,68 дз., а "неудобной" — 323,65 дз. Усе гэтыя землі размяшчаліся ў адным месцы і былі падзеленыя на асобныя надзелы. Люстрацыйны аброк за зямлю склаў 801 руб. з гаспадаркі.

Варта звярнуць увагу, што ў пераліку землеўласнікаў ("хозяев") ужо фігураваў адстаўны салдат Восіп Астаф'евіч Радкевіч. Ягоны надзел сядзібнай зямлі складаўся з 0,27 дз., якія не трэба было выкупаць. У гэтым сэнсе В. Радкевіч быў выключэннем. Амаль усе гаспадары з Новага Двара мелі сядзібныя надзелы "удобной" зямлі, за якія павінны былі разлічвацца з дзяржавай. Памеры гэтых надзелаў ваганіся ад 0,52 (Аляксей Грушэўскі і Рыгор Сакалоўскі) і 0,5 дз. (Філіп Філіповіч) да 0,1 (Антон Шырынга) і 0,08 дз. (Аляксей Сычэўнік). Уся сядзібная зямля складала 38,12 дз. Ворныя землі мястэчка налічвалі 3108,45 дз., сенакосы — 2087,56 дз., выганы — 395,87 дз.

Уявіць матэрыяльны бок сялянскага жыцця, штодзённы побыт селяніна дапамагаюць матэрыялы Паўночна-Заходняга аддзелу Імператарскага рускага геаграфічнага таварыства. На пачатку 70-х гг. Распараджальны камітэт Таварыства разаслаў настаўнікам і святарам апытальнік, які датычыў стану валасной прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Апісанне Навадворскай воласці, на жаль, не знойдзена. Затое захавалася апісанне суседняй Поразаўскай воласці, складзенае настаўнікам мясцовага народнага вучылішча Ігнатам Пякарскім[56]. Яно дазваляе

[55]Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта. Апісанне Поразаўскай воласці паводле апытання Паўночна-Заходняга аддзелу Імператарскага рускага геаграфічнага таварыства. 1873 г. F 34 – GD 88.

[56]Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Wyd.

ў агульных рысах зразумець стан сельскай гаспадаркі таксама ў Новым Двары, які знаходзіўся на адлегласці каля 10 км. Спосаб гаспадарання на зямлі быў аналагічным.

Паводле І. Пякарскага, у сялянскіх гаспадарках дамінавала трохполле. Праўда, сяляне яго штогод парушалі, засяваючы лепшыя паравыя землі бульбай. Наём сялянамі рабочай сілы абыходзіўся даволі дорага. Так, наём работніка мужчыны каштаваў ад 20 да 30 руб. у год, а работніцы жанчыны — ад 15 да 20 руб. Пры гэтым гаспадар гарантаваў работніку харчаванне і адзенне, што каштавала яшчэ каля 40 руб. штогод. Зямлю аралі сахой, якую цягалі валы або коні.

На сялянскіх палях раслі жыта, авёс, ячмень, грэчка і бульба, у агародах — капуста, буракі, морква, рэпа, бруква, цыбуля і часнык. Настаўнік сцвярджаў, што сялянскія патрэбы ў хлебе задавальняюцца. Апроч хлеба людзі харчаваліся бульбай, якая ўжывалася сама па сабе, а таксама як дадатак да мукі пры выпечцы хлеба. Сялянскі рацыён дапаўняла згаданая гароднiна, а таксама гарох, бабы і сачавіца. Звычайна сяляне трымалі столькі скаціны, колькі было неабходна для гаспадаркі і сям'і. На продаж скаціна ішла толькі "по старости лет" альбо па іншай прычыне, якая рабіла яго нягодным для гаспадаркі. Кошт каровы дасягаў 60 руб. срэбрам, каня — да 100 руб., авечкі — да 3 руб. Гусі і куры разводзіліся на продаж. Іх ахвотна куплялі габрэі. Гусь каштаваў ад 60 кап. да 1 руб. 05 кап., курыца — ад 20 да 30 кап. Пара яек прадавалася за 2,5 або 3 кап. Рыбалоўства і пчалярства як промыслаў не існавала, а паляванне на жывёлу і птушку было забаронена.

Асаблівай увагі заслугоўвае апісанне І. Пякарскім трох тыпаў сялянскіх гаспадарак — багатай, сярэдняй і беднай. Варта засяродзіцца на жыцці беднай гаспадаркі, бо двор Восіпа Радкевіча якраз належаў да гэтага тыпу. Дык вось, тыповая бедная сялянская гаспадарка Поразаўскай воласці складалася з дзвюх асобаў мужчынскага полу і трох жаночага ва ўзросце ад двух да

pod red. Bronisława Chlebowskiego i Wł.Walewskiego. T VII. Warszawa, 1886, s. 295

40 гадоў. (Заўважу, што да забойства жонкі склад сям'і В. Радкевіча быў амаль такі самы). Сям'я жыла ў старой хаце, крытай саломаю. Пакой для жытла быў толькі адзін з земляной падлогай. Маленькія вокны прапускалі не шмат святла. Рамы былі адныя як летам, так і зімой. Гумна гаспадар не меў. Затое на падворку месціліся два хлявы. Сям'я трымала трох кароў, чатырох авечак, адну свінню. Каня не мелі. Да асноўных гаспадарчых прыладаў працы І. Пякарскі аднёс саху, барану, сані і воз з неакованымі коламі. Гаспадар меў адну дзесяціну сядзібнай зямлі, сем дзесяцін ворыва і адну — сенакосу. Недахоп зямлі кампенсаваўся яе арэндай у памешчыка. За кожную дзесяціну трэба было адпрацаваць 9 дзён у год. Увесь сабраны ўраджай заставаўся ў сям'і. Будаўнічы лес не купляўся, а дровы каштавалі па 15 кап. за воз. На год гаспадар патрабаваў да 20 вазоў дроў. Усё верхняе і ніжняе адзенне выраблялася ўласнымі рукамі і з уласнага матэрыялу. А "другие жизненные потребности" каштавалі беднай сялянскай сям'і да 1,5 руб. у год. Сям'я была вымушаная шукаць заробку па-за ўласнай гаспадаркай. Нормай было штодзённае змаганне за выжыванне.

І, тым не менш, сацыяльна-эканамічныя перамены 60-70-х гг. паступова давалі плён. Жыхары мястэчка станавіліся больш заможнымі. Адным з вынікаў гэтага стаўся дэмаграфічны рост. *Слоўнік геаграфічны Каралеўства Польскага ды іншых славянскіх земляў* (1886) паведаміў, што ў Новым Двары пражываюць 1183 чал., у т. л. 100 габрэяў. Падароскае "благочиние", да якога належала таксама навадворская царква Св. Міхаіла, налічвала 1068 вернікаў[57]. Варта звярнуць увагу на адносна невялікую для беларускага мястэчка колькасць габрэяў. Верагодна, гэта тлумачылася дамінаваннем земляробства.

Паводле статыстычнага апісання 1888 г.[58], у Новым Двары пражывала 1305 чал., з якіх болей за 90% жылі з зямлі. 23 жыхары мястэчка займаліся гандлем, шасцёра — рамяством і 21 — пас-

[57]НГА РБ у Гродне. Ф. 2, воп. 32, ад.з. 1501, арк. 87 адв. – 88, 145 адв. – 146, 210 адв. – 211, 232 адв. – 233; Варанец І.І., Палубінскі А,С., Крыштофік В.Я. У паслярэформенны час // Памяць. Свіслацкі раён..., с. 59.

[58]Памяць. Свіслацкі раён..., с. 517.

лугамі. Саслоўная структура мястэчка падлічвалася толькі па мужчынскаму насельніцтву і адпавядала галоўным заняткам яго жыхароў: сяляне — 599 чал., мяшчане — 50 чал., духавенства — 1 чал., дваране адсутнічалі. Па канфесійнаму складу мястэчка было пераважна праваслаўным. 595 сялян-гаспадароў належалі да праваслаўнага прыходу. Толькі чацвёра былі каталікамі. Дарэчы, дзеля параўнання варта адзначыць, што ў суседніх мястэчках Поразава і Свіслачы ў гэты час актыўна развіваліся рамёствы (напр., ганчарнае), якія давалі дадатковы прыбытак. Земляробствам у Свіслачы займалася толькі 35% насельніцтва, а ў Поразаве — 45%.

Напрыканцы 80-х гг. XIX ст. у Новым Двары ўсё яшчэ адсутнічала прамысловасць. Тут не было заводаў і фабрык, адсутнічалі гандлёвыя лаўкі (у Свіслачы — 35, а ў Поразаве — 49), не праводзіліся базары і кірмашы. Затое мястэчка мела 8 млыноў (у 4 разы болей, чым мелі Свіслач і Поразава разам). Тут адчыніліся два “кабакі”, якія ў год давалі да 300 руб. прыбытку. Але і па гэтаму паказчыку Новы Двор саступаў суседзям. У Поразаве існавалі 8 кабакоў (прыбытак — 4 тыс. руб.), а ў Свіслачы — 12 (прыбытак — 5,2 тыс. руб.). З улікам таго, што найвялікшыя прыбыткі кабакі атрымлівалі падчас базарных дзён і кірмашоў, можна выказаць меркаванне, што грошы навадворцаў часцяком заставаліся ў кабаках Свіслачы і Поразава.

Перапіс 1897 г. зафіксаваў у Новым Двары ўжо 271 сялянскую гаспадарку і 1481 жыхара. Перапісчыкі адзначылі краму “дробнага тавару”, збожжавы склад, праваслаўную царкву, народнае вучылішча, два млыны і два “питейных дома”[59]. Перапіс таксама зафіксаваў у мястэчку сінагогу. Яна ж адзначалася ў статыстычным апісанні Новага Двара за 1901 г.[60] Гэтую сінагогу згадваюць таксама сучасныя навадворцы сталага веку. Яна згарэла падчас пажару 1937 г. і не аднаўлялася.

---

[59]НГА РБ у Гродне. Ф. 14, воп. 3, ад.з. 76, арк. 28 адв. – 29 адв.

[60]Надпіс на крыжы: 1853. TU LEZY MAGDALINA FILIPOWIC. Захаваўшыяся запісы метрычнай кнігі дазволілі ўдакладніць астатняе (НГА РБ. Ф. 248, воп. 1, ад.з. 1, арк. 119 адв.). Варта звярнуць увагу на польскую мову надпіса, а таксама на сам факт устаноўкі каменнага крыжа (каля 1 м вышыні і 0,5 м шырыні) на магіле пяцігадовай дачкі селяніна Івана Фаміча Філіповіча.

Такім чынам, на працягу XIX ст. навадворцы не здрадзілі сваймо асноўнаму жыццёваму занятку, і ў XX ст. Новы Двор уступіў як земляробчае мястэчка. Менавіта сялянская праца вызначала ўвесь жыццёвы цыкл, звычаі і традыцыі ягоных жыхароў. Адной з найвастрэйшых праблемаў з'яўлялася зямельная, якая істотна ўплывала на міжасабовыя адносіны.

Аднак навадворцы другой паловы XIX ст. адрозніваліся ад сваіх дзядоў і прадзедаў, прынамсі, больш выразнай прысутнасцю ў сацыяльным і культурным жыцці эпохі. Наогул, беларускае сялянства ў апошнюю трэціну XIX ст. перажывала пэўны сацыяльны рэнесанс. Яно пераставала быць "маўклівай большасцю", а ўсё часцей заяўляла пра свае правы. Да гэтай перамены істотна прычынілася паўстанне 1863–1864 гг.

Наступнае стагоддзе яшчэ больш змяніла Новы Двор. Але наведванне (21 кастрычніка і 18 снежня 2007 г.) сучаснай вёскі Свіслацкага раёна Гродзенскай вобл. паказала, што яна таксама з'яўляецца крыніцай для разумення падзеяў 60-70-х гг. XIX ст.

У прыватнасці, ужо пры ўездзе ў вёску прыцягнулі ўвагу прыдарожныя крыжы — праваслаўны і каталіцкі. Яны стаяць побач, але пры гэтым каталіцкі знаходзіцца перад шыльдай з надпісам "Новы Двор". Ён быў вынесены за межы вёскі. Як высветлілася пазней, гэта была ўмова мясцовых кіраўнікоў, якія толькі пры яе выкананні згадзіліся на ўстаноўку каталіцкага крыжа.

Вельмі цікавай крыніцай гісторыі аказаліся могілкі, на якіх захаваліся магілы сярэдзіны і другой паловы XIX ст. Тут пахаваныя прадстаўнікі "карэнных" навадворскіх родаў — Каскевічы, Ботвічы, Грушэўскія, Філіповічы, Грыцкевічы, Ганчарэвічы, Гамановічы, Катаркевічы, Сычэўнікі, Лісоўскія ды інш. Каменныя крыжы на магілах 80-90-х гг. XIX ст. засведчылі адносна высокі дабрабыт вяскоўцаў таго часу. Самы старажытны надгробны крыж, які атрымалася ідэнтыфікаваць, быў пастаўлены на магіле Магдалены Філіповіч[61], якая памерла ў 1853 г. ад воспы.

[61]Аўдыяматэрыялы экспедыцый у Новы двор 21.10.2007 г. і 18.12.2007 г. захоўваюцца ў архіве аўтара.

Магіла Восіпа Радкевіча не захавалася, але былі знойдзеныя магілы ягоных нашчадкаў.

Даволі цікавы матэрыял для разважанняў далі размовы з вяскоўцамі, якія дапамаглі высветліць цэлы шэраг істотных асаблівасцяў жыцця вёскі і менталітэту яе жыхароў[62]. У прыватнасці, звярнула на сябе ўвагу частае выкарыстанне ў размове саманазвы (“навадворцы”). У большасці беларускіх вёсак падчас аналагічных экспедыцый трэба распытваць жыхароў пра саманазву. Тут жа тэрмін “навадворцы” актыўна прысутнічаў у размовах і сведчыў пра высокую ступень лакальнай ідэнтыфікацыі. Пры гэтым сцвярджалася “замкнёнасць” навадворцаў, згадвалася, што некалі нават шлюбы яны бралі выключна з “сваімі”. Тлумачэнні гэтай замкнёнасці зводзіліся да тэзісаў пра заўсёдную вольнасць жыхароў Новага Двара ў параўнанні з насельніцтвам суседніх вёсак, пра вастрыню зямельнай праблемы. Верагодна, сваю ролю адыгрывала і тое, што амаль цалкам праваслаўны Новы Двор (пасля 1839 г.) знаходзіўся (і знаходзіцца) у канфесійна мяшанай прасторы побач з каталіцкімі вёскамі.

Цікавыя вынікі далі спробы параўнання навадворцаў і жыхароў навакольных вёсак. Найчасцей згадваліся поразаўцы. Гістарычнае суседства абярнулася канкурэнцыяй, якая не закончылася і па сёння. Звычайна людзі казалі пра ганарлівасць поразаўцаў, якія раней ніколі не саступалі дарогі навадворцам. Даходзіла да бойкі, але суседзі дамагаліся свайго. Падобна на тое, што пачуццё “вышэйшасці” мацавалася прыналежнасцю, прынамсі, часткі поразаўцаў да каталіцкага касцёла. Зрэшты, гэта не датычыла поразаўцаў другой паловы XIX ст. У той час пераважалі праваслаўныя, якія, праўда, не жадалі забываць свае ўніяцкія традыцыі. Навадворцы, у сваю чаргу, ніколі не саступалі дарогі жыхарам колішніх прыватнаўласніцкіх вёсак. Іх “вышэйшасць” трымалася на ўсведамленні, што яны свабодныя людзі і “мещане”, а не халопы.

Згадка прозвішча Радкевічаў адразу выклікала рэпліку, што яны прышлыя, чужыя для Новага Двара. Уразіла, што 160 гадоў, якія

[62]Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць. Творы, дакументы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999, с. 27–39.

Радкевічы пражылі ў мястэчку і вёсцы, аказалася недастаткова, каб стаць "сваімі". (Восіп Радкевіч перасяліўся ў Новы Двор у 1847 г.). Нават успаміны пра пажар 1937 г., калі Новы Двор згарэў амаль цалкам, суправаджаліся разважаннямі пра верагодную віну тых самых Радкевічаў.

Дарэчы, апошняя хата Радкевічаў стаіць на тым самым месцы, дзе некалі ў сярэдзіне XIX ст. месцілася сядзіба Восіпа Радкевіча. Яна была збудаваная ў міжваенны час на ўскрайку вёскі на беразе рэчкі Мядзянкі, якая больш нагадвае крыніцу. За рэчкай знаходзіцца пясчаны ўзгорак, зарослы сасновым лесам. Апошняя гаспадыня гэтай хаты памерла некалькі гадоў таму, а яе дачка пераехала ў Гродна.

На дзіва, у вёсцы захавалася памяць пра падзеі 1863 г. Грыцкевіч Вера Іванаўна, 1931 г. нар., прыгадала, што яе мама Ганна Грушэўская, якая пражыла 99 гадоў, калісьці пераказвала ўспаміны старэйшых людзей пра павешаную паўстанцамі бабулю Радкевічаў. Ганна Грушэўская параўноўвала часы паўстання з падзеямі Другой сусветнай вайны, а паўстанцаў з партызанамі, якія, дарэчы, шмат у каго пакінулі даволі цяжкія ўспаміны пра свае начныя наведванні. Затое ў матэрыялах школьнага музея эпізод павешання набыў цалкам іншы кантэкст. Сцвярджалася, што яе павесілі царскія войскі, каб здушыць хваляванні навадворскіх сялянаў, незадаволеных той "зямлёй і воляй", якую яны атрымалі па рэформе 1861 г. (?!)

Размовы пра Другую сусветную вайну абярнуліся шэрагам даволі крытычных характарыстык навадворцаў:

*"[…] Навадворцы яны на прадажу цікавыя. Якую прадажу? Прадаць людзей. Поразаўцы нікога не выдалі. Там нікога не забралі".*

*"[…] Тут прадаць могуць. У тую вайну ўсіх да адзінага прадалі".*

У размовах згадваліся даносы як рыса мясцовага жыцця: *"Такія тут людзі…"*

Дарэчы, навадворскіх мужыкоў не было ў партызанах, бо на самым пачатку нямецкай акупацыі амаль усе былыя “актывісты” былі арыштаваныя і вывезеныя ў Германію на працу. Усе яны загінулі. Паміж сабой людзі казалі, што тут не абышлося без даносу. Іншыя не пайшлі ў партызаны, бо гэта магло абярнуцца расстрэлам сям’і. У Новым Двары амаль пастаянна знаходзіліся нямецкія войскі.

Успаміны пра навадворцаў-змагароў былі рэдкімі. Часцей гучала думка, што навадворцы “людзі ціхія, нікуды не лезлі”. Тым не менш, калі ў 1964 г. па рашэнні Навадворскага сельсавета (старшыня Рыбак) была разабраная царква Святога Міхаіла, жанчыны прыходзілі на пустое месца і маліліся.

*Паўстанне. Вікенці Канстанцін (Кастусь) Каліноўскі (1838–1864)*

Адной з ключавых постацяў паўстання 1863 г. з’яўляўся ўраджэнец вёскі Мастаўляны Ваўкавыскага уезда шляхціц Вікенці Канстанцін (Кастусь) Каліноўскі (1838-1864). Хутар Якушоўка, на якім у часы паўстання жылі ягоныя бацькі, знаходзіўся на адлегласці каля 20 км ад Новага Двара. Можна меркаваць, што К. Каліноўскі добра ведаў жыццё вёсак і мястэчак гэтай часткі Белавежскай пушчы і арыентаваўся ў настроях мясцовых жыхароў.

Кастусь Каліноўскі ў 1862 г. узначаліў Гродзенскую рэвалюцыйную арганізацыю. Найбольш яркай старонкай яе дзейнасці стала выданне “Мужыцкай праўды”. Змест газеты дазваляе ахарактарызаваць асноўныя ідэйныя ўстаноўкі кіраўнікоў будучага паўстання, прынамсі, тыя з іх, якія павінны былі ўзняць масы на барацьбу.

На старонках “Мужыцкай праўды” сцвярджалася, што паўстанне вядзецца “За нашую вольнасць!” Паводле Каліноўскага, вольнасць, — гэта “зямелька, якую абяцалі, але падманулі і не далі”. А зямля належыць сялянам, бо “з дзядоў прадзядоў кроўнаю

працаю на яе зарабілі ды заплацілі”. Вольнасць — гэта права “не даваць некрутаў” і “не хадзіць у маскалі”. Вольнасць — гэта жыццё без “маскалёў” і “лапсэсараў”, без хлусні маскоўскага “ронду”. Вольнасць — гэта права мець “ронд для народу”. І нарэшце, гэта спавяданне “справядлівай нашай уніяцкай веры”[63].

Усе абставіны паўстання і дзейнасць Каліноўскага як кіраўніка Літоўскага правінцыйнага камітэта, як камісара Гродзенскага ваяводства, нарэшце, як “дыктатара Літвы” ў гэтым артыкуле асвятляць не мае сэнсу. Варта толькі адзначыць, што асоба Кастуся Каліноўскага здаўна прыцягвала да сябе ўвагу даследчыкаў. На старонках большасці гістарычных даследаванняў айчынных аўтараў створаны вобраз народнага (і нават нацыянальнага) героя, які змагаўся як за лепшую долю беларускіх сялянаў, так і за будучыню незалежнай Беларусі без панавання “маскалёў” і польскіх памешчыкаў. На самай справе, варта задумацца, у якой ступені постаць “Яські-гаспадара з-пад Вільні” тоесная асобе самога Каліноўскага. Ёсць падставы сцвярджаць, што свядомасць “дыктатара Літвы” альбо, прынамсі, яе адлюстраванне ў ягоных тэкстах, немагчыма ахарактарызаваць толькі ў межах беларускага нацыянальнага дыскурсу. Знаёмства з тэкстамі сведчыць хутчэй пра феномен ліцвінства напярэдадні наступу эпохі нацыяналізмаў[64].

Гісторыкі больш згодныя ў ацэнках ролі Каліноўскага ў гэтым паўстанні. Ён небеспадстаўна ўяўляецца найбольш паслядоўным і рашучым змагаром “За вольнасць нашу і вашу!” Якраз дзякуючы ягоным намаганням паўстанне ў Беларусі і Літве пратрывала да вясны 1864 г. Для яго барацьба працягвалася ў турме і нават на Лукішках пад шыбеніцай. У пэўны момант знік Вікенці Канстанцін Каліноўскі, а застаўся толькі “Яська-гаспадар з-пад Вільні”.

Ягоную мужнасць прызнавалі нават тыя, хто не падзяляў поглядаў Каліноўскага на мэты і задачы паўстання. Адзін з права-

[63]Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864–люты 1917 г. Санкт-Петербург: Невский простор, 2004, с. 59-60.

[64]Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857-1865. T. 1. Wilno, 1913, s. 237–238.

дыроў “белых” у гэтым паўстанні Якуб Гейштар пакінуў наступную характарыстыку Каліноўскага: *“Каліноўскі, можна сказаць, быў чалавекам фармату героя, з бязмежнай самаахвярнасцю, моцным характарам […] Ён быў узорным канспіратарам; толькі ён адзін быў здольны месяцамі працаваць у Вільні ў перыяд самага жорсткага тэрору. Ён, якога паўсюдна шукалі, прыходзіў да Дамініканскай брамы на кожную расправу з паўстанцамі; бачыў асуджаных на смерць і пад пагрозай штодзённага арышту ні на хвіліну не страціў энергіі. Пад моцным кіраўніцтвам — выдатны выканаўца, бо ўмеў падпарадкоўвацца, калі яму загадвалі ў імя абавязку. У тэорыі — шаленец, пол-Марат, літвін-сепаратыст, але меў сэрца старапольскае; галава занятая падхопленымі чужымі прынцыпамі, але праца, цярплівасць, ахвярнасць героя”[65].*

Паводле легенды, Каліноўскі нібыта заявіў старшыні следчай камісіі: *“Цяпер можаце быць спакойным. Раз мяне ўзялі, то ў Вільні будзе спакойна”*. Як пісаў Гейштар, Камісія жартавала, што арыштаваны выказваўся як “дыктатар Літвы”, аднак, дадаваў ён, *“напэўна ні справе, ні якой-небудзь асобе не пашкодзіў. Прызнаваўся ў дзеяннях, але нікога не скампраметаваў. Прыгожая постаць […]”*[66]

Дарэчы, варта яшчэ раз задумацца над апошнімі гадзінамі жыцця гэтага чалавека. Яны шмат гавораць пра характар і свядомасць Каліноўскага. Незадоўга да смерці ён напісаў вядомыя “Лісты з-пад шыбеніцы” на беларускай мове, якія атрымалася перадаць на волю. Ягонае развітанне з жыццём — гэта заклік працягваць змаганне. Барацьба была сэнсам існавання, і нават чаканне смерці нічога не змяніла. Захавалася апісанне апошніх хвілінаў Каліноўскага, якое не можа не ўражваць. Нават пад шыбеніцай гэты чалавек захаваў яснасць розуму і нязменнасць уласнай грамадзянскай пазіцыі. Яго не паралізавала блізкасць смерці. Ён слухаў словы прысуду і каментаваў іх: “У нас нет дворян, все равны!”[67]

[65]Ibidem. T. 2. Wilno, 1913, s. 140–141.

[66]Апошнія словы (паводле А. Масалова) // Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць. Творы, дакументы. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999, с. 208.

[67]Гісторыя Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах.

Каліноўскага папрасілі замаўчаць. Пакаранне адбылося...

Звычайна ў якасці галоўнага антыпода Кастуся Каліноўскага фігуруе Віленскі генерал-губернатар граф Міхаіл Мураўёў, які паслядоўна змагаўся з "метежниками". Але на самай справе значна большую небяспеку паўстанню ўтрымлівала пазіцыя сялянства, з якім Каліноўскі звязваў надзеі на перамогу і якое іх не спраўдзіла.

Пасля вяртання да кіраўніцтва паўстаннем 11 чэрвеня 1863 г. Каліноўскі напісаў *Прыказ ад Ронду Польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да народу зямлі літоўскай і беларускай*. Гэты вядомы дакумент заслугоўвае асаблівай увагі ў святле тых падзеяў, якія пазней адбыліся ў Новым Двары.

У гэтым *Прыказе* К. Каліноўскі адмаўляўся надалей пераконваць сялянаў у неабходнасці падтрымліваць змагароў "За вольнасць нашу і вашу!" Ён яшчэ тлумачыў сітуацыю, але ўжо не прасіў, не прапаноўваў, а загадваў. Словы Каліноўскага гучалі як прысуд тым, хто стаў на бок ворага: *"Цяпер то настаў час, што кажному будзе одмерано так, як ён сам сабе намерыць. Пан будзе ліхі — пана павесім як сабаку! Мужык будзе кепскі — то і мужыка павесім, а двары іх і сёла з дымом пойдуць і будзе справядлівая вольнасць — бо гэтага сам Бог ужэ хочэ і Прэчыстая маці! [...] А хто гэтаму прыказу спрэчон будзе, таго — ці ён поп, ксёндз, мужык ці пан, усякага данасіць да Ронду польскага, каб можна было позьней павесіць або, сазваўшы грамаду і зрабіўшы справядлівы суд, без адгаворкі весці на шыбеніцу! Бо хто хочэ крыўды людской — той нехай лепш сам марно прападае!"*[68]

У гэтым жа месяцы выйшаў апошні нумар "Мужыцкай праўды". Ягоная танальнасць моцна нагадвала *Прыказ...*: *"А такіх, што за грошы не пабаяліся служыць ворагам нашым, што не хацелі мужыкам зямлі ды праўды на свеце, ды спрэчны былі новай*

---

Хрэстаматыя. Укладальнік А. Смалянчук. Вільня, 2007, с. 150–151.

[68]Мужыцкая праўда. 1863. № 7 // Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць..., с. 37-39.

*вольнасці і новаму польскаму маніфесту, гэтакіх вешаюць як подлых сабак, селішчы іх апусцелі, пайшлі з дымам іх хаты, прапала марна худоба”[69].*

Сярод матэрыялаў гістарычнага архіва ў Гродне захаваўся ў перакладзе на рускую мову зварот *Отдела руководства литовскими провинциями* (так у тэксце), які, верагодна, таксама быў напісаны напачатку чэрвеня. Зварот заклікаў весці партызанскую вайну, шырыць кола змагароў, перадаваць сялянам зямлю ў безумоўную маёмасць, а таксама весці рашучую барацьбу з даносчыкамі: *“Также смерти должны быть подвержены все шпионы доносчики. К какому бы сословию они не принадлежали, так как перед лицом закона в этом печальном событии должно быть соблюдено равенство всех сословий”[70].* Камандзіры атрадаў павінны былі зачытваць зварот сваім паўстанцам.

Магчыма, забойства Клары Радкевіч (і не толькі яе) было наступствам якраз гэтых загадаў.

*Паўстанне. Новы Двор і паўстанцы*

Белавежская пушча была тэрыторыяй дзейнасці некалькіх буйных паўстанцкіх атрадаў. Тамсама актыўна рыхтавалася паўстанне. Наваколлі Новага Двара сталі зонай распаўсюджання “Мужыцкай праўды”. Часцяком гэта рабіў сам Кастусь Каліноўскі.

27 кастрычніка 1862 г. станавы прыстаў Слонімскага уезда Агапін у рапарце ваеннаму губернатару Гродна генералу Галеру паведамляў пра з’яўленне “Мужыцкай праўды”, якую “злонамеренные люди” падкідаюць сялянам. Прыстаў здолеў адшукаць у вёсцы Шайпакі два асобнікі газеты. Сяляне заявілі, што гэтую газету выкінуў з карэты невядомы праезджы. Паказанні сялянаў і запісы ў кнізе Ружанскай паштовай станцыі

[69]НГА РБ у Гродне. Ф. 3, воп. 1, ад.з. 16, арк. 68-71.

[70]Тамсама. Воп. 3, ад.з. 6, арк. 1.

сведчылі, што ім быў "некто дворянин Викентий Калиновский". Таксама высветлілася, што ямшчык паштовай станцыі вазіў К. Каліноўскага ў Падароск[71]. Далейшае следства працягвалі ўжо жандары, якія даведаліся, што Каліноўскі наведаў ксяндза Казлоўскага ў Вялікай Бераставіцы, з якім разам паехаў у Гродна. Капітан корпуса жандараў Віт таксама ўстанавіў, што ў сваіх ранейшых паездках Каліноўскі неаднаразова наведваў Свіслач і Якушоўку, дзе жывуць ягоныя бацькі. За домам у Якушоўцы было ўстаноўлена "постоянное секретное наблюдение"[72].

Каліноўскі меў прыхільнікаў у родных мясцінах. Ёсць звесткі, што пісар Гарнастаевіцкага валаснога праўлення (10 км ад Новага Двара) чытаў "Мужыцкую праўду" сялянам. Мясцовыя краязнаўцы выказалі думку, што ён быў нават асабіста знаёмы з кіраўніком Літоўскага правінцыйнага камітэта[73].

Трэба адзначыць пэўны плён прапагандысцкай акцыі "Мужыцкай праўды". У першую чаргу ён праявіўся ў больш актыўным удзеле сялянства Гродзеншчыны ў паўстанні. Апроч таго, сяляне засвоілі многія тэзісы газеты Каліноўскага, якія сталіся часткай іх свядомасці. Нават у 1886 г. інфармант этнографа Паўла Шэйна Іван Карскі з вёскі Лаша Гродзенскага у. паведамляў, што сяляне не моляцца за "Царя-освободителя", а гавораць: *"[...] не былі бы мы волные, але дзякаваць Пану Богу за француза. Ён, як воеваў у Сістопаля* (Севастополя — П.Ш.) *то і прыказаў нашаму цару, каб даць вольнасць нам, бедным мужыкам і ціпер мы волные"[74].*

Гэтыя мужыцкія размовы 1886 г. амаль дакладна паўтаралі змест № 3 "Мужыцкай праўды".

---

[71]Тамсама, арк. 13.

[72]Ягорычаў У.Я., Палубінскі А.С. Паўстанне 1863-1864 гг. // Памяць. Свіслацкі раён..., с. 65.

[73]Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Собранные и приведенные в порядок П.В. Шейном. Том I, часть II. Бытовая и семейная жизнь белоруса в обрядах и песнях. СПб., 1890, с. 37–38.

[74]Материалы для изучения быта…, с. 98.

Тым не менш, магчымасці прапаганды былі абмежаваныя адсутнасцю сеткі распаўсюджвальнікаў, невялікай колькасцю асобнікаў газеты, якая не заўсёды трапляла па прызначэнні, і, галоўным чынам, непісьменнасцю асноўнай масы сялянства (нагадаю, што першая школа ў Новым Двары была адкрытая толькі ў 1860 г.). Малаверагодна, што "Мужыцкая праўда" да паўстання трапіла ў мястэчка. Па меншай меры, у дакументах, якія датычаць падзеяў паўстання і асобы Каліноўскага, такі факт не згадваецца. Можна меркаваць, што жыхары Новага Двара слаба арыентаваліся ў мэтах паўстання. Адначасна яны павінны былі ведаць афіцыйную версію, якую пашыралі расійскія чыноўнікі. Сцвярджалася, што гэта "паны" ("палякі") паўсталі, каб вярнуць прыгон. Падобнае разуменне паўстання накладалася на традыцыйную сялянскую непрыязнасць да "пана-паляка".

Рэпліка этнографа:

*Поляков они* (сяляне — А. С.) *не любят вообще, помещиков же польских просто ненавидят. В каждом поляке им представляется пан или управитель пана, которые их постоянно преследовали и угнетали. Если при проезде какого-нибудь помещика-поляка спросить у крестьянина: "Кто это проехал?", то он непременно ответит: "Гэта крук поехаў у гарэці". А если увидит несколько помещиков, едущих в костёл, либо в суд, то и тут скажет: "Глядзі колько пайшло крукоў!" (Іван Карскі)[75].*

*"[...] поляков не любят, так как с представлением о поляке является представление о пане, панщине и пригоне"[76].*

Увесну 1863 г. у лясах каля Новага Двара найчасцей з'яўляліся атрады ўраджэнца Ваўкавыскага у. Густава Стравінскага, больш вядомага як "Млотэк", і пружанскага памешчыка Шчэнснага Влодэка. Ваўкавыскі і Пружанскі уезды былі зонай дыслакацыі якраз гэтых атрадаў. Таксама ў гэтай частцы Белавежскай пушчы

[75]Там же, с. 21.

[76]Повстанческое движение в Гродненской губернии. 1863-1864 гг. / сост. Т.Ю. Афанасьева и др.; под ред. Д.В. Карева. Брест: Академия, 2006, с. 46.

неаднаразова ратаваліся ад пераследу атрады кіраўнікоў Гродзенскага ваяводства А. Духінскага і В. Урублеўскага, дзейнічаў атрад А. Лянкевіча.

Паўстанцы знаходзіліся каля мястэчка, але актыўных дзеянняў не вялі. Харчаванне куплялі або забіралі ў сялянаў. Апошнім якраз вызначаўся атрад Ш. Влодэка.

З паказанняў адстаўнога падпаручыка Станіслава Трэмбіцкага з атрада Влодэка: *"Что же касается до пищи, то шайка ее доставала следующим образом: что откомандировывались небольшие отряды в ближайшие деревни и забирали там что только находили съестного и таким образом пропитывались со дня на день"[77].*

Якраз з забеспячэннем паўстанцаў харчаваннем звязаны ўдзел навадворцаў у гэтых падзеях. Гродзенскі губернатар І. Скварцоў пазней пісаў у Вільню, што дзяржаўныя сяляне мястэчка Новы Двор праваслаўнага веравызнання "были замечены в доставлении мятежникам продовольствия и за то подвержены денежной контрибуции"[78]. Прыхільнасць навадворцаў да паўстання зразумелая, калі мы ўспомнім тыя шматлікія скаргі і прашэнні, у якіх "мяшчане" Новага Двара згадвалі пра свае ранейшыя прывілеі і не жадалі выконваць павіннасці, накладзеныя ў абыход указаў "былых каралёў польскіх". Але за гэтую дапамогу прыйшлося заплаціць свой кошт. Апроч грашовай кантрыбуцыі ў мястэчку былі арыштаваныя Фларыян і Настасся Грушэўскія, якіх змясцілі ў Ваўкавыскі астрог[79].

10 траўня 1863 г. граф Мураўёў падпісаў цыркуляр, які дазвалялася накладаць грашовую кантрыбуцыю на тых жыхароў "Заходняга краю", што не паведамілі пра перамяшчэнні паўстанцаў.

Трэба прызнаць, што ваўкавыскі спраўнік не меў праблемы з "осведомителями". Ягоныя рапарты сведчаць, што ён быў у кур-

[77]НГА РБ у Гродне. Ф. 1, воп. 34, ад.з. 943, арк. 35.

[78]Тамсама. Ф. 970, воп. 2, ад.з. 10, арк. 204–204 адв.

[79]Тамсама. Ф. 3, воп. 1, ад.з. 16, арк. 40.

се большасці перамяшчэнняў паўстанцкіх атрадаў. Гэта дазваляла расійскім вайскоўцам досыць хутка рэагаваць на рух кожнага атрада. Таксама гэтыя рапарты дапамагаюць уявіць агульную карціну таго, што адбывалася ў наваколлях Новага Двара. Паводле інфармацыі спраўніка, якую ён 11 траўня перадаў у Гродзенскую губернскую канцылярыю, атрад паўстанцаў колькасцю каля 500 чалавек прайшоў праз Новы Двор у накірунку Белавежскай пушчы[80]. 13 траўня паблізу Новага Двара адбылася сутычка батальёна капітана Кулікоўскага з паўстанцамі, якія страцілі забітымі 12 чалавек[81].

17 траўня Новы Двор занялі казакі і салдаты. Паўстанцы ў гэты момант рушылі да Мілавідаў Слонімскага у., дзе адбылося аб'яднанне атрадаў "Млотэка", Юндзіла, Міладоўскага, Влодэка, Лашкевіча і Лянкевіча. 21 траўня туды дабраўся і Каліноўскі, які правяраў баяздольнасць паўстанцаў.

22 траўня пад Мілавідамі адбыўся адзін з самых вядомых баёў гэтага паўстання на тэрыторыі Беларусі. Аб'яднаны атрад колькасцю каля 800 чалавек пад кіраўніцтвам Аляксандра Лянкевіча ("Ляндэра") вытрымаў атакі трох рот Стараінгерманландцкага палка, узмоцненага казакамі і гарматамі. Увечары атрад палкоўніка Булгарына, які так і не здолеў захапіць лагер паўстанцаў, адступіў. Паўстанцы пакінулі свае пазіцыі ўначы. Дарэчы, атрад Влодэка напярэдадні бітвы самавольна адышоў ад Мілавідаў і накіраваўся ў Брэсцкі у. Пазней кіраўнікі паўстання крытыкавалі Влодэка за бессэнсоўнае блуканне па лясах.

24 траўня адбыўся моцны бой у Ружанскай пушчы, дзе батальён Неўскага пяхотнага палка атакаваў частку атрада А. Лянкевіча, якая не ўдзельнічала ў Мілавідскім баі, і нанёс ёй адчувальныя страты. Падчас гэтага праследу штаб ваеннага начальніка Ваўкавыскага у. падпалкоўніка Казанлі знаходзіўся ў Новым Двары.

---

[80] З хронікі баявых сутычак паўстанцаў. Укл. С. Філатава // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 3. С. 59; Aramowicz I. Pamiętnik o ruchu partyzanskim w województwie grodzieńskim w 1863 i 1864 r. Bendlikon, 1865.

[81] НГА РБ у Гродне. Ф. 3, воп. 1, ад.з. 16, арк. 50.

3 чэрвеня адбыўся бой каля мястэчка Лыскова, дзе паўстанцы А. Духінскага і В. Урублеўскага паспяхова біліся з карнікамі. 4 чэрвеня ўлады зноў атрымалі інфармацыю пра паўстанцаў, якія знаходзіліся каля Новага Двара, "прилежащего к большим лесам". Ваўкавыскі спраўнік таксама высветліў, што паўстанцы выпраўляюцца ў маёнтак Адамкаў памешчыка Быхаўца і на ферму Корнедзь. Стала вядома, што раней яны наведалі маёнтак Якушоўку, дзе ўзялі падводу[82].

На Новы Двор рушыў трыма калонамі вялікі вайсковы атрад. 6–8 чэрвеня яны перасьледавалі паўстанцаў, а 9 чэрвеня дагналі іх каля в. Шаркоўшчына і навязалі бой. Паўстанцаў выбілі з пазіцый і перасьледавалі ў лесе. Аднак пераслед абярнуўся вялікімі стратамі для расійскага войска. Вось што паведамляў у рапарце падпалкоўнік Казанлі: *"Лес был до такой степени густ, что многие мятежники, скрываясь за вывороченными корнями в чаще леса, а равно и на деревьях, оставшись позади наступавшей цепи, стреляли по нашим резервам, которые были истреблены окончательно"[83].*

Гэты першы летні месяц быў пераломным. Актыўнасць афіцыйнай прапаганды, дазвол часоваабавязаным сялянам з 1 траўня выкупляць зямлю, рэпрэсіі супраць удзельнікаў паўстання, нарэшце, перамогі расійскага войска канчаткова вызначылі пазіцыю сялянства. Каліноўскі і ягоныя паўстанцы не атрымалі належнай падтрымкі. Больш за тое, у чэрвені пачалося актыўнае стварэнне "сельских вооруженных караулов". Кожны каравул складаўся з 60-100 сялянаў, узброеных "халоднай зброяй" на чале з унтэр-афіцэрам з кадравых войскаў.

Правілы іх арганізацыі былі падпісаныя графам М. Мураўёвым яшчэ напрыканцы красавіка. Пункт 1 сцвярджаў, што галоўнай мэтай гэтай акцыі з'яўляецца "охранение безопасности лиц, имуществ и путей сообщения". Абавязкі сялянаў-каравульшчыкаў заключаліся: *"а) в учреждении застав по указанию уездного начальника, в опросе проходящих и проезжающих*

[82]Тамсама, арк. 77 адв.

[83]Тамсама. Ф. 970, воп. 2, ад.з. 3, арк. 2–2 адв.

*и предании полиции подозрительных людей; б) в охранении крестьянских поселений и вообще лиц и собственности в участке от нападений мятежников и злоумышленников; в) в наблюдении за неводворением в порученном караулу участке мятежников и в постоянном, вследствие того, осмотре лесов, г) в поимке и преследовании мятежников там, где они не успели ещё организовать значительных шаек или, где они были разбиты, разсеялись, и вообще к воспрепятствованию им получать подвозы оружия, разных припасов и продовольствия; д) в случае открытия шаек, состоящих из значительных превосходных сил, в сообщении немедленно о том уездному Начальнику, для высылки на помощь войска, и в восстановлении спокойствия там, где оно будет нарушено”*[84].

У чэрвені каравулы былі сфарміраваныя пераважна з часоваабавязаных сялянаў і знаходзіліся ў Поразаве (поразаўцы адмовіліся ўтрымліваць каравулы коштам грамады!), Свіслачы, Песках, Ізабеліне і Росі. У Новым Двары каравула не было. Працяглы час тут знаходзіліся салдаты Стараінгерманландскага пяхотнага палка, потым іх замяніў Неўскі полк.

Вясковыя каравулы прыспешылі разгром паўстання. Прынамсі, падпалкоўнік Казанлі ў жніўні рапартаваў: *“Устройство сельских караулов и установление сторожей в селениях оказало существенную пользу в том отношении, что когда мятежнические шайки бродили в разных местах уезда и иногда заходили к жителям, то с учреждением караулов они уже перестали являться, а в случае появления их были тотчас задерживаемы и представляемы Начальству, следствием сего оказалось то, что мятежники лишены всех средств и принуждены сами являться власти”*[85].

Паводле гэтага ж рапарту, у ліпені добраахвотна выйшлі з лесу і здаліся ўладам 143 паўстанцы. Ён жа паведамляў: *“Между высшими и средними состояниями не обнаруживается в дей-*

[84]Тамсама, арк. 24 адв.

[85]Тамсама, арк. 25 адв.

*ствиях их ничего противозаконного за чем имеется строгое наблюдение. Крестьяне же вообще оказывают преданность Правительству"[86].*

У другой палове лета паўстанцкі рух пацярпеў шэраг паразаў. Нягледзячы на гэта, змаганне працягвалася, і лясны масіў каля Новага Двара часта быў месцам збору рэштак разбітых атрадаў[87]. На пачатку жніўня атрад Ш. Влодэка быў разбіты ў раёне Бярозавага балота паблізу Гуты Быхаўца ў Ваўкавыскім у. Пасля гэтага камандзір пакінуў атрад і выехаў за межы Імперыі, а рэшткі атрада ўзначаліў Хадакоўскі.

*Паўстанне. Забойства Клары Радкевіч*

Відавочна, што летам 1863 г. Новы Двор апынуўся амаль у эпіцэнтры баявых дзеянняў. У гэты ж час (у ноч на 5 ліпеня) групай паўстанцаў з атраду Ш. Влодэка і была павешаная жыхарка мястэчка Клара (Лукер'я) Радкевіч.

На наступны дзень удавец Восіп Радкевіч з'явіўся ў Ваўкавыску і распавёў ваеннаму начальніку уезду падпалкоўніку Казанлі пра забойства жонкі. Паводле В. Радкевіча, "5 числа сего месяца пришла в небольшом количестве шайка в Новый Двор, придя к нему в избу спрашивали его, Радкевича, который в то время скрылся, но находящаяся в то время дома жена его Лукерья была упомянутыми мятежниками повешена за то, что упомянутый рядовой Радкевич имеет преданность к правительству и знает об многих лицах, проживающих в Новом Дворе, которые имеют сношения с шайками"[88]. Афіцэр загадаў правесці расследаванне.

17 ліпеня ваенны начальнік паведаміў пра забойства Віленскаму генерал-губернатару: "...В Волковысском у. 5 июля в мест.

[86]Повстанческое движение в Гродненской губернии..., с. 31.

[87]НГА РБ у Гродне. Ф. 3, в. 1, ад.з. 16, арк. 3 – 3 адв.

[88]Тамсама, арк. 7.

Новый Двор мятежники в небольшом числе, намереваясь повесить отст. солдата Радкевича, для чего и пришли в его дом, но не найдя Радкевича, повесили его жену. О происшествии проводится дознание”[89].

У агульным спісе забітых ад 20 ліпеня фігуравала шэсць чалавек — настаўнік, святар, селянін, палясоўшчык, адстаўны унтэрафіцэр і Клара Радкевіч. Яна ж была ўказаная ў спісе за 21 верасня 1863 г., дзе фігуравалі ўжо 33 асобы. К. Радкевіч была адзінай забітай паўстанцамі жанчынай з гэтага спісу.

Спісы дапамаглі даведацца, што забітая мела 41 год, што засталіся муж, два сыны і дачка, што сям’я вельмі бедная і жыве “из подаяния”[90].

Запіс у метрычнай кнізе Навадворскай царквы таксама засведчыў смерць Клары Міхайлаўны Радкевіч з прыпіскай “скоропалительно повешена[91].

У верасні 1863 г. падчас следства паўстанец з атрада Ш. Влодэка Севярын Пацэвіч на допыце згадаў, што ў Новым Двары Ваўкавыскага у. па загаду камандзіра атрада была павешана “нищая женщина”. С. Пацэвіч не здолеў растлумачыць прычыны гэтага забойства, але прыпомніў, што сярод забойцаў знаходзіўся паўстанец Кісялеўскі. Наогул, паказанні былых паўстанцаў ствараюць вобраз Ш. Влодэка як аднаго з найбольш жорсткіх камандзіраў. Той жа С. Пацэвіч прыгадаў, што паўстанцы Влодэка ў Пінскім у. павесілі адстаўнога салдата і селяніна, якія лавілі “інсургентаў”, у вёсцы Котра Пружанскага у. імі быў павешаны святар. Дарэчы, у забойстве святара, паводле С. Пацэвіча, таксама ўдзельнічаў Кісялеўскі[92].

Пытанне пра матывы забойства Клары Радкевіч застаецца адкрытым. Паказанні Севярына Пацэвіча, які засведчыў, што

[89]Тамсама, арк. 9, 27.

[90]Тамсама. Ф. 248, воп. 1, ад.з. 2, арк. 66 адв.

[91]Повстанческое движение в Гродненской губернии..., с. 155-158.

[92]НГА РБ у Гродне. Ф. 3, воп. 1, ад.з. 19, арк. 44-53.

жанчына была павешаная па загаду Ш. Влодэка, не пацвярджаючы меркаванне В. Радкевіча, што паўстанцы прыйшлі з мэтаю забіць яго.

Падобна на тое, што большасць загінулых былі ворагамі паўстання або адкрыта дэманстравалі "преданность Правительству". Апошняе пачало выплачваць грашовыя кампенсацыі сваякам загінулых. Звычайна прызначалася сума ў памерах 15–25 руб. Больш высокую кампенсацыю (50 руб.) атрымала сям'я настаўніка Лыскаўскага вучылішча, пасля смерці якога без сродкаў існавання засталіся ўдава, два сыны і дзве дачкі. Найвялікшую суму (150 руб.), паводле спісаў Гродзенскай губернскай канцылярыі, атрымаў капітан Нячаеў, які быў паранены, а ягоная жонка павешаная[93]. Грошы, якія мусіў атрымаць у якасці кампенсацыі В. Радкевіч, у дакументах, што захаваліся, не фігуруюць.

У верасні 1863 г. ваенныя дзеянні ў раёне Новага Двара закончыліся. Пасля чарговай паразы "Млотэк" таксама распусціў свой атрад. В. Урублеўскі, што замяніў эмігрыраваўшага А. Духінскага, адступіў у Пружанскую пушчу.

*Пасля паўстання. Радкевіч versus Новы Двор*

Забойства Клары Радкевіч яшчэ доўгі час не давала навадворцам спакойна жыць. Восіп Радкевіч не збіраўся выкрэсліваць з памяці гэтую трагічную падзею свайго жыцця.

Што наогул вядома пра Восіпа і Клару Радкевічаў?

Архіўныя дакументы сведчаць, што Восіп Астаф'евіч Радкевіч нарадзіўся на Палессі ў Кобрынскім пав. (в. Паляцічы?) у 1818 або 1819 г. Трапіў пад рэкруцкі набор і стаў салдатам расійскага войска. У 1847 г. ён па стану здароўя быў адпраўлены

[93]Довнор-Запольский М. Очерки семейственного права крестьян Минской губ., с. 45

ў адстаўку. У гэтым жа годзе ён з’явіўся ў Новым Двары як інвалід, які знаходзіўся на ўтрыманні Гродзенскага прыказу Таварыства грамадскай апекі. У дакументах В. Радкевіча часта называюць “слепым инвалидом”. Аднак уся гісторыя канфлікту ў Новым Двары сведчыць, што сляпым адстаўны салдат не быў. Верагодна, ён меў праблемы са зрокам, але яны не перашкаджалі яму весці даволі актыўны лад жыцця.

Чаму ён апынуўся ў Новым Двары, невядома. Можна меркаваць, што вяртацца ў родную вёску не было сэнсу, бо права на зямлю ён ужо страціў.

Рэпліка гісторыка:

*“В литературе часто раздаются голоса, что замечаемое среди крестьян желание устранить солдат от пользования землёй происходит не из совсем хороших побуждений их отцов и братьев. Но такие нападки на крестьян не совсем верны. Указанные отношения крестьян к солдатам объясняются их основным взглядом на труд. [...] Когда солдаты служили по 15–20 лет и возвращались в семью уже отвыкшими и малоспособными к сельским работам, то обычное право отказывало им в их правах на землю. В наших источниках мы находим этот взгляд везде строго проведённым и везде указывается на то, что солдат не жил вместе, не работал вместе”[94].*

Прыжыцца В. Радкевічу ў Новым Двары было даволі цяжка. Замкнёнасць навадворцаў, пра якую ўжо ішла гаворка, была формай абароны традыцыйнага грамадства. Яно не прымала чужынцаў, адчуваючы пагрозу з іх боку. У сітуацыі Новага Двара нормы паводзінаў традыцыйнага грамадства абцяжарваліся зямельнай праблемай і ўсведамленнем вышэйшага сацыяльнага статуса (“вольныя”, “мяшчане”) у параўнанні з насельніцтвам навакольных вёсак. Зразумела, што адстаўны салдат ужо не трапляў у ніжэйшую катэгорыю “халопаў”, але і да катэгорыі “вольных” не дацягваў.

[94]Богданович А. Мои воспоминания // Неман. 1994, № 5, с. 9.

Іншай прычынай непрыняцця “чужынца” мог быць ягоны характар. В. Радкевіч вырозніваўся агрэсіўнасцю, часта “распускаў рукі”. Прычым праблемы са зрокам не перашкаджалі нават кідацца ў бойку. Паводзіны В. Радкевіча, адлюстраваныя ў архіўных дакументах, прымусілі ўзгадаць тую характарыстыку, якую дзед Максіма Багдановіча Лук’ян даваў палешукам, параўноўваючы іх з беларусамі. Яе пісаў Адам Багдановіч у сваіх успамінах: *“[...] Наш народ саўсім другій народ. Другіе людзі. Народ заўзяты, заядлы, бунтары [...] як за што ўзяліся — свайго дабіваютца, на сваём хочуць паставіць. Як што ні пад нароў, ці проці закону — січас гэта зашумяць, паднімуць гоман, крык, — ругатню, хоць святых вынасі[...]”*[95]

Сам А. Багдановіч да гэтага дадаў: *“Мои личные наблюдения... показывают, что полешуки, как все лесные люди, более угрюмы, замкнуты, недоверчивы и упрямы, пожалуй, если хотите, более настойчивы [...]”*[96]

Здавалася, што пэўны “пералом” у адносінах з навадворцамі наступіў 22 ліпеня 1852 г., калі 33-х гадовы адстаўны салдат узяў шлюб з “мяшчанкай” мястэчка Новы Двор Кларай Міхайлаўнай Каткоўскай (30 гадоў). Як сведчыць запіс у метрычнай кнізе царквы св. Міхаіла, сведкамі на шлюбе былі Варфаламей Львовіч Філіповіч, Мацвей Якаўлевіч Грушэўскі, Іосіф Фёдаравіч Грушэўскі і Канстанцін Гаўрылавіч Грушэўскі[97]. Але Каткоўскія таксама не належалі да карэнных жыхароў. Падобна на тое, што Каткоўскія (у Новым Двары жыў яшчэ і яе родны брат, таксама адстаўны салдат) перабраліся ў Новы Двор з Поразава. Прынамсі, на поразаўскіх могілках можна знайсці шматлікія магілы Каткоўскіх. Верагодна, гэты шлюб быў саюзам мясцовых адрынутых.

Шлюб нарадзіў шэраг пытанняў, галоўнае з якіх датычыла нявесты, што згадзілася пайсці замуж за беззямельнага інваліда. Праўда, 30-гадовы ўзрост нявесты сведчыць пра тое, што

[95]Тамсама, с. 10.

[96]НГА РБ у Гродне. Ф. 248, воп. 1, ад.з. 1, арк. 83 адв.–84.

[97]Тамсама, арк. 45 адв.–46.

шанцаў знайсці больш выгодную “партыю”, ды яшчэ ў Новым Двары, яна не мела. Іншым важным матывам магла быць цяжарнасць нявесты. У метрычнай кнізе Навадворскай царквы зафіксавана, што 18 студзеня 1853 г. нарадзіўся, а 19 студзеня быў ахрышчаны Іван, сын Восіпа Радкевіча і Клары. “Васпрыемнікамі” былі адстаўны салдат Мікалай Міхайлавіч Каткоўскі і Антаніна Васільеўна Грушэўская[98]. Відавочна, што ліпеньскі шлюб мог мець вымушаны характар.

У лістападзе 1854 г. жонка атрымала права апекі над В. Радкевічам у сувязі з ягонай хваробай[99]. Верагодна, галоўным сродкам існавання сям'і Радкевічаў былі тыя грашовыя выплаты, якія адстаўны салдат атрымліваў у Гродне.

Следства, якое ў 1867–1868 гг. вёў Гродзенскі крымінальны суд, высветліла, што амаль адразу пасля забойства Восіп Радкевіч пачаў шантажаваць навадворцаў. Ён заяўляў пра тое, што жонка загінула пры ўдзеле навадворцаў, пагражаў паведаміць “начальству”, што навадворцы дапамагалі “мяцежнікам”, сцвярджаў, што ён прызначаны ваенным начальнікам (?!) мястэчка і можа зрабіць з імі, што захоча, нават адправіць у Сібір, нарэшце, палохаў, што падпаліць мястэчка. Але найбольш палохала навадворцаў пагроза паведаміць “начальству” пра адсутнасць у рэвізскіх кнігах многіх хлопчыкаў, народжаных пасля 1854 г. Справа была ў тым, што стараста Філіповіч рэгістраваў не ўсіх, а падушны падатак за гэтых людзей, які здавалі непасрэдна яму, краў. Пасля смерці старасты ў 1860 г. кожны гаспадар пачаў самастойна ўносіць падаткі. Праблема незарэгістраваных адразу высветлілася, але навадворцы захавалі таямніцу.

Канфлікт навадворцаў з адстаўным салдатам дорага ім каштаваў. За маўчанне і лаяльнасць Радкевіч патрабаваў 500 руб. Навадворцы сабралі 300 руб. і перадалі ўдаўцу. Але В. Радкевічу гэтага было мала. Ён пачаў патрабаваць аказання цэлага шэрагу паслугаў. Навадворцы павінны былі ахоўваць ягонае жыццё ад “метежников”, дастаўляць яму дровы, сена, ссыпаць

[98]НГА РБ у Гродне. Ф. 581, воп. 1, ад.з. 516, арк. 34.

[99]Тамсама, арк. 24, 30–31.

хлеб, даваць па першаму патрабаванню падводу і работнікаў і г. д.[100]

Падобна на тое, што канфлікт з Новым Дварам, які існаваў, відаць, з моманту з’яўлення Радкевіча ў мястэчку, пасля забойства паўстанцамі ягонай жонкі значна абвастрыўся. Прычым Радкевіч вырашыў надаць канфлікту палітычную афарбоўку і выкарыстаць расійскіх чыноўнікаў.

Навадворцы не згаджаліся, і В. Радкевіч пайшоў да таго самага "начальства", пра якое так часта казаў. У верасні 1863 г. у Новы Двор быў прызначаны ваенным начальнікам падпаручык Адамаў. Адным з першых візіцёраў да яго быў адстаўны салдат, які паведаміў пра забойства жонкі "по подстрекательству жителей местечка Новый Двор", а таксама пра "душы", якія не былі зарэестраваныя ў рэвізскіх кнігах. Падпаручык Адамаў арыштаваў названых навадворцаў і правёў уласнае разбіральніцтва. Па выніках яго ён выпусціў арыштаваных, а В. Радкевіча, відаць, за паклёп, пад арыштам адаслаў у Ваўкавыск.

У Ваўкавыску Радкевіч згадаў ужо толькі аднаго навадворца (Гамановіча), які нібыта "прывёў шайку мяцежнікаў". Але высветлілася, што сведкам гэтага ён не быў, а толькі чуў ад Якава Сычэўніка. Той, у сваю чаргу, паведаміў, што чуў ад свайго брата, які мог бачыць Гамановіча і "метежников". Адным словам, Радкевіч не здолеў прывесці доказаў сваім "палітычным" абвінавачанням.

Тым не менш, ён працягваў патрабаваць ад навадворцаў асабістай аховы, бясплатных дроў, сена, падводаў. Падпаручык Адамаў, які заставаўся ў мястэчку да сярэдзіны кастрычніка 1863 г., стаў нявольным сведкам спрэчкі паміж сялянамі і адстаўным салдатам. Вось што ён напісаў у сваіх паказаннях: *"[...] В одно воскресенье после обедни увидел около своей квартиры толпу мещан и слепого Радкевича громко между собой споривших, подойдя спросил, что такое, и Радкевич там же предъявил составленные им самим и переписанные сыном*

[100]НГА РБ у Гродне, арк. 24-25.

*обязательства и подписку мещан сберегать его жизнь, как пострадавшему от мятежников, доставлять ему дрова, сено, ссыпать хлеб, пахать землю, давать на все надобности очередную подводу, и все это бесплатно, на что мещане не соглашались, просили защиты, он видя вздорное Радкевича требование, дал ему наставление, и в присутствии всех порвал ту подписку и велел разойтись по домам. После того Радкевич уехал в Волковыск, а по возвращении распускал между жителями и нижними чинами обидные слова для русских офицеров"*[101].

Падпаручык таксама паведаміў, што за час знаходжання ў Новым Двары ніякіх даносаў ад Радкевіча не атрымліваў і нічога пра іх не чуў. Адсутнасць сярод дакументаў указанняў на канкрэтныя даносы Радкевіча выклікае сумненне ў праўдзівасці ягоных слоў. Тым больш цяжка зразумець, якім чынам мог пісаць даносы сляпы і непісьменны чалавек (?!) Імёны іншых людзей, якія маглі пісаць даносы з ягоных слоў, сустракаюцца ў перапісцы ўжо пасля паўстання.

Больш, чым палітычныя абвінавачанні, сялянаў палохала пагроза раскрыцця таямніцы незарэгістраваных "душ". 10 студзеня 1864 г. сяляне згадзіліся выдзеліць для аховы Радкевіча 12 чалавек, якія павінны былі абараняць яго "при всяком страхе", і прасілі нічога не гаварыць міравому пасярэдніку. Аднак, калі 2 лютага ў мястэчку з'явіўся міравы пасярэднік Шчэрбаў і пісар Поразаўскай сельскай грамады ("общества") Леанчук, сяляне самі расказалі пасярэдніку пра сваю праблему. Амаль адначасна яны прызналіся афіцэру Ясінскаму, які кватараваў у святара Навадворскай царквы Пракаповіча, пра 300 руб., якія заплацілі Радкевічу за маўчанне. Ясінскі выклікаў апошняга да сябе. Падчас допыту Радкевіч прызнаўся, што ўзяў грошы, але адмовіўся іх вяртаць "начальству", заявіўшы, што сяляне далі іх добраахвотна разам з "падпіскай", якая гарантавала яму цэлы шэраг паслугаў ад навадворцаў. Падпіску Ясінскаму ён не паказаў.

Несанкцыянаваны "збор грошай" належаў да крымінальных злачынстваў, і над Радкевічам навісла пагроза новага арышту.

[101]Тамсама. Ф. 1, воп. 34, адз. 943, арк. 35–35 адв.

Яго адказам быў данос. 10 лютага 1864 г. ён зноў паведаміў Ваўкавыскаму ваеннаму начальніку пра забойства жонкі і пра ўдзел у ім навадворцаў. 16 красавіка Радкевіч паўтарыў данос.

У перапынку паміж гэтымі даносамі навадворцы звярнуліся з пакаянным лістом да імператара Аляксандра II. Яны прызнавалі сваю віну: *"Во время бурного волнения мятежных поляков, хотевших попрать все для нас дорогое и священное, крамольники ложью и коварством успели обмануть и вовлечь в свои сети некоторых легкомысленных лиц из нашего маленького местечка, которое будучи окружено со всех сторон лесами, вдали от городов где стояли войска, было мятежникам притоном и пунктом перехода из одной пущи в другую".*

Навадворцы раскайваліся (*"Вина за наше преступление непростительная…"*) і кляліся ў вернасці трону і "Отечеству": *"Мы вполне теперь сознаем это преступление, вполне чувствуем насколько мы уклонились от тех обязанностей, которые возлагала на нас верноподданническая присяга. Вне милостей Ваших Государь, которые проливаются на всех верных Престолу и Отечеству, мы видим себя в безвыходном и безотрадном положении. Ты надежда наша Государь и Отец наш! […] Мы знаем, что сердце Твое готово принять всякого кающегося грешника, а потому и дерзаем у ног Твоих Державный Государь молить о помиловании, по одному слову Твоему мы все от мала до велика станем грудью за Россию любезное Отечество наше и не пожалеем никаких жертв, если коварный враг вздумал снова подняться против Тебя"*[102].

Вернападданіцкі адрас быў падпісаны 8 сакавіка 1864 г. У Вільню яго адвозілі валасны старшыня Мацвей Грушэўскі і Рыгор Ботвіч. 10 сакавіка гродзенскі губернатар загадаў выдаць ім білет на праезд у Вільню.

…У гэты ж дзень на Лукішскай плошчы на шыбеніцы загінуў Каліноўскі…

---

[102]Тамсама. Ф. 581, воп. 1, ад.з. 516, арк. 27.

Між тым, улады пачалі разбіральніцтва па справе 300 рублёў. Радкевіча прымусілі вярнуць грошы ў Ваўкавыскі суд і застацца ў Ваўкавыску на перыяд следства. Над адстаўным салдатам быў устаноўлены паліцэйскі нагляд. У сваіх паказаннях Радкевіч заяўляў, што сам імкнуўся адвезці грошы ў Ваўкавыск ваеннаму начальніку, але навадворцы не далі яму падводы. Паводле ягоных сведчанняў, у Новым Дварах ўзнікла змова супраць яго, у якой апроч сялянаў удзельнічалі таксама святар Пракаповіч і афіцэр Ясінскі. У пацверджанне сваіх слоў ён спасылаўся на сведкаў Фёклу Катаркевіч, Сідара Журневіча, Якава і Юрыя Сычэўнікаў, Івана Катаркевіча, адстаўнога салдата Апалінара Пакернецкага і казацкага юнкера Варламава. Невядома, ці выклікалі гэтых людзей у Ваўкавыск у якасці сведкаў. Запісы іх паказанняў у справе адсутнічаюць.

Затое ёсць рапарт ад'ютанта ваеннага начальніка Ваўкавыскага у. паручыка Чымбаевіча, які паведаміў пра п'яны скандал, які ўчыніў В. Радкевіч у канцылярыі ваеннага начальніка. Адстаўны салдат увайшоў у канцылярыю і пачаў патрабаваць, каб яго пасадзілі ў астрог, дзе хоць карміць будуць. Потым перайшоў на тое самае "начальства", якім так часта палохаў навадворцаў. Прысутныя засведчылі, што нецвярозы адстаўны салдат казаў пра "праклятае начальства" і патрабаваў, каб яго судзілі. Чымбаевіч загадаў пасадзіць яго на гаўптвахту, але інвалід Радкевіч аказаў супраціў салдатам (?!), нарабіўшы "шуму ды крыку". Салдаты пакінулі Радкевіча, але той не выходзіў з канцылярыі і працягваў зневажаць "начальства". Скончылася тым, што салдаты ўсё ж такі зацягнулі інваліда на гаўптвахту, дзе той адседзеў сем сутак.

Ваўкавыскі крымінальны суд зацягнуў прыняцце рашэння па гэтай справе. А ўвосень 1865 г. змяніліся правілы судовай вытворчасці, і справа "незаконнага збору 300 руб." трапіла на разгляд Гродзенскай Палаты крымінальнага суда. Распачалося новае следства. Паколькі Радкевіч упарта стаяў на сваёй версіі падзеяў, следчыя правялі "вочную стаўку". З боку Новага Двара ў ёй удзельнічалі сяляне Сямён Філіповіч, Павел, Пракоп, Давід і Гаўрыла Ганчарэвічы, Іван Лісоўскі, Рыгор Хаванскі, Іван Каскевіч, Ульян Гамановіч, Фларыян Грыгаровіч і Сямён і Рыгор Ботвічы.

Апошні, у прыватнасці, заявіў, што Радкевіч схіляў сялянаў да збору грошай для яго, цвердзячы, што ён прызначаны ваенным начальнікам у мястэчка, што калі ён не атрымае 500 руб., то ўсіх вышле ў Сібір. Яны, баючыся пагроз, сабралі для яго 300 руб. Ён згадзіўся іх прыняць. Сказаў, што калі б раней сабралі 600 руб., то не прыйшлося прымушаць іх на гэты збор[103].

Іх паказанні, на думку следчых, дэманстравалі, што адстаўны салдат хлусіў. Святар ахарактарызаваў В. Радкевіча як "чалавека з неспакойным характарам і п'яніцу". Былы Ваўкавыскіназіральнік, які ажыццяўляў паліцэйскі нагляд, ахарактарызаваў яго як чалавека "характера неспокойного, дерзкого и готового при первом случае завести драку, отзываясь, что с него взять нечего". Фактычна, толькі адзін з апытаных (Гірш Фельман) "паказаў", што сяляне перадалі грошы Радкевічу, каб той не выдаў прыхільнікаў паўстання. Таксама высветлілася, што гэты местачковы габрэй дапамагаў збіраць з сялянаў грошы.

Слуханне справы распачалося ў верасні 1867 г., а канчатковае рашэнне суд вынес у лютым 1868 г. Восіп Радкевіч не панёс аніякага пакарання, бо грошы перадаў суду, а справа аб пагрозах, паводле Улажэння пра пакаранні, распачыналася толькі па скаргах тых, каму пагражалі. Сяляне з афіцыйнымі скаргамі нікуды не звярталіся. Справа незарэгістраваных у рэвізскіх кнігах "душ" была перададзена на разгляд Гродзенскага губернскага праўлення. Што датычыць знявагі "начальства", то ў сувязі з нецвярозым станам Радкевіча яго да адказнасці вырашылі не прыцягваць. Справа верагоднага ўдзелу навадворцаў у забойстве Клары Радкевіч нават не закраналася. Грошы павінны былі быць вернутыя сялянам.

Дарэчы, каб іх атрымаць, сялянскі сход у студзені 1868 г. выдаў даверанасць Мацвею Грушэўскаму і Рыгору Лісоўскаму. Гэтую даверанасць падпісала большасць гаспадароў з Новага Двара. Цікава, што Каткоўскія сярод падпісантаў адсутнічалі. Падобна, што яны не ўдзельнічалі ў зборы 300 руб. і, магчыма, знаходзіліся ў тым канфлікце на баку Радкевіча.

---

[103] Тамсама. Ф. 248, воп. 2, ад.з. 1, арк. 59 адв.

Аднак гэтым канфлікт не быў вычарпаны. Пацвярджаючы сваім "крыжыкам"-подпісам азнаямленне з рашэннем суда, Радкевіч выказаў нязгоду. А праз месяц суд атрымаў ад яго ліст, напісаны Данілам Катkоўскім, у якім утрымлівалася просьба выдаць завераную копію судовага рашэння. Радкевіч збіраўся абскардзіць рашэнне Гродзенскай Палаты крымінальнага суда.

У верасні 1871 г. ён накіраваў у III аддзяленне Гродзенскага губернскага праўлення данос пра злоўжыванні ў Новым Двары. Гэты данос быў перапраўлены ў Гродзенскую Палату крымінальнага суда, але наступстваў не меў.

У гэтым жа годзе (10 снежня) ад запалення лёгкіх памерла ягоная другая жонка Магдаліна Фёдараўна Радкевіч, 47 гадоў[104]. Дарэчы, падчас следства па справе 300 рублёў Гірш Фельман сцвярджаў, што Радкевіч запрасіў яго пералічыць сабраныя ў навадворцаў грошы, бо не жадаў, каб пра іх ведала жонка. Верагодна, Радкевіч узяў другі шлюб ужо ўвосень 1863 г.

Апошнім акордам гэтай справы стала прашэнне Радкевіча да Гродзенскага губернатара, пададзенае ў жніўні 1881 г.[105] Адстаўны салдат паведамляў, што жыве без сродкаў на існаванне, бо сяляне Новага Двара ў 1874 г. не выдалі адпаведнага "приговора" ў Гродзенскі прыказ Таварыства грамадскай апекі, без чаго апошні перастаў выплачваць грошы па інваліднасці. Да таго ж, старшыня Навадворскага "общества" Якаў Германовіч і соцкі Рыгор Грушэўскі забралі ягоныя дакументы.

Восіп Радкевіч заявіў, што ў перыяд паўстання быў "доносчиком со стороны для содействия Правительству, за каковую услугу и получал денежное вознаграждение…" Адстаўны салдат згадаў, што страціў жонку, якую забілі замест яго, і заявіў, што ўрад вінаваты яму 500 руб. Паводле Радкевіча, у 1863 г. граф Мураўёў вызначыў яму кампенсацыю за забітую жонку ў памеры 700 руб. З іх 200 руб. ён атрымаў ад ваеннага начальніка Ваўкавыскага у. падпалкоўніка Казанлі, а 500 руб. не былі выдадзены ў сувязі з

[104]Тамсама. Ф. 1, воп. 8, ад.з. 686, арк. 1–7.

[105]Вытрымкі з дакументаў друкуюцца ў перакладзе на беларускую мову.

судовым працэсам. Радкевіч прасіў выдаць яму ўсю суму і вярнуць адабраныя дакументы.

Канцылярыя пераслала гэтае прашэнне Гродзенскаму паліцмайстру, які загадаў Ваўкавыскаму спраўніку ўзяць у Радкевіча дакументы, якія б пацвердзілі атрыманне ім грошай у 1863 г., а таксама ўзяць тлумачэнне, чаму так доўга не звяртаўся па іх і, нарэшце, вярнуць таму дакументы, якія адабрала валаснoе начальства.

Ваўкавыскі спраўнік паведаміў, што ніякіх дакументаў Радкевіч не мае. На пытанне, чаму не звяртаўся раней, адказаў, што па прычыне "своей постоянной с времени мятежа болезни и нехватки времени". Сцвярджэнне Радкевіча пра 700 руб. было відавочнай хлуснёй. 1 снежня 1881 г. гродзенскі губернатар М. Цэймерн вынес рэзалюцыю: "Ходатайство по безосновательности удовлетворению не подлежит".

Гісторыка-антрапалагічны погляд на праблему дазваляе выказаць меркаванне, што мы маем дачыненне не з ідэалагічным канфліктам у сувязі з паўстаннем, які можна было б персаніфікаваць у формуле "Радкевіч *versus* Каліноўскі", а хутчэй з унутраным канфліктамі паміж жыхарамі мястэчка. Карэннае насельніцтва Новага Двара ("мяшчане" Ганчарэвічы, Грушэўскія, Ботвічы, Філіповічы ды інш.) не "прыняло" адстаўных салдатперасяленцаў і іх сем'і.

Студзеньскае паўстанне не змяніла мястэчковага ўкладу жыцця. Яно толькі ўскладніла яго. Навадворцы не ўсведамлялі палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага значэння гэтай барацьбы. Традыцыйнае грамадства аднолькава варожа ці абыякава сустракала як расійскіх салдат ("маскалёў"), так і паўстанцаў ("мяцежнікаў"). Праўда, на карысць паўстанцаў працавала надзея вяртання колішніх прывілеяў Новаму Двару.

Верагодна, што ў пэўны момант варожыя бакі вырашылі выкарыстаць сітуацыю паўстання на сваю карысць, што яшчэ больш абвастрыла канфлікт. Магчыма, Радкевіч сапраўды меў

падставы сцвярджаць, што “карэнныя” навадворцы прычыніліся да забойства яго жонкі. Але доказаў іх віны ён не здолеў прадставіць.

Факт антыпаўстанцкіх даносаў адстаўнога салдата не пацверджаны дакументальна. Ягоны стан здароўя, а таксама непісьменнасць толькі ўзмацняюць сумненні ў праўдзівасці прызнання Радкевіч, што ён быў “доносчиком со стороны Правительства”. Упэўнена можна казаць толькі пра дэклараваную Радкевічам у прашэннях і даносах “преданность Правительству”, якая, верагодна, павінна была дапамагчы вырашыць справу на ягоную карысць.

Уражвае зацятасць гэтага канфлікту. Ён ізноў “разгарэўся” ў 1874 г., калі сялянскі сход не даў “приговору”, і Радкевіч быў пазбаўлены выплат па інваліднасці. У 1881 г. валаснае начальства забрала дакументы Радкевіча, і толькі пасля ўмяшальніцтва гродзенскага губернатара яны былі вернутыя.

Гэты артыкул варта было б назваць “Радкевіч *versus* Новы Двор”...

2008

# Антрапалогія знявагі і даносу

Апошнім часам у беларускай гістарыяграфіі ўсё мацней заяўляе пра сябе гісторыка-антрапалагічны падыход да аналізу мінулага. Даследчыкі быццам бы, нарэшце, пачулі словы вядомага французскага гісторыка Марка Блока, які яшчэ ў першай палове XX ст. пісаў, што галоўным прадметам гісторыі з'яўляецца чалавек і параўнаў даследчыка з казачным людаедам, які шукае спажывы там, дзе пахне чалавечынай.

Антрапалагічная гісторыя (або гістарычная антрапалогія) гэта, па сутнасці, новы для нас накірунак гістарычнай навукі, які адрозніваецца ад іншых як пастаноўкай праблемаў, так і своеасаблівымі даследчымі метадамі. Паводле вядомага расійскага гісторыка Арона Гурэвіча, гістарычная антрапалогія знайшла такія моцныя імпульсы развіцця і прапанавала такія эўрыстычныя магчымасці, пра якія не магла нават марыць традыцыйная, пераважна пазітывісцкая гістарыяграфія, прыхільнікі якой упарта шукалі (і працягваюць шукаць!) "ісціну ў апошняй інстанцыі".

Матэрыялы НГАБ у Горадні ствараюць унікальную магчымасць правядзення гісторыка-антрапалагічных даследаванняў. У прыватнасці, магчымасці новага падыходу добра відаць на прыкладзе аналізу справаў канцылярыі Гарадзенскага губернатара, якія былі заведзеныя ў сувязі з "нанесением оскорблений по адресу особы Его Императорского Величества". Між іншым, гэтыя справы дазваляюць таксама ўзняць праблему даносу, бо

рэдкая справа пра znявагу асобы імператара абыходзілася без даносу.

У перыяд з 1866 па 1891 гг. было разгледжана 239 падобных справаў. У першую чаргу мы прааналізавалі справы, па якіх былі вынесены пакаранні (105). Да іх былі далучаныя яшчэ 29 справаў, у якіх не захаваліся дакументы з рэзалюцыяй аб пакаранні, але віна зневажыцеля была даказаная. 91 справа была закончаная за недаказанасцю віны. У 14 выпадках, як вызначылі следчыя, меў месца паклёп. Пяцёра з паклёпнікаў былі пакараныя.

Што да фігурантаў усіх 239 справаў, дык атрымалася вызначыць канфесійную прыналежнасць 110 зневажыцеляў. Імі аказаліся 66 каталікоў (з іх 47 сялян), 39 праваслаўных (35 сялян), 5 іудзеяў (усе мяшчане). Цікава, што толькі ў дзевяці выпадках этнічная прыналежнасць каталікоў вызначалася чыноўнікамі як польская. Гэта датычыла шляхты, а таксама ўраджэнцаў Каралеўства Польскага. Этнічнасць праваслаўных вызначалася ў трох выпадках як руская (ваеннаслужачыя і стараабрадзец). Сярод зневажыцеляў-каталікоў пераважалі мужчыны (54). Жанчын было толькі 12 чалавек. Але каб правільна ацаніць гэтую лічбу, трэба адзначыць, што па ўсіх справах у якасці зневажыцеляў праходзіла толькі 15 жанчын.

Па колькасці знявагаў сярод паветаў Гарадзенскай губ. першыя тры месцы займалі Ваўкавыскі (48), Брэсцкі (35) і Кобрынскі паветы (34).

Што ж выклікала лаянку па адрасу расійскага імператара з боку каталіцкага насельніцтва?

У пераважнай большасці выпадкаў незадавальненне было выклікана антыкаталіцкай палітыкай расійскіх уладаў (60%). Асобу імператара зневажалі ў сувязі з закрыццём касцёлаў (“Каб зямля павыкідала косткі памерлага (Аляксандра II — *А.С.*) за тое, што пакасаваў нашыя касцёлы”[106] (1881 г., Кобрынскі пав.) і інш.), пагаршэннем матэрыяльнага становішча касцёлаў і ка-

[106]НГАБ у Горадні. Ф.1, воп.8, ад.з.562.

таліцкага духавенства (“Каб яго (Аляксандра II — *А.С.*) халера задавіла, каб ён стаў такім самым жабраком, як касцёл, каб яго самога абабралі, як абабралі ксяндза”[107] (1874 г., Ваўкавыскі пав.) і інш.), парушэннем традыцый касцельнага набажэнства (“Каб Гасудару дабра не было, бо забараняе спяваць гімны па-польску, а патрабуе па-руску”[108] (1869 г., Гарадзенскі пав.) і інш.), увядзеннем абавязковых святочных набажэнстваў у сувязі з памятнымі датамі ў жыцці правячай фаміліі (“Каб вы ўсе згінулі разам з вашай царквой. У нас цара няма і свята таксама няма”[109] (1867 г., Пружанскі пав.) і інш.).

Значна радзей (20%) знявага суправаджалася незадавальненнем антыпольскай палітыкай урада. Людзей абурала забарона размаўляць па-польску ў грамадскіх месцах (“Хутчэй імператара павесяць, чым хто-небудзь забароніць мне размаўляць па-польску”[110] (1867 г., Беласток)). Некаторыя дэманстравалі гатоўнасць ізноў распачаць узброеную барацьбу. Палясоўшчык з Сакольскага пав. Людвік Макар у спрэчцы з сялянамі на пытанне: “А ты хто такі?” адказаў: “Хто я? Паляк! Раней быў мяцеж, і ведайце, што хутка, вельмі хутка зноў пайду біць маскалёў. Я цвёрда ў гэтым перакананы”[111] (1870 г.). Мешчанін Вікенцій Радзевіч прапагандаваў цэлую праграму сацыяльна-палітычных пераўтварэнняў: “Гасудара трэба было б забіць, а іншага не прымаць, а выбраць з народа на адзін год. Калі будзе добры, то пакінуць на другі год, і ўсім жылося б добра”[112] (1887 г., Брэсцкі пав.). Ротмістр Шатаў, які вёў следства па гэтай справе, у лісце да начальніка Гарадзенскай жандарскай управы палкоўніка Югана характарызаваў гэты эпізод як праяву “польскага фанатызму і ўсім вядомай польскай нянавісці і нецярпімасці да ўсяго рускага наогул і да рускага ўрада ў прыватнасці, агучванне шляхецкіх мараў пра адраджэнне Польшчы і закабаленне сялянскага саслоўя памешчыкамі”. У якасці меры па-

[107]Тамсама. Воп. 7, ад.з. 748.

[108]Тамсама. Воп. 6, ад.з. 1658.

[109]Тамсама. Ад.з. 922.

[110]Тамсама. Ад.з. 928.

[111]Тамсама. Ад.з. 2109.

[112]Тамсама. Воп. 8, ад.з. 1758.

карання ротмістр з улікам сталага ўзросту зневажыцеля прапанаваў паліцэйскі нагляд. Аднак Аляксандр III, якому дакладалі пра гэтую справу, паставіўся да яе інакш. В. Радзевіч атрымаў 6 месяцаў турэмнага зняволення.

Падчас расійска-турэцкай вайны (1877-1878) шмат якія знявагі былі непасрэдна звязаныя з вайной (15%): “Ён (Аляксандр II-А.С.) забірае нашых сыноў, крывапіўца... Калі яго задавяць, нам будзе лягчэй, нашыя вернуцца дахаты”[113] ды інш. У адказ на рэпліку: “Не дай Бог, каб туркі перамаглі”, сялянка з Пружанскага пав. Караліна Астрамецкая, чый муж за ўдзел у паўстанні быў сасланы ў Томскую губ., адказала: “Мне ўсё роўна. Горш, чым зараз, пад панаваннем турка не будзе”[114] (1877 г.). Многія выказвалі спачуванне Турцыі ў гэтай вайне: “Наш цар несправядліва абвясціў вайну Турцыі. Нашага цара будуць судзіць замежныя дзяржавы ў Канстантынопалі. Турак справядліва выразаў хрысціянаў, бо яны ж схізматыкі”[115] (1877 г., Кобрынскі пав.) ды інш.

Зрэдку сустракаюцца згадкі пра сацыяльныя і гаспадарчыя праблемы жыцця “нізоў” каталіцкага насельніцтва. Відаць, віноўнікамі цяжкага эканамічнага становішча беларускай вёскі сяляне, як і раней, лічылі памешчыкаў. У адной следчай справе перамену свайго становішча селянін звязваў з адраджэннем Польшчы: “Хутка ізноў вернецца Польшча. Сяляне будуць хадзіць у золаце, і не будзе акцыза”[116] (1877 г., Ваўкавыскі пав.).

Што да сацыяльных нізоў беларускага праваслаўнага насельніцтва, то ў знявагах асобы імператара звычайна адсутнічала хоць якое абгрунтаванне выказанай незадаволенасці. Следчыя, якія спрабавалі самастойна вызначыць матывы знявагі, часцей запісвалі: “крайняя неразвитость”, “уморасстройство”, “говорливость по старости”. Нярэдка адзначалася, што знявага была выказана ў нецвярозым стане. Выключэннем з’яўляюцца толь-

[113]Тамсама. Воп. 7, ад.з. 2262.

[114]Тамсама. Ад.з. 2261.

[115]Тамсама. Ад.з. 2251.

[116]Тамсама. Ад.з. 2262.

кі справы, у якіх фігуруюць адстаўныя салдаты, што вярнуліся дахаты ў канцы 60-х — 70-я гады. За час іх вайсковай службы зямля была ўжо падзеленая, і яны не маглі прэтэндаваць нават на невялікі яе кавалак: “Калі б трапіў мне цяпер Гасудар Аляксандр, то ей Богу забіў бы яго за тое, што праслужыў 25 гадоў і не магу атрымаць ні лапіка зямлі”[117] (1868 г., Кобрынскі пав.) ды інш. Аналагічных справаў каля 10%. Амаль усе яны звязаны з адстаўнымі салдатамі праваслаўнага веравызнання.

Незадавальненне каталіцкай шляхты (12% усіх знявагаў) насіла выразна палітычны характар. Імператар выступаў у якасці кіраўніка тых уладаў, якія праводзяць у адносінах да палякаў, каталікоў і ўсяго Краю варожую палітыку. Адсюль ішло свядомае непрыняцце асобы імператара. Іван Казлоўскі ў прысутнасці прыстава, які прыехаў з тым, каб за нявыплату грашовай запазычанасці прадаць маёнтак памешчыка Цаплінскага (Пружанскі пав.), пацікавіўся: “Ці хутка Гасудар Імператар адмовіцца ад улады і перадасць яе сыну? Магчыма, пры сыне будзе лепш, а то да часу душу выцягнуць”[118] (1871 г.). Лявонцій Пшыбытак у размове з сялянамі заявіў: “Гасудар нікому дабра не зрабіў і не зробіць. Як абдзіраў, так і будзе вас абдзіраць да апошняй кашулі... Калі б Турцыя захапіла Расію, то я хаця б перад смерцю ўбачыў бы святло”[119] (1877 г., Слонімскі пав.).

Сцвярджалася нелігітымнасць царскай улады ў Беларусі: “Цар ніякага права на яе *(беларускую зямлю — А.С.)* не мае”[120] (1877 г., Кобрынскі пав.) ды інш. Выказвалася надзея на хуткае вяртанне польскай улады. Міхал Грахоўскі ў спрэчцы з сялянамі катэгарычна заявіў: “Праз 15 дзён тут будзе Польшча”[121] (1870 г., Брэсцкі пав.). Казалі пра магчымае забойства імператара. Дваранін Пішчатоўскі, запрошаны на вячэру да праваслаўнага святара, калі зайшла размова пра візіт Аляксандра II у Парыж, неасцярожна выказаў сумненне, ці імператар наогул даедзе да

[117]Тамсама. Воп. 6, ад.з. 1342.

[118]Тамсама. Воп. 7, ад.з. 329.

[119]Тамсама. Ад.з. 2267.

[120]Тамсама. Ад.з. 2258.

[121]Тамсама. Ад.з. 2106.

Парыжа[122] (1867 г., Брэст). Пасля замаху на жыццё расійскага цара ў Парыжы святар Кульчыцкі ўспомніў пра словы свайго госця і паведаміў “адпаведным органам”. Пішчатоўскі быў арыштаваны па падазрэнні ва ўдзеле ў замаху і адпраўлены ў Брэсцкую турму. Дарэчы, і Грахоўскі, і Пішчатоўскі на момант знявагі былі праваслаўнымі. Але відавочна, што прыняцце праваслаўнай веры было абумоўлена толькі прагматызмам гэтых людзей.

У поле зроку жандараў трапіла і такая недвухсэнсоўная заява. Ужо згаданы Л. Пшыбытак у размове з сялянамі паведаміў пра падрыхтоўку паўстання: “Каля вёскі Мілавіды ўжо шмат сабралася нашых, г. зн. палякаў, а ў наваколлях Плаўскіх ужо гатовы 50 чалавек”[123] (1877 г., Слонімскі пав.). Па выніках гэтай справы за насельніцтвам згаданых вёсак быў устаноўлены паліцэйскі нагляд.

Каталіцкая шляхта абуралася абмежаваннем дзейнасці касцёла. Праваслаўная царква падвяргалася моцнай крытыцы. У прыватнасці, часта адзначалася, што царква працуе на ўмацаванне расійскай дзяржаўнасці: “Гэтыя сукіны дзеці, барадатыя кацапы. Уся іх літургія заключаецца ў згадванні нейкіх Аляксандра, Марыі, Мікалая і яшчэ, чорт ведае, якіх цароў. У той жа час ксяндзы, па меншай меры, усё пра Бога ды пра Бога”[124] (1868 г., Кобрынскі пав.).

У рэдкіх выпадках у віну імператару ставілі адмену прыгоннага ладу, якая, на думку некаторых памешчыкаў і акаліномаў, спрыяла пашырэнню гультайства сярод сялян. Аканом Фелікс Шмурло, які назіраў за ходам палявых прац, заявіў сялянам: “Каб цяпер была паншчына, то я б паказаў вам, як трэба жаць. А ў таго, хто вызваліў вас ад памешчыкаў, дай Бог, каб адняліся рукі і каб яго не прыняла зямля”[125] (1870 г., Кобрынскі пав.) ды інш. Цікава, што ў следчых справах значна часцей незадавальненне адменай прыгоннага ладу выказвалі сяляне.

[122]Тамсама. Воп. 6, ад.з. 919.

[123]Тамсама.Воп. 7, ад.з. 2267.

[124]Тамсама.Воп. 6, ад.з. 1344.

[125]Тамсама. Ад.з. 2110.

Толькі ў адным выпадку імператара пазбавілі асабістай адказнасці за тое, што адбывалася ў Беларусі. Памешчык Воўк (Пружанскі пав.) пры атрыманні паведамлення аб неабходнасці своечасовай аплаты працэнтнага (кантрыбуцыйнага) збору з маёнтка заўважыў: “Гасудар пра тое не ведае. Гэта ўрад рабуе народ. Рабаўнікі, злодзеі, бандыты знішчаюць край”[126] (1878 г.). Начальнік жандарскай управы Гарадзенскай губ. у гэтым выказванні не ўбачыў злачынства і загадаў справу закрыць. Разам з тым варта адзначыць, што праваслаўнае дваранства толькі аднойчы трапіла ў поле зроку жандараў. Дазнанне паказала, што дваранін Леанід Смялкоў быў моцна п’яны.

Амаль усе справы, у якіх фігуравала каталіцкая шляхта, пачыналіся з даносу. Аўтарамі даносаў (за адным выключэннем) былі сяляне пераважна праваслаўнага веравызнання. Прыблізна палова справаў супраць каталіцкай шляхты была спынена з-за адсутнасці доказаў віны. Следчыя досыць крытычна ставіліся да сялянскіх даносаў. Прычынамі даносаў почасту быў не факт знявагі імператара, а асабістыя парахункі, якія ўзнікалі на глебе сацыяльных канфліктаў у беларускай вёсцы.

У 165 справах атрымалася ўстанавіць аўтараў даносаў або службовых рапартаў, з якіх і распачалася справа. Матывацыю аўтараў можна лічыць выяўленай (з пэўнай ступенню дапушчэння) у 141 выпадку. У 73 выпадках (52%) донос з’яўляўся сродкам звядзення асабістых парахункаў, вырашэння пэўнай канфліктнай сітуацыі з дапамогай жандараў (Гл. дадатак), помсты за крыўду. Канфесійная прыналежнасць даносчыкаў была вызначана ў 34 выпадках. Сярод “мсціўцаў” і тых, хто кіраваўся асабістымі матывамі, праваслаўныя складалі 41%, іудзеі — 30%, каталікі — 27%. Пакаранне было вынесена ў 50% справаў.

Кожны чацвёрты даносчык (25%) кіраваўся г. зв. “грамадзянскім абавязкам”. Так умоўна можна акрэсліць сітуацыю, пры якой даносчыка і зневажыцеля не звязвалі ніякія асабістыя або службовыя адносіны (Гл. дадатак). Канфесійная прыналежнасць была ўстаноўлена ў 26 выпадках. Тут дамінавалі праваслаўныя

[126]Тамсама Воп. 7, ад.з. 2601.

(97%), іудзеі складалі 2%, а каталікі — 1%. Пакараннямі скончылася 60% справаў.

Зрэдку ў разгледжаных справах сустракаліся праявы шчырай лаяльнасці (згодніцтва) з боку каталікоў. Напрыклад, мяшчанка А. Панятоўская (г. Заблудаў) на папрок-пытанне Якуба Глушкевіча, чаму яна, полька, размаўляе па-руску, адказала: “Тут край рускі, і ўсе павінны размаўляць па-руску. Тым больш, што па-польску размаўляць забаронена”[127] (1867 г., Беластоцкі пав.). На абурэнне Я. Глушкевіча яна “адказала” даносам станавому прыставу. А вось селяніна Балтазара Талвінскага, магчыма, прымусіла напісаць данос толькі жаданне выслужыцца. Ягоны аднавясковец Мацей Пажэзінскі (дарэчы, удзельнік паўстання 1863 г.) выказаў шкадаванне, што быў вымушаны прадаць сваіх кароў, каб выплаціць падаткі: “Падаткі выплачаны, а Гасудара Імператара і чорт не бярэ”[128] (1877 г., Бельскі пав.).

Як пэўны кур’ёз успрымаецца справа, якая распачалася па даносу настаўніка закона Божага Крыніцкай народнай школы Гарадзенскага пав. святара Пранеўскага. Усё пачалося з таго, што святар заўважыў падручнік з разарваным партрэтам Аляксандра II. Магчыма, ён палічыў сваім “службовым абавязкам” паведаміць пра гэта паліцыйным уладам. Распачалася справа, якая цягнулася адзін год і тры месяцы (?!) Нарэшце, высветлілася, што дзеці разарвалі партрэт выпадкова падчас гульні. “Злачынцы” былі апраўданыя. Затое распачалося следства супраць тых, хто зацягнуў справу[129] (1866–1867 г.).

У некаторых выпадках даносчыкі кіраваліся выключна меркантыльнымі інтарэсамі. Следчы, які вёў справу па даносу адстаўнога унтэр-афіцэра Антона Троца, прыйшоў да высновы, што даносчык з’яўляецца паклёпнікам і “разлічвае ў якасці ўзнагароды за даносы атрымаць казённую зямлю”[130] (1869 г., Пружанскі пав.).

[127]Тамсама. Воп. 6, ад.з. 926.

[128]Тамсама. Воп. 7, ад.з. 2266.

[129]Тамсама. Воп. 6, ад.з. 917.

[130]Тамсама. Ад.з. 1627.

22% усіх справаў распачаліся па рапартах паліцыйных і вайсковых чыноў. 98% гэтых справаў скончыліся пакараннямі. Усе аўтары былі праваслаўнага веравызнання. Цікава, што пачасту ў якасці сродка выкрыцця чарговага зневажыцеля паліцыя выкарыстоўвала падслухоўванне пад вокнамі шынка. Доўгі час гэта давала "багатыя зборы". Адной з прычын было тое, што да 1876 г. у шынках абавязкова знаходзіліся партрэты імператара. Якраз гэтая асабістая "прысутнасць" імператара сярод нецвярозых наведвальнікаў спрыяла з'яўленню чарговай зняважагі. Аднак, як ужо адзначалася, п'янства разглядалася ўладамі ў якасці акалічнасці, што змяншае віну.

Аналіз архіўнага матэрыялу дазваляе ўбачыць асноўныя "кропкі напружання" ва ўзаемаадносінах паміж насельніцтвам Беларусі і царскай уладай. Самай пашыранай прычынай незадавальнення каталікоў была антыкаталіцкая палітыка. Яна хвалявала і выклікала абурэнне як у сялян, так і ў каталіцкай шляхты. Антыпольская палітыка ў гаспадарчай галіне таксама закранала інтарэсы ўсяго каталіцкага (а ў дачыненні да сялян і праваслаўнага) насельніцтва. Аднак толькі шляхта разумела і адэкватна ацэньвала яе сутнасць. Сялянская маса традыцыйна вінавацiла ў сваіх праблемах памешчыкаў. У той жа час аналіз даносаў не дае падставы казаць пра існаванне нацыянальнага (этнічнага) канфлікту паміж беларускім сялянствам і памешчыкамі-палякамі мясцовага паходжання. Практычна няма ніякай розніцы паміж даносамі сялян праваслаўнага і сялян каталіцкага веравызнання на памешчыкаў. Пэўныя культурныя або рэлігійныя адрозненні нейтралізаваліся пачуццём агульнай прыналежнасці да беларускай зямлі. Сяляне, якія звычайна ідэнтыфікавалі сябе ў якасці "тутэйшых", успрымалі і мясцовых польскіх памешчыкаў як "тутэйшы", "краёвы" элемент. Хоць вастрыня сацыяльнага канфлікту відавочная.

Разгледжаныя справы не даюць падстаў сцвярджаць, услед за шэрагам польскіх даследчыкаў, што або ўсе каталікі Беларусі, або іх значная частка ідэнтыфікавала сябе як палякаў. Хоць такая тэндэнцыя мела месца. Антыпольская палітыка расійскіх уладаў у Беларусі, якая распаўсюджвалася на ўсё каталіцкае насельніцтва, спрыяла фарміраванню ў беларускіх каталікоў

пачуцця прыналежнасці да польскай нацыі. Улады ўспрымалі каталікоў як палякаў, і самі беларускія каталікі прызвычайваліся менавіта так ідэнтыфікаваць сябе. У першую чаргу, гэта датычыла каталіцкай шляхты, якая ўжо здаўна лічыла сябе (паводле культурнай прыналежнасці) палякамі. Але антыпольская палітыка ў культурнай галіне выклікала незадавальненне не толькі "вярхоў", але і часткі "нізоў" каталіцкага насельніцтва, г. зн. сялян і мяшчан. Магчыма, канечне, што апошніх хвалявала не столькі замах уладаў на іх "польскасць", колькі парушэнне пэўных мясцовых (краёвых) традыцый. Тым не менш, вартым увагі падаецца з'яўленне сярод беларускіх сялян-каталікоў надзеі, што перамены да лепшага адбудуцца толькі з адбудовай "Польшчы". Безумоўна, гэта было вынікам незадавальнення расійскімі ўладамі.

ДАКУМЕНТ*

Данос селяніна Лявонція Тура. 24 красавіка 1874 г. Брэсцкі пав.[131]

Донесение становому приставу 5-го стана.

В местечке Высоколитовском Григорий Тур он же Турский выражался следующими словами: 1-е что он Руского Духу терпеть не может и потому он женат на полячке не выкрещенной на православную веру, 2-е ругал Императора за то что не кормит его и жену его хлебом, 3-е ругал Императора с женою своею и говорил что им Императора не нужно. Лучше чтоб был убит или чтобы была Польша или чтобы француз был забрал Сьвятую Руссь. Не по злобе доношу, а по сущей справедливости Святой. Присягаю к любви к Императору Святой Русси

Веры Православной

Леонтий Тур

---

*Дадаткі друкуюцца з захаваннем моўных і арфаграфічных асаблівасцяў арыгінала.

[131]НГАБ у Горадні. Ф.1, воп. 7, ад.з. 78, арк. 4.

Данос мешчаніна Штэйнбегнета. 17 траўня 1879 г.[132]

Его Высокоблагородию Господину Виленскому Полицмейстеру

Доношение

1879 г. апреля 18 числа я прибыл в м. Друскеники Гродненского уезда. Остался я там ночевать. Как я еврейского исповедания, так я пошёл в Богомольню молиться, как у нас в евреев читаем в заповедях. По окончанию читания там Каптёр делают молитву для нашего Государя, так как Законы Божие и Законы нашего Государя приказание делает молитва. Как Каптёр читает молитва, так всем нужно вставать. Вижу, что один еврей не встаёт. После молитвы он выходит на двор и я за ним нарочно вышел. Сделал допрос в него вы верно сердиты на Каптёра, что он делает молитва для нашего Государя. Так он сейчас отвечал не лучше бы было, чтобы Государева имя не было. Я стал разспрашивать что вам верно Государь обидил. Как же вот дело моему сыну нужно было стать в нижечиннем заиму до призыву, но мне стоила 500 руб. и сын остался в дому. Стал я отвечать Государь же не взял эти деньги. Он отвечал мне в скорости жалко что не застрелили на месте Государя и ругал с невыразимые словами — на Государя. За тем честь имею вам донести, как я сейчас на завтру писал Гродненскому Жандармскому, а как я возвратился назад 2 мая и как нету никакого слуха из этого что я написал жандармскому, так как я принужден обратиться к Вашему Высокоблагородию и покорнейше прошу представить это доношение к Его Высокопревосходительству Генерал Губернатору. Имя этого противника не верного Русского подана Ефроим Лейбович Френкель жительства в м. Друскеники, который осмелился говорить на нашего Государя Милосердного Отца Русского Царя.

Штейнбегнет.

2009

[132]Тамсама. Воп. 8, ад.з.76, арк. 5–5 адв.

# Мітрафан Доўнар-Запольскі: нараджэнне навукоўца

Постаць Мітрафана Віктаравіча Доўнар-Запольскага (1867–1934) — надзвычай цікавы аб'ект даследавання. Прыгадаем, што будучы славуты гісторык, этнограф, эканаміст і арганізатар навукі ўжо ў адной з першых сваіх публікацый (артыкул пад назвай "Белорусское прошлое", які друкаваўся ў шэрагу нумароў газеты "Минский листок" за 1888 г.) прапанаваў асновы той канцэпцыі гісторыі Беларусі, якая ў некаторых рысах дажыла і да нашых дзён. Прычым размова ішла менавіта пра гісторыю Беларусі, а не пра гісторыю Літвы або "Паўночна-Заходняга краю". Варта заўважыць, што ў той час аўтар меў толькі 21 год ад нараджэння[133].

Адразу ж адзначым творчую прадуктыўнасць маладога аўтара, які ў тым жа самым 1888 г. апублікаваў тры вялікія артыкулы ("Статистические очерки Северо-Западного края ("Памятные книжки на 1888 г." по губерниям Гродненской, Ковенской, Виленской, Витебской и Минской)"; "Древняя Белоруссия: краткий географический очерк ее в IX — XII вв."; "Белорусское

[133]Дарэчы адзначыць, што ў траўні таго ж самага года ён быў адлічаны з Першай мужчынскай гімназіі г.Кіева за чытанне забароненай літаратуры. Сярод заўважаных у яго выданняў фігуравалі ўкраінскі зборнік "Грамада", паэма Тараса Шаўчэнкі "Марыя", ліст М. Кастамарава да А. Герцэна (выданне 1885 г.), "паўднёва-рускі" літаратурны альманах "Аснова" (1861) ды інш. Таксама вядома, што падчас паездкі ў Балгарыю (1886) М. Доўнар-Запольскі набыў і прывёз у Кіеў некалькі выданняў па славістыцы (падрабязней пра гэта ў артыкуле Валянціны Лебедзевай "Мітрафан Доўнар-Запольскі ў 1888–1892 гг.: нараджэнне беларускага навукоўца".

прошлое (по поводу статей А. Пыпина, помещенных в “Вестнике Европы” 1887 г.)”, дзве рэцэнзіі (на кнігу П. Уладзімірава “Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык” (СПб., 1888), а таксама на “Северо-Западный календарь на 1888 г.” (Минск, 1888)). Названыя тэксты друкаваліся ў “Минском листке”, “Виленском вестнике” і “Киевской старине”. Нарэшце, у Кіеве была выйшла ягоная брашура “Белорусская свадьба и свадебные песни (этнографический этюд)”.

У наступным годзе пад ягонай рэдакцыяй у Маскве пабачыў свет “Календарь “Северо-Западного края” на 1889 г.” (1889). “Літаратурна-навуковы” раздзел календара складаўся галоўным чынам з матэрыялаў самога рэдактара. Апроч таго на старонках “Виленского вестника” была размешчаная рэцэнзія на публікацыю Мікалая Янчука “По Минской губернии (Заметки из поездки в 1886 г.)” (1889).

Не менш плённым быў і 1890 г. Студэнт I курса Мітрафан Доўнар-Запольскі выдаў пад уласнай рэдакцыяй чарговы “Календарь “Северо-Западного края” на 1890 г.” (Москва, 1890). Ізноў большасць навуковых публікацый належала самому рэдактару. Малады гісторык напісаў таксама рэцензіі на кнігі П. Бранцава, А. Весялоўскага, на публікацыю Э. Вольтэра “Об изучении семейного быта Литовско-Жемойтского народа”, апублікаваную ў “Памятной книжке Ковенской губернии на 1889 г.”. Апроч таго на старонках “Виленского вестника” і “Минского листка” публікаваліся рэцэнзіі на зборнік “Белорусские древности. Изд. А Сементовского. Вып. 1. СПб., 1890”, на “Программу для собирания народных юридических обычаев” (СПб., 1889), а таксама на зборнік П. Шэйна “Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Собранные и приведенные в порядок П.В. Шейном. Том 1, часть 2. Бытовая жизнь в обрядах и песнях” (СПб., 1890).

У гэтым жа годзе асобным выданнем выйшаў з друку “гісторыка-этнаграфічны эцюд” “Чародейство в Северо-Западном крае XVII–XVIII вв.” (Москва, 1890) (ён жа быў апублікаваны і на старонках “Этнографического обозрения” (1890, № 2). Нарэшце,

трэба назваць адну з найбольш значных публікацый ранняга перыяду дзейнасці М. Доўнар-Запольскага — “Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до начала XII столетия”. Кіеўскія “Университетские известия” распачалі публікацыю гэтай кнігі (1890 №№ 11, 12). Таксама чытачы “Виленского вестника” атрымалі магчымасць пазнаёміцца з серыяй “Заметок из путешествия по Белоруссии”.

Яшчэ больш прадуктыўным атрымаўся наступны, 1891 г. Працягвалася публікацыя “Заметок”. Яны ж у скарочаным варыянце публікаваліся на старонках “Минского листка”. “Университетские известия” друкавалі заканчэнне “Очерка истории Кривичской и Дреговичской земель...” (1891, № 2). У гэтым жа годзе гэтая праца была выдадзена асобна ў Кіеве.

Артыкулы маладога даследчыка з’явіліся таксама на старонках агульнарасійскіх выданняў. “Живая старина”, “Этнографическое обозрение”. Па-ранейшаму ён друкуецца на старонках “Виленского вестника”. Цяпер гэта пераважна рэцэнзіі з нагоды выдання першага нумару “Этнографического обозрения”, публікацый даследавання маёнткаў у “Літоўска-Рускай дзяржаве” праф. Уладзімірскага-Буданава, праф. Яснапольскага пра геаграфічнае размеркаванне прыбыткаў і выдаткаў у “Паўночна-Заходнім краі”, 4 і 5 выпускаў “Белорусского сборника” Е. Раманава (Віцебск, 1891), артыкулаў М. Авенарыуса пра старажытнасці Драгічына і У. Тызенгаўзэна пра старажытнасці Віленскай губ.

Рэцэнзіі Мітрафана Доўнар-Запольскага публікаваліся таксама на старонках “Киевской старины”. Даследчык адгукнуўся на выданне кнігі Б. Фрыдмана “Юридические воззрения и обычаи крестьян Северо-Западного края, преимущественно Ковенской губ.” (Вильна, 1890), а таксама на два гродзенскія выданні 1890 г. — “Памятную книжку Гродненской губернии на 1890 г.”, а таксама “Список землевладений Гродненской губернии”. Звяртае на сябе ўвагу тое, што з кожным годам у публікацыях даследчыка павялічвалася доля рэцэнзій. Праўда, некаторыя з іх на самай справе з’яўляліся разгорнутымі інфармацыйнымі анонсамі.

Каб зразумець, адкуль паўставалі зацікаўленні маладога даследчыка, які пачынаў свой шлях у навуцы, яшчэ не паспеўшы нават закончыць гімназіі, варта высветліць, што ён чытаў, і вызначыць кола тых людзей, асабліва навукоўцаў, з якімі ён падтрымліваў адносіны. Гэтай праблеме прысвечаны артыкул Валянціны Лебедзевай "Мітрафан Доўнар-Запольскі ў 1888–1892 гг.: нараджэнне беларускага навукоўца". Знаёмства з гэтым тэкстам прымусіла, у прыватнасці, звярнуць увагу на публікацыі "Киевской старины". У чэрвеньска-ліпеньскім нумары часопіса за 1887 г. быў апублікаваны некралог, прысвечаны Адаму Кіркору (1818–1887), напісаны М. Янчуком. Найважнейшым для разумення жыцця і дзейнасці А. Кіркора, на думку М. Янчука, з'яўляўся ягоны беларуска-літоўскі патрыятызм, навуковая і грамадзянская адданасць свайму Краю. Некралог канчаўся цытатай з успамінаў А. Кіркора, напісаных незадоўга да смерці. Гісторык пытаўся: хто застаўся ў Вільні і ў Літве, каб працягваць навуковае вывучэнне краю? І сам адказаў на яго: "[…] Подрастает молодое поколение, учится кое-чему; в людях способных никогда не было недостатка в Литве, а следовательно найдутся такие, которые будут пробовать свои силы. Это будут люди новые, возродившиеся; начнут, наверное, осуждением и уничтожением нас стариков, пойдут по новым направлениям, но всё таки будут работать. Пошли им Бог счастья![134]"

Выглядае на тое, што гэтыя словы мог прачытаць М. Доўнар-Запольскі і "прымерыць" іх да сябе. Тым больш, што знаёмства з публікацыямі "Киевской старины", "Wisły", расійскіх гістарычных часопісаў павінна было прывесці маладога даследчыка да высновы, што Беларусь па-ранейшаму застаецца *terra incognito*, а асобныя навуковыя даследаванні Е. Раманава, П. Шэйна ды інш. толькі падкрэсліваюць маштабы няведання. Больш за тое, як заўважыў сам Доўнар-Запольскі, палякі, расійцы і нават украінцы цягнуць беларускую гісторыю да сябе: "Белорусы же сами о себе молчали и молчат"[135].

---

[134]Янчук Н. А.-Г. Киркор, учёный исследователь Литвы и Белоруссии (некролог) // Киевская старина. Июнь-июль 1887 г. С. 555.

[135]М.З. [М.Доўнар-Запольскі] Новости белорусской науки // Виленский вестник № 81 ад 16.04.1889.

У 1888 г. напрыканцы вялікага артыкула "Белорусское прошлое", які друкаваўся на старонках газеты "Минский листок", малады навуковец адзначаў, што "племя белорусов" усё яшчэ чакае свайго даследчыка, "который бы указал на основании изучения его прошлого и настоящего положение его среди родственных ему славянских племён"[136].

Ва ўступным тэксце да *"Календаря "Северо-Западного Края" на 1889 г."* М. Доўнар-Запольскі зноў пісаў пра нявывучанасць Беларусі: "До сих пор, например, мы не имеем сколько-нибудь удовлетворительной истории Белорусского края, нет сочинений, трактующих о её современном положении и проч." Пры гэтым ёсць крыніцы для даследавання, але няма даследчыкаў: "[...] Груды сырых материалов весьма мало говорят уму читателя: они требуют обработки под рукою опытного исследователя... Нет лиц, которые с любовью занялись бы изучением родины [...]"[137]

Складваецца ўражанне, што малады даследчык паступова пачаў адчуваць уласную прызначанасць да выканання важнай місіі — пазнаёміць Расію, Польшчу, нарэшце, свет з Беларуссю. Пры гэтым ён усведамляў, якая гэта цяжкая праца, і ў той жа прадмове ў Календары адзначыў: "[...] Мы вовсе не думаем, что сумеем выполнить трудную задачу, возложенную нами на себя *(падкр. — А. С.)*: мы прилагаем свои силы с целью содействовать выработке правдивых взглядов на наш край на почве науки о его прошлом и настоящем, нашими трудами мы желаем только внести свою лепту в общую сокровищницу Западно-русской науки". Далей даследчык прызнаваўся, што яго галоўная мэта (у тэксце — мэта рэдакцыі) — "[...] принести посильную пользу родному белорусскому краю"[138]. Відавочна, што пачатак яго навуковай дзейнасці спалучаўся з пачуццём пэўнага грамадзянскага абавязку перад Беларуссю і яе народам.

У "Заметках из путешествия по Белоруссии" М. Доўнар-Запольскі прыгадаў артыкул "Мужыцкае сэрца" ў польскім этнаграфічным

[136]Минский листок. 1888. 1 ноября.

[137]От редакции // Календарь «Северо-Западного края» на 1889 г. Изд. Под ред. М.Запольского. Москва, 1889.

[138]Тамсама.

часопісе “Wisła”, аўтар якога сцвярджаў, што сяляне не маюць сэрца ў тым сэнсе, што не адчуваюць душэўнага болю, не здольныя на сапраўднае спачуванне. Падобнае стаўленне да сялянства, у тым ліку да беларускага, за якім таксама часцяком не прызнавалася права на нармальнае духоўнае жыццё, абурала М. Доўнар-Запольскага[139]. Цалкам магчыма, што менавіта гэта ён меў на ўвазе, калі пісаў у сваіх артыкулах, што Беларусь не ведаюць і не разумеюць, што ў расійцаў і палякаў склалася “неправильное мнение” пра беларусаў.

Ягоную навуковую апантанасць Беларуссю, верагодна, заахвочвала і кіеўская прафесура[140]. У прадмове да “*Очерка истории…”* М. Доўнар-Запольскі выказваў падзяку “за содействие и указания”, якія спрыялі навуковай працы, прафесарам Кіеўскага ўніверсітэта Уладзіміру Антановічу, Уладзіміру Іконнікаву і Пятру Галубоўскаму[141].

Значна пазней, у 1909 г., калі ў Кіеве выйшаў з друку першы том ягоных навуковых прац пад назвай “Исследования и статьи”, даследчык у прадмове яшчэ раз напісаў пра матывы, якія стымулявалі ягоную цікавасць да навукі. Ён адзначыў, што напрыканцы 80-х гг. XIX ст. літаратура пра Беларусь і беларусаў амаль адсутнічала, і далей: “Вот почему автор, побуждаемый желанием пролить возможно больше света для уяснения всего, что касается белорусов, делал попытки осветить положение этой народности с точки зрения различных наук”[142].

Ужо ў тыя гады навуковец актыўна цікавіўся перспектывамі вывучэння краю. У гэтым сэнсе паказальны артыкул “Новости белорусской науки”, апублікаваны ў Віленскім весніку ў красавіку 1889 г. Гэта быў водгук на публікацыю М. Янчука “По Минской

[139]б/п [М. Доўнар-Запольскі]. Заметки из путешествия по Белоруссии // Виленский вестник № 202 ад 19.09.1890.

[140]Паводле В.Лебедзевай, першая сустрэча М.Доўнар-Запольскага і прафесара Уладзіміра Антановіча адбылася ўжо напачатку 1888 г. Гімназіст прыйшоў на кансультацыю (гл. арт. В.Лебедзевай “Мітрафан Доўнар-Запольскі ў 1888–1892 гг…”).

[141]М. Довнар-Запольский. Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия. Киев, 1891. С. VI.

[142]М. Довнар-Запольский. Исследования и статьи. Том I. Этнография и социология, обычное право, статистика, белорусская письменность. Киев, 1909. С. I.

губернии", змешчаную ў зборніку "Сведений для изучения быта крестьянского населения России (Вып. 1, М., 1889)". Уся першая частка "*Новостей...*" уяўляла сабой ацэнку вывучэння Беларусі і ўтрымлівала прапановы па далейшым развіцці навуковых даследаванняў. Згадаўшы пра працы Раманава, Шэйна, Карскага, Уладзімірава, Пыпіна ды інш., М. Доўнар-Запольскі адзначаў, што "...делу будущей науки положено только начало, но начало прочное и верное, если только дальнейшая деятельность не оборвётся, найдет поддержку в местном обществе"[143]. Даследчык разважаў пра неабходнасць стварэння навуковых таварыстваў у краі, а таксама пра адкрыццё ўніверсітэта. Ён нават прапанаваў перанесці ў Беларусь універсітэт з Дэрпта.

Уяўленне М. Доўнар-Запольскага пра навуку, пра тое, што значыць быць навукоўцам, і якую працу можна лічыць навуковым даследаваннем, адлюстравалася ў ягоных водгуках і рэцэнзіях на працы калегаў. І ён быў вельмі патрабавальным рэцэнзентам. У прыватнасці, у рэцэнзіі на выданне П. Шэйна "*Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Собранные и приведенные в порядок П.В. Шэйном. Том 1, часть 2. Бытовая и семейная жизнь белоруса в обрядах и песнях*" (Спб., 1890) М. Доўнар-Запольскі звярнуў увагу на даследчы метад, якім карыстаўся вядомы этнограф.

Паводле маладога рэцэнзента, у дзейнасці П. Шэйна вылучаліся два перыяды. Вынікам першага, калі навуковец самастойна збіраў і апрацоўваў этнаграфічны матэрыял, стаў "весьма почтенный сборник, тщательно и добросовестно составленный, представляющий собой ценный вклад в науку". Другі перыяд, падчас якога матэрыялы збіраліся праз валасную і павятовую адміністрацыю, адлюстраваны ў зборніках 1887 і 1890 г. Рэцэнзент прывёў прыклады няякаснага выканання заданняў П. Шэйна мясцовымі збіральнікамі песень, выказаў сумненне ў навуковасці "обработки" и "исправления" дастаўленых этнографу матэрыялаў. У прыватнасці, ён звярнуў увагу на знікненне дзекання і цекання ў гаворцы жыхароў Сенненскага павета, якія прысутнічалі ў запісах Раманава.

[143]М.З. [М. Доўнар-Запольскі] Новости белорусской науки // Виленский вестник № 81 ад 16.04.1889.

Мітрафан Доўнар-Запольскі таксама заўважыў, што большасць запісаў рабілі асобы, пра ўзрост і адукацыйны ўзровень якіх нічога невядома. Ён нават паспрабаваў выявіць сацыяльную прыналежнасць мясцовых збіральнікаў этнаграфічнага матэрыялу. Атрымалася, што 18% склалі народныя настаўнікі, 13% — вучні народных вучылішчаў, 3% — вучні прыходскіх школ, астатнія — псаломшчыкі і святары. У зборніку 1890 г. адсутнічалі дадзеныя пра тых, ад каго запісваліся песні, і г. д.[144]

Нават разумеючы слушнасць многіх прэтэнзій рэцэнзента, нельга не адзначыць празмерную рэзкасць меркаванняў і ацэнак, магчыма, абумоўленую маладосцю аўтара[145]. Нават складваецца ўражанне, што малады навуковец нібыта пачаў рэалізоўваць тое "сокрушение стариков", пра якое казаў Адам Кіркор. Даследчыкі старэйшага пакалення больш лаяльна паставіліся да працы свайго калегі. Напрыклад, рэцэнзія на гэты самы зборнік М. Янчука, апублікаваная ў *"Этнографическом обозрении"* (1890 № 3), насіла пераважна апісальны характар, а высновы былі выключна кампліментарнымі.

Пэўным узорам этнаграфічнага даследавання для М. Доўнар-Запольскага былі працы Е. Раманава. У першую чаргу менавіта з працамі гэтага даследчыка ён звязваў поспехі этнаграфічнага вывучэння Беларусі. У водгуку на 4 і 5 выпускі Белорусского зборника (Віцебск, 1891) М. Доўнар-Запольскі выказваў надзею, што Е. Раманаў здолее пераадолець фінансавыя цяжкасці і апублікаваць усе сабраныя матэрыялы[146].

Невыпадкова ў згаданай рэцэнзіі на зборнік *"Материалов для изучения быта"…* быў прыведзены фрагмент успамінаў Е. Раманава пра ўласныя экспедыцыі: "Я погрузился […] в глубокое море народной белорусской стихии в половине июня и 48 дней вел там бродячую жизнь, пробираясь по захолустным пунктам на убогой клячёнке, запряженной в некое подобие телеги, по дорогам, по которым зачастую и сами возницы ехали впервые.

---

[144]Виленский вестник. № 194 ад 7.09.1890.

[145]Гл. артыкул А. Карскага "Скандал вокруг одной рецензии".

[146]Виленский вестник № 227 ад 19.10.1891.

Переезды эти делались большею частью днем, с расчётом прибыть в известный пункт к вечеру, когда рабочий деревенский люд возвратился уже с полей и лугов. Проведя за работой ночь, на утро я выезжал дальше, чтобы и в следующем пункте проделать то же”[147].

Таксама высока малады даследчык ацэньваў этнаграфічныя даследаванні М. Янчука. Напрыклад, ва ўжо згаданай публікацыі гэтага даследчыка “По Минской губернии” (1889) менавіта этнаграфічныя назіранні рэцэнзент палічыў самай каштоўнай часткай працы. М. Доўнар-Запольскі ахарактарызаваў гэты артыкул як “весьма приятное явление в нашей литературе… оно написано чрезвычайно живо, легко, занимательно, что довольно редко встречается у нас в научной работе”[148].

Аднак археалагічны раздзел рэцэнзент вельмі рэзка скрытыкаваў. У прыватнасці, ён адзначыў аўтарскую паспешлівасць з высновамі і недакладнасць фармулёвак, патрабаваў больш дакладнага апісання вынікаў раскопак, якое павінна суправаджацца малюнкамі і фотаздымкамі. Ён крытыкаваў апісанне, зробленае М. Янчуком на падставе дадзеных археалогіі “беларускага антрапалагічнага тыпу”. У рэцэнзента ўзнікла пытанне: як вызначыць, ці сапраўды беларусы былі пахаваныя ў раскапаных могільніках? Да таго ж ён крытычна выказаўся наконт ужывання тэрміна “беларус”, заўважыўшы, што “название “белорус” книжное, сочиненное, а сами белорусы никогда не называют себя белорусами. В народе существует только подразделение на русских и поляков; но не следует думать, что это различие действительно основано на национальности: это деление по вероисповеданию […]” Гэтая заўвага выклікае здзіўленне, бо рэцензент сам актыўна карыстаўся тэрмінамі “беларус”, “беларускае” і г. д. Відаць, выказаны ў рэцэнзіі сумнеў быў не столькі тэрміналагічны, колькі канцэптуальны. Рэцэнзент сумняваўся ў навуковай абгрунтаванасці вылучэння паняцця “беларускі антрапалагічны тып”.

[147]Тамсама. № 194 ад 7.09.1890.

[148]Тамсама. № 83 ад 19.04.1889.

Рэцэнзуючы вынікі археалагічных раскопак, Доўнар-Запольскі звычайна рабіў аналіз даследчага метаду. У водгуку на артыкул М. Авенарыуса "Дрогичин Надбужский и его древности", змешчаны ў зборніку "Древности Северо-Западного края" (СПб., 1890. Т. 1), адзначалася неабгрунтаванасць, паспешлівасць і супярэчлівасць аўтарскіх высноў. Рэцэнзент звярнуў увагу на адсутнасць малюнкаў і няпоўнае апісанне вынікаў раскопак. Ён нават прыйшоў да высновы пра неабходнасць праверкі вынікаў археалагічных даследаванняў, атрыманых М. Авенарыусам[149].

Крытыка таксама гучала ў рэцэнзіі на выданне "Белорусские древности, изд. А.М. Сементовским, членом Императорского Московского археологического общества. Выпуск 1" (СПб., 1890). Рэцэнзент параўнаў гэтае выданне з ранейшымі працамі этнографа і археолага, сакратара Віцебскага статыстычнага камітэту Аляксандра Семянтоўскага (1870-я гг.) і прыйшоў да высновы, што аўтар перадрукаваў з невялікімі дадаткамі свае ранейшыя працы. Праўда, пры гэтым адзначалася, што колькасць апісаных помнікаў Віцебскай губ. павялічылася на 400 (!) (усяго 1200) дзякуючы "древностям" Лепельскага, Полацкага і Веліжскага пав. Лічба не малая, і заўвага М. Доўнар-Запольскага ў гэтым выпадку неабгрунтаваная.

Вельмі крытычна рэцэнзент ацаніў спробу датавання пахаванняў у курганах Лепельшчыны. А. Семянтоўскі на падставе запісаных легендаў і паданняў сцвярджаў пра ўзнікненне многіх лепельскіх курганоў у часы Стэфана Баторыя. М. Доўнар-Запольскі заявіў, што такія высновы "противоречат элементарным представлениям о археологии". І далей: "В народе почти вовсе не сохранилось преданий о курганах, которые более или менее соответствовали бы действительности. Народ, чтобы объяснить себе происхождение курганов, называет их большей частью французскими или шведскими могилами. Кто же из археологов может обратить внимание на эти рассказы? Притом автор сам раскопал несколько курганов этой группы и констатировал в них факт погребения посредством сожжения, следовательно, может ли тут быть речь о XVI в.?"[150] Крытыка была цалкам

[149]Тамсама. № 201 ад 14.09.1891.

[150]Виленский вестник. № 26 ад 02.02.1890.

слушнай, бо абрад трупаспалення дазваляе датаваць магілы не пазней XI ст.

У сваіх рэцэнзіях на гістарычныя працы ён абавязкова звяртаў увагу на крыніцы даследавання, а таксама на веданне гістарыяграфіі праблемы. Адчувалася прафесійная падрыхтаванасць (самападрыхтаванасць?). Верагодна, сваю ролю адыгралі кансультацыі ў прафесара У. Антановіча, а з восені 1889 г. вучоба на гістарычным факультэце.

А як калегамі ацэньвалі працы Мітрафана Віктаравіча?

Што датычыць водгукаў і рэцэнзій на публікацыі самога М. Доўнар-Запольскага, то першая з іх з’явілася ўжо ў 1888 г. на старонках польскага этнаграфічнага часопіса “Вісла” (сшытак 2). Яе аўтарам быў Ян Карловіч. У 1890 г. “Этнографическое обозрение” змясціла рэцэнзію Я. Ляцкага на “Календарь Северо-Западного края на 1890 г.” (1890. № 1). На гэты ж *Каляндар* адгукнуўся рэцэнзіяй Ян Карловіч у “Вісле”. У 1891 г. з’явіліся рэцэнзіі на “Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель…” (“Исторический вестник”. 1891. кн. 10; “Русская мысль”. 1893. кн. 2, кн. 3; Аляксандр Ельскі ў газеце “Kraj”. № 21), а таксама на артыкул “Женская доля в песнях пинчуков” (“Русское богатство”. 1891. № 11).

Трэба адзначыць, што большасць гэтых рэцэнзій не адрознівалася глыбінёй аналізу і нагадвала звычайныя пераказы зместу працы або водгукі. Ян Карловіч, напр., у рэцэнзіі на “этнографический этюд” “Белорусская свадьба и свадебные песни” заўважыў, што аўтар выдання намаляваў даволі грунтоўную карціну беларускага вяселля, якому этнографы не надавалі належнай увагі, пазнаёміў чытачоў з вясельнымі звычаямі, абрадамі і песнямі Мазырскага і Рэчыцкага пав. Рэцэнзент працытаваў фрагменты тэксту М. Доўнар-Запольскага, прысвечаныя моцы забабонаў у беларускай вёсцы, звярнуў увагу на некаторыя старажытныя звычаі ў беларускім вяселлі і перадрукаваў адну з вясельных песень[151].

[151]Wisła. 1888. Zeszyt 2, s. 419-422.

Крытычна Я. Карловіч паставіўся да "*Календаря "Северо-Западного" края на 1889 г.*" (М., 1889). Рэцэнзента "зачапіў" тэзіс М. Доўнар-Запольскага пра "наіўнасць" аўтара "Гапона" і тых польскіх пісьменнікаў, якія ў сваіх працах пісалі пра сяброўства "паноў" і "хлопаў", а таксама лічылі беларускую мову мяшанкай польскай і "вялікарускай". Асаблівую ўвагу Ян Карловіч звярнуў на артыкул "Белорусское наречіе", апублікаваны ў Календары, згадзіўся з думкай аўтара, што беларуская мова з'яўляецца "адметнай гаворкай вялікарускай мовы" (для таго часу наватарская выснова), і рашуча не згадзіўся з абвінавачаннем у "наіўнасці". Рэцэнзент прыгадаў Яна Чачота, які прызнаваў адметнасць "крыўскай мовы", заўважыў агульнавядомыя, на яго думку, моцныя ўплывы польскай мовы на "беларускі говар" і заявіў пра наіўнасць тых, хто гаворыць пра "бездань" паміж "панам" і "хлопам", не разумеючы, што толькі ўзаемны шацунак да этнічных адметнасцяў можа гарантаваць згоду ў грамадстве[152].

Цікавасць даследчыкаў прыцягнуў "Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до начала XII столетия", які ў 1891 г. выйшаў асобным выданнем. Аляксандр Ельскі змясціў у польскай газеце "Край" вельмі станоўчы водгук. Ён падкрэсліў грунтоўнасць працы, заснаванай на крыніцах, і характэрную для маладога даследчыка "аб'ектыўнасць". Рэцэнзент, у прыватнасці, звярнуў увагу на станоўчую ацэнку сувязяў Тураўскай зямлі з Польшчай у XI ст. і аўтарскую характарыстыку ролі Літвы як фактара, які аб'яднаў крывіцка-дрыгавіцкую славяншчыну і ўзамен за атрыманую ад яе культуру даў "жыццяздольнасць маладога духу". Сярод недакладнасцяў А. Ельскі адзначыў занадта вольнае абыходжанне аўтара з тэрмінам "Русь". Рэцэнзент заўважыў, што гэты тэрмін нельга ўжываць датычна славянаў і падкрэсліў не этнічны, а "дзяржаўна-палітычны" сэнс тэрміну. Тым не менш, А. Ельскі вітаў працу і выказваў спадзяванне, што малады гісторык зойме прыкметнае месца ў гістарычнай навуцы, тым больш, што пачатак ягонай кар'еры выглядае вельмі сур'ёзна[153].

---

[152]Тамсама. 1889. Tom 3. S. 942-943 (Дарэчы, згадка гэтай рэцэнзіі Я.Карловіча адсутнічае ў бібліяграфічным паказальніку "Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі" (Выд. 2-е, дапоўненае. Мінск, 2007).

[153]Kraj. Nr 21 ад 24.05.1891

Больш крытычна паставіўся да гэтай працы аўтар рэцэнзіі ў “Историческом вестнике”, які схаваўся пад крыптонімам *В. Б.* Гэта была найбольш сур’ёзная рэцэнзія. *В. Б.* адзначыў падабенства структуры з кнігай Андрыяшава “Гісторыя Валынскай зямлі да 14 ст.” Ён пазітыўна ацаніў першую частку кнігі, а менавіта геаграфічны нарыс, і вельмі крытычна выказаўся пра ўласна гістарычную частку. У прыватнасці, рэцэнзент звярнуў увагу на тое, што М. Доўнар-Запольскі абмежаваўся толькі летапіснымі крыніцамі і праігнараваў дадзеныя археалогіі і этнаграфіі. У выніку ягоная праца стала звычайным некрытычным пераказам летапісаў. Рэцэнзент прызнаўся, што нават уважліва не чытаў усю кнігу, бо нібыта не бачыў у гэтым сэнсу. Праўда, выказаныя ім “мімаходзь” заўвагі сведчылі пра адваротнае. Напрыклад, *В. Б.* сцвердзіў, што М. Доўнар-Запольскі перабольшыў ролю веча, недаацаніў ролю палітычных традыцый і недакладна растлумачыў тое месца ў летапісе, дзе гаворка ішла пра нараджэнне князя Усяслава Брачыславіча і “язвено на голове”. Справа ў тым, што М. Доўнар-Запольскі пісаў пра павязку на галаве княжыча. У падсумаванні *В.Б.*, нягледзячы на ранейшую крытыку, адзначыў пазітыўнае значэнне працы, асабліва яе першай гісторыка-геаграфічнай часткі, і прызнаў, што аўтар дасягнуў пастаўленай мэты. Пры гэтым выказвалася шкадаванне, што аўтар так вузка зразумеў задачы, якія стаялі перад ім як даследчыкам, і ўтрымаўся ад абагульненняў і высноў, хоць мог бы справіцца і з гэтым[154].

Вялізная колькасць публікацый маладога даследчыка ў галіне беларускай гісторыі, этнаграфіі, статыстыкі, дыялекталогіі і мовазнаўства, а таксама навуковая вартасць большасці з іх уражваюць. Мітрафан Доўнар-Запольскі не ўвайшоў, а ўварваўся ў навуку. Відавочна, што за публікацыямі 1888 — 1891 гг. стаяла актыўная самастойная праца па вывучэнні крыніц, знаёмства з навуковай літаратурай, прысвечанай беларускай мове, этнаграфіі, археалогіі, гісторыі і эканамічнаму стану. Падмуркам нетыповай для гімназіста і студэнта працаздольнасці і апантанасці, верагодна, было перакананне маладога даследчыка ў

[154]Исторический вестник. Историко-литературный журнал. 1891. Октябрь. Т. XLVI.

тым, што менавіта ён павінен пазнаёміць навуковы свет з Беларуссю. Значную ролю ў гэтым самаперакананні адыграла знаёмства з украінскай гістарычнай і этнаграфічнай літаратурай, кантакты з У. Антановічам і ягонымі калегамі, а таксама этнаграфічныя экспедыцыі па Беларусі.

Апошнія адыгралі велізарную ролю ў станаўленні менавіта беларускага навукоўца. У рэшце рэшт, у кожнай экспедыцыі ён “адкрываў” Беларусь не толькі для навукоўцаў іншых краін, ён “адкрываў” яе і для сябе. Вывучэнне народнай культуры ўмацоўвала сувязі даследчыка з роднай зямлёй і яе народам. Яго абуралі тыя выказванні навукоўцаў і публіцыстаў, якія прыніжалі культуру Беларусі і паказвалі яе насельнікаў варварамі. Некалі прачытаны ў “Wisłe” артыкул “Мужыцкае сэрца”, хоць і не датычыў непасрэдна беларускіх сялян, зрабіў на маладога навукоўца вельмі моцнае ўражанне. Часткай ягонага “адкрыцця” ўсяму свету Беларусі была апалогія яе народу. Невыпадкова ў “Заметках из путешествия по Белоруссии” ён заявіў, што “крестьянин в нравственном отношении… такой же человек, как и мы все грешные, называемые интеллигентным обществом… Душа у крестьянина есть и даже хорошая душа, но только он слишком своеобразно сравнительно с нами выражает свои чувства к окружающим…”[155]

У ранніх публікацыях М. Доўнар-Запольскага арганічна спалучаліся прыкметныя амбіцыі маладога даследчыка, навуковая зацікаўленасць беларускай этнаграфіяй, гісторыяй і мовай з імкненнем давесці ўсяму свету годнасць і “цывілізаванасць” жыхароў Беларусі, і ў першую чаргу яе сялянства.

2009

---

[155]Виленский вестник. № 202 ад 19.09.1890.

# Горадня і гарадзенцы 1911–1915 гг. на старонках “Нашай Нівы”

Горадня і гарадзенцы даволі часта фігуравалі на старонках галоўнай газеты беларускага Адраджэння пачатку ХХ ст. Пра стварэнне панарамнай карціны жыцця горада над Нёманам казаць не даводзіцца, але чытачы маглі атрымаць інфармацыю пра стан беларускай культуры ў горадзе, даведацца пра асаблівасці гарадзенскай штодзённасці, пра важныя палітычныя падзеі і г. д.

Які ж вобраз Горадні і гарадзенцаў стваралі карэспандэнты і рэдакцыя “Нашай Нівы”?

Першая згадка горада ў аналітычных матэрыялах “Нашай Нівы” была звязаная з выбарамі ў Думу. Трэба адразу адзначыць, што Горадня на ўсіх думскіх выбарах абірала пераважна дэпутатаў-чарнасоценцаў. Гэта было вынікам пэўных ідэалагічных і адміністратыўных маніпуляцый...

Падчас выбараў у ІІ Думу (люты 1907 г.) архіерэй спецыяльна для сялянскіх дэпутатаў на губернскі выбарчы сход адслужыў абедню, якую скончыў чарнасоценнай прамовай, дзе “лаяў жыдоў апошнімі словамі” і пераконваў, што лепшыя сябры мужыкоў — гэта рускія памешчыкі. Пасля гэтага сялянскіх дэпутатаў размясцілі ў Народным доме пад аховай паліцыі, каб ізаляваць ад гарадскіх выбаршчыкаў (тых самых “жыдоў”), з якімі

яны раней заключылі пагадненне. Пасля выбараў гарадскія выбаршчыкі падалі скаргу, якую падтрымалі некаторыя сялянскія дэпутаты. Апошнія прасілі адмяніць вынікі выбараў, заяўляючы, што былі “адурманеныя духоўнымі асобамі”[156].

На выбарах ў III Дзяржаўную думу (кастрычніку 1907 г.) таксама перамаглі “правыя”. Паводле “Нашай Нівы”, гэтая перамога была абумоўлена актыўнасцю Сафійскага праваслаўнага брацтва і пагадненнем паміж “ісцінно-рускімі” і “ісцінно-польскімі” нацыяналістамі. Супрацьстаяў ім ліберальна-дэмакратычны Прагрэсіўны блок. Агітуючы за прагрэсістаў, гарадзенскі карэспандэнт “Нашай Нівы” (псеўданім *Nemo*) пісаў, што “мужыком патрэбна не грызня паміж рознымі верамі і нацыямі, а новыя свабодныя парадкі і землі”[157].

Нічога не змянілася і падчас выбараў у IV Дзяржаўную Думу, якія прайшлі на Гарадзеншчыне ўвосень 1912 г. Вялікай цікавасці гэтыя выбары не выклікалі. Карэспандэнт *Беларус* бачыў прычыну гэтага ў расчараванні працай дэпутатаў III Думы, асабліва тых, што прадстаўлялі праваслаўнае духавенства (“Не падабае духавенству займацца палітыкай; яго дзела служыць Богу і парахвіі”[158]). Карэспандэнт *Міхась*, пераказаўшы размову з сялянамі наконт іх чаканняў ад працы Думы, з горыччу зазначыў поўнае неразуменне значэння гэтай дзяржаўнай установы. “Ня дзіва, — пісаў ён, — што нашы беларусы і другія думскія дэпутаты грошы бралі і нічога не зрабілі. Ня дзіва, што яны будучы ў Таўрычэскім палацу, перэходзілі на тую старану, дзе ім карысьней было і куды іх рознымі абецанкамі манілі”[159]. Таксама адзначалася адміністратыўнае лабіраванне кандыдатаў з ліку праваслаўнага духавенства. Карэспандэнт *Гродзенчук* паведамляў пра рассылку праваслаўнаму духавенству губерні “прэдпісаньняў” агітаваць на выбарах у Дзяржаўную Раду за святара Карчынскага, які належаў да крайне “правых”[160].

[156] Наша Ніва. № 8 ад 24 лютага 1907 г. Тут і далей усе цытаты падаюцца з захаваннем моўных і граматычных асаблівасцяў тэкстаў “Нашай Нівы”.

[157] Тамсама. № 30 ад 28 верасня 1907 г.

[158] Тамсама. № 39 ад 27 (10) верэсьня (сенцябра) 1912 г.

[159] Тамсама.

[160] Тамсама. № 37 ад 13 (26) верэсьня (сенцябра) 1912 г.

Нашаніўская інфармацыя пра культурнае жыццё Горадні ў 1906–1915 гг. абмяжоўвалася пераважна праблемамі і падзеямі беларускай культуры.

У студзені 1908 г. праблему стаўлення беларусаў да сваёй роднай мовы ўзняў ананімны настаўнік з Гарадзеншчыны ў лісце ў рэдакцыю: “Даўно ўжо мучыць мяне думка аб нашай роднай мові. Народ мае сваю мову. Гаворыць у ёй, не ўстыдаецца яе, а сын гэтаго народу, як выйдзе ў людзі ўжо гаворыць іначэй з гэтым самым народам, каторы яго выгадаваў, на зямліцы каторага ён вырас і сынам каторага ён лічыцца. Чаму гэтак у нас зрабілася, што ўжо так многа інтэлігенцыі выйшла з народу, і ўся яна выраклася сваёй роднай мовы?” Аўтар заўважыў, што пасля атрымання адукацыі для інтэлігенцыі ўжо пакута размаўляць у роднай мове. Ліст канчаўся праклёнам: “Каб таму было цяжка дыхаць, хто гэта зрабіў!”[161]

Уласна беларускае культурнае жыццё ў Горадні “Наша Ніва” заўважыла толькі ў 1910 г. У сакавіку 1910 г. гарадзенец і будучы палітык Павел Аляксюк (псеўданім *Паўлюк*) паведаміў пра беларускую вечарыну, якая, па яго словах, “вельмі добра ўдалася”. Інфармацыя датычыла вечарыны, арганізаванай Гуртком беларускай моладзі, да якога належала Людвіка Сівіцкая (*Зоська Верас*). *Паўлюк* заўважыў, што Горадня — горад беларускі, але “дагэтуль аб беларусах нешта мала было чутно, і толькі цяпер пачалі яны тут будзіцца. Спачатку, праўда, ішло туга, але пасьля што раз болей і болей пачалі цікавіцца беларускім адраджэньнем, і вось цяпер ужо маем нямала беларусоў, каторые душой і сэрцэм прыналежаць да сваёй бацькоўшчыны… Найбольш нас цешыць і тое, што і нашы браты — славяне — расейцы і палякі — спагадаюць нам тутака, а найболей то цешацца літвіны, што беларускі народ, каторага сілы ешчэ не выкарыстаны, а нават і не пачынаны, прачнуўся”[162].

Павел Аляксюк і пазней неаднаразова ўздымаў праблему беларускай культуры. Праўда, ягоныя “беларускія замалёўкі”

[161]Тамсама. № 1 ад 4 студзеня 1908 г.

[162]Тамсама. № 13 ад 25 сакавіка 1910 г.

датычылі больш ваколіцаў Горадні. Вось фрагмент рэпартажу з Эйсмантаў: “Шляхта тутэйшай аколіцы, відаць, забылася ўжо сваёй прадзядоўскай мовы; а мо і ня ведае гэты цёмны народ, што даўней іх бацькі і дзяды ўжывалі толькі родную беларускую мову… Не забыліся за тое тутэйшыя людзі іншых старасвецкіх звычаёў: у аколіцы, хоць яна і не вялікая, ёсць ажно тры карчмы і як надойдзе свята, шляхта наша цягне туды, як жураўлі ўвосень, і там за кварту гарэлкі можна купіць чалавека, як кажуць, з патрахамі… Ня дзіва, што тут беднасьць расселася як у сваёй хаці, бо а прасьвеці столькі ведаюць, колькі а жалезным ваўку”[163].

Цалкам іншую карціну ён назіраў у м. Сідра: “Ці то каталік, ці праваслаўны — кожны з іх прызнае сябе цяпер толькі беларусам, і кожны з іх горнецца да беларускай кніжкі, да роднай сваёй мовы. Вельмі любяць яны чытаць “Нашу Ніву”, асабліва казкі і розныя апавяданьня… Кепска толькі, што школ ешчэ ў нас нехват для ўсіх тых, каторые хацелі-б там вучыцьца. Кепска і тое, штоў мястэчку ёсць карчма і стаіць яна — скуль-бы не ехаў — як раз на самай дарозі, — вось і трудна з ёй разьмінуцца…”[164]

Паводле інфармацыі таго ж карэспандэнта, “Нашу Ніву” і беларускія кнігі ў Горадні можна было набыць у кнігарнях Заморскай, Любіча і Тракеніцкай. Апроч таго, “Нашу Ніву” прадаваў яшчэ хлопчык-газетчык[165].

Моцна ўсхвалявала гараджанаў смерць Элізы Ажэшкі ў траўні 1910 г. “Наша Ніва” адрэагавала артыкулам “Эліза Ажэшка”, падпісаным *В. Л.* (Вацлаў Ластоўскі?). Аўтар адзначаў, што смерць Э. Ажэшкі, якая “старалася шырыць агульналюдскія ідэалы, міласць да чалавека”, з’яўляецца стратай не толькі для Польшчы і польскага народу, але для ўсяго культурнага свету. Паводле *В. Л.*, “большая частка твораў Э. Ажэшкі, як і сама душа пісьменніцы, неразрыўна зьвязана з беларускай глебай… Праўдзівай бацькоўшчынай Ажэшковай была Беларуская зям-

[163]Тамсама. № 15 ад 8 красавіка 1910 г.

[164]Тамсама.

[165]Тамсама. № 25 ад 17 чэрвеня 1910 г.

ля, каторая яе ўзгадавала; с Польшчай — апрача мовы і гісторычных перажыткоў — вялікая пісьменніца мела мала супольнаго. І ўсё-ж такі беларуская фантазія, беларуская казка, што рожэвай дымкай апавівала яе дзіцячыя думкі, ускалыхала вялікага духу пакойнай на славу чужым. Такая ўжо, відаць, доля нашага краю…”[166]

У лістападзе 1910 г. Гарадская дума пастанавіла ўшанаваць памяць Ажэшкі. Дзеля гэтага было прынятае рашэнне: “1) назваць Пясковую вуліцу, на якой яна жыла, яе іменем; 2) плаціць з гарадскіх сродкаў за навуку 5 бедных вучняў; 3) даваць штогод на кожны з гарадскіх прытулкаў 100 руб.; 4) павесіць партрэт Ажэшкі ў зале паседжанняў гарадской думы[167].

Найбольш поўна на старонках “Нашай Нівы” асвятлялася дзейнасць Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі, якім да 1912 г. кіраваў ксёндз Францішак Грынкевіч. Пры гэтым важна адзначыць, што “Наша Ніва” ні разу не згадвала пра існаванне самога гуртка. Звычайна газета проста паведамляла пра беларускія культурныя падзеі ў Горадні, якія арганізоўваліся мясцовай моладдзю. На чарговую беларускую вечарыну, якая адбылася ў сярэдзіне лютага 1911 г., сябры гуртка запрасілі “нашаніўцаў”. Як сведчаць успаміны бібліятэкаркі гуртка Людвікі Сівіцкай (*Зоські Верас*), у Горадню прыехаў Іван Луцкевіч[168]. Відавочна, што ён і быў аўтарам адпаведнай нататкі, апублікаванай у № 8 (ад 24 лютага) і падпісанай псеўданімам “Нашанівец”.

І. Луцкевіч прайшоўся вуліцамі старога горада і падзяліўся з чытачамі сваімі ўражаннямі: “Горад наш ляжыць над Нёманам. Сваімі старымі будоўлямі, касьцёламі, палацам Тызенгаўзоў, старымі дамамі — ён паказывае, што калісь людзі дбалі аб яго красе. Мешаніна дерэўляных і каменных будоўлі, распалажэньне гораду дае маляўнічы і сімпатычны выгляд Гродні. Люба перэйсціся сёред гэтых будоўлі: відаць, што тандэт і вульгарыза-

[166]Тамсама. № 20 ад 13 траўня 1910 г.

[167]Тамсама. № 46 ад 11 лістапада 1910 г.

[168]Сівіцкая Л. Горадзенскі гурток беларускай моладзі (1909-1914) // Горад святога Губерта. Выпуск першы / пад рэд. А.Ф. Смаленчука. Сейны, 2000. С. 91.

цыя не зачапіла даўняго хараства. Жыцьцё ў Гродні плыве на палавіну патрыярхальна. Шчыра прывітаюць брата! Німа тэй гарачкі вялікіх гарадоў. Такая атмосфера наводзіць на чалавека паважныя думкі, падбівае разглядацца ў мінулых часах. Гурткі маладых пачынаюць займацца літэратурай, навукай, а пазнаўшы яе, ня дзіва, што сэрцы іх гарачыя сільней забьюцца, а сымпатіі пакіруюцца да ўласнаго беларускаго народу”.

Тут варта звярнуць увагу на выраз “горад наш”. Ён не быў выпадковым...

Іван Луцкевіч апісваў вечарыну, распавядаючы пра нейкія “імяніны”, на якія быццам бы быў запрошаны. Паводле яго карэспандэнцыі, “імяніны” пачаліся з рэферату “Адгалосак душы беларускага народу ў яго песьнях, казках і паданнях”, з якім выступіў гімназіст Юзва. На самай справе, як сведчаць успаміны Л. Сіціцкай, гэты рэферат чытаў старшыня гуртка Адам Бычкоўскі[169]. Потым спявалі беларускія песні, а напрыканцы адбылася пастаноўка аднаактавай п’есы Каруся Каганца “Модны шляхцюк”. Гэты вадэвіль, які быў выдадзены асобнай кніжачкай у Пецярбургу ў 1910 г., карыстаўся асаблівай папулярнасцю сярод прыхільнікаў беларускага тэатра.

“Нашанівец” быў вельмі задаволены вечарынай: “Я дзіваваўся, гледзячы на артыстоў, як яны умелі падглядзець, падсьцерагчы характар вясковых сватаньнёў, умелі ўстроіць усё так, як яно папраўдзі бывае ў хаце беларускай. […] Добра сыгралі ўсе, і відаць, што аддаюцца справе з цэлым агнём маладых сваіх дум. Казалі вершы беларускія чыстым выгаварам нашай мовы; відаць было, што горад і школа не здалелі мовы роднай скалечыць, маленькая дзяўчынка ў народнай опратцы сказала верш Сівіцкай “Што я люблю”, гаварыла з такім зразуменьнем, што ўлівала веру, што гэтыя маладыя сілы Беларусі патрапяць так гарача, так ідэальна пакахаць “і край, і лес, і ноч, і дзень, і свой народ і ўсіх людзей”, што яны не паўстыдаюцца імені беларус. […] Выходзячы позна з імянін я вынес адтуль з сабой думку, што часу не змарнаваў, і не маркоціўся, а напроціў ўздыхнуў ат-

[169]Тамсама. С. 91.

масферай здаровай, чагось навучыўся. Вынасіў падзякаваньне за прыемны вечар і веру, што гродзенская беларуская моладзь родную справу пасуне ўперад".

Верагодна, пэўныя недакладнасці ў нататцы І. Луцкевіча былі абумоўленыя імкненнем схаваць інфармацыю, якая магла аказацца небяспечнай для сяброў гарадзенскага гуртка.

Пра Гарадзенскі гурток беларускай моладзі "Наша Ніва" пісала і пазней. І зноў не згадваючы пра сам гурток, не называючы імёнаў і прозвішчаў. У траўні 1911 г. за подпісам *К. К-шко* ў "Нашай Ніве" з'явілася інфармацыя пра маёўку гарадзенскай беларускай моладзі, на якой гучалі беларускія песні, дэкламаваліся вершы як ужо вядомых беларускіх паэтаў ("песьняроў"), так і ўдзельнікаў маёўкі: "Гулялі без прынукі і нуды, як толькі можэ гуляць моладзь, якая бачыць перад сабой далёкую і цяжкую дарогу". Аўтар нататкі (ім быў хутчэй за ўсё сябра гуртка Казімір Калышка) зазначыў, што маёўка ладзілася з нагоды ад'езду "старэйшага таварыша", які "агню і дыхту паддаваў, дзе толькі з'явіўся"[170]. І сапраўды, на гэтай маёўцы гурток развітваўся з адным з яго арганізатараў і першым старшынёй Адамам Бычкоўскім, які скончыў гімназію і пакідаў Горадню[171].

Умовы дзейнасці гуртка ў Горадні, сапраўды, былі даволі няпростымі. На пачатку 1912 г. ксёндз Грынкевіч пакінуў кіраўніцтва гуртком і адышоў ад беларускіх справаў. Л. Сівіцкая галоўнай прычынай лічыла ціск вышэйшых духоўных уладаў. Ціснулі і на гімназічную моладзь. Некаторыя выкладчыкі гімназіі пагражалі гуртkoўцам зніжэннем адзнакі за паводзіны ды інш.[172]

Тым не менш дзейнасць працягвалася. Перад новым 1913 г. гуртkoўцы зладзілі ялінку для дзяцей у в. Серуцёўка Сакодь-

---

[170]Наша Ніва. № 18-19 ад 12 травня (мая) 1911 г.

[171]Верагодна, ён працягваў адукацыю на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Прынамсі, прозвішча Бычкоўскі фігуруе сярод заснавальнікаў Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў гэтага ўніверсітэта (Сьвятагор Я. Беларускі студэнцкі кружок // Наша Ніва. № 31 ад 2 жніўня 1913 г.).

[172]Сівіцкая Л. Горадзенскі гурток беларускай моладзі... С. 94.

скага пав. “Наша Ніва” паведаміла пра гэта ўжо на пачатку 1913 г. Аўтар нататкі “Беларуская вечарына наездам” (магчыма, крыптонімам *Ф. Л.* падпісаўся сябра гуртка Ф. Лабенец) ізноў жа не называў ні вёскі, ні прозвішчаў арганізатараў і ўдзельнікаў свята. Ён нават сцвярджаў, што ў вёсцы ніхто не ведаў пра прыезд гасцей, што вяскоўцы спачатку не жадалі размаўляць з гасцямі па-беларуску і загаварылі на роднай мове толькі тады, калі пачулі, што госці размаўляюць на ёй паміж сабой. Апісанне гэтага беларускага свята добра перадае тую атмасферу, у якой адбывалася беларускае нацыянальна-культурнае Адраджэнне на Гарадзеншчыне: “У гэтай вёсцы ніхто ня толькі што не бачыў, але нават і ня чулі аб беларускім друкаваным слове і вельмі дзівіліся ўгледзіўшы “Н. Н.”, беларускі календар і др. Але прынялі іх бяз сьмеху і зьдзеку, як гэта часам бывае праз цемнату ў другіх мейсцах. А пачуўшы колькі вершоў і апаведаньнёў, пачалі прасіць, каб ім даць пачытаць; раздалі ім колькі календароў і др. кніжак”[173].

Чытачы “Нашай Нівы” маглі адно даведацца пра падзеі беларускага культурнага жыцця горада. Відавочна, што рэдакцыя займалася “беларусізацыяй” Горадні. З іншых падзеяў культурнага жыцця “Наша Ніва” згадала пра гадавіну смерці Элізы Ажэшкі[174] і адкрыццё музея пры гарадскім Педагагічным таварыстве (1913)[175]. Таксама газета адрэагавала на смерць гарадзенскага педагога і гісторыка, аўтара гістарычнай працы “Гродненская старина” Яўстафія Арлоўскага (1913). Аўтар паведамлення, які выкарыстаў крыптонім *А. З.* (верагодна, гімназіст і тагачасны старшыня Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі Адольф Зянюк) пісаў, што “сваёй сумленнай і доўгалетняй службай ён *[Я. Арлоўскі — А.С.]* зьеднаў сабе агульную сімпатыю і за труной яго ішло шмат моладзі і жыхароў”. Ён жа прывёў вучнёўскую характарыстыку Я. Арлоўскага: “Чалавек прастаты, дабра і праўды”[176].

[173]Наша Ніва. № 3 ад 18 студня 1913 г.

[174]Тамсама. № 18-19 ад 12 травня (мая) 1911 г. Аўтар публікацыі (крыптонім X) пісаў, што “грамадзянство добра яе помніць і помніцьймець, бо хаця яна і адыйшла ад нас целам, але дух яе жыве і жыцыме”.

[175]Тамсама. № 48 ад 28 лістапада 1913 г.

[176]Тамсама. № 50 ад сьнежня 1913 г.

Няпросты стан беларускага Адраджэння на Гарадзеншчыне адлюстраваўся ў падарожных нататках Вацлава Ластоўскага ("З падарожжа па Гродзеншчыне"[177]). Ён наведаў тыя часткі рэгіёна, дзе "жыве беларускі народ суцэльнай грамадой". *Власт* адзначыў чысціню беларускай мовы "беларусоў-гродзенчукоў" і звярнуў увагу на раскол, які адбыўся сярод мясцовай інтэлігенцыі. Апошняя падзялілася на "польскі" і "расейскі" лагеры, ваюючыя паміж сабой за "душу беларуса": "Тутэйшыя палякі лічаць за "сваіх" беларусоў-каталікоў; праваслаўныя расейцы — "сваімі" лічаць праваслаўны люд". Пры гэтым, як заўважыў аўтар, ні адныя, ні другія "ня хочуць бачыць і ведаць, што беларус можэ вытварыць сваю ўласную культуру, пачаць жыць сваім асобным жыцьцём". В. Ластоўскі заўважыў, што "людзей, каторыя бы адносіліся справядліва да адраджэньня беларускаго народу, тут, у Гродзеншчыне мне прыходзілася спатыкаць менш, чым у іншых мейсцах". У якасці прыкладу ён прывёў кніжных гандляроў, абурэнне якіх выклікала адно толькі пытанне пра беларускія кнігі. Адразу пачыналіся маналогі пра "беларускую інтрыгу", накіраваную ці то супраць палякаў, ці то супраць расейцаў, што залежала ад канфесійнай прыналежнасці гандляра. Адной з галоўных прычынаў такога становішча, на думку дзеяча Адраджэння, была пазіцыя як мясцовай "інтэлігенцыі", так і гарадзенскага праваслаўнага і каталіцкага духавенства, якое адмаўляла існаванне беларусаў.

Артыкул В. Ластоўскага аказаўся амаль адзіным тэкстам "Нашай Нівы" разгляданага перыяду, у якім на высокім аналітычным узроўні апісваліся праблемы "беларускай Гарадзеншчыны".

Таксама звяртаюць на сябе ўвагу карэспандэнцыі не ідэнтыфікаванага аўтара з Гарадзеншчыны, які падпісваўся псеўданімамі *Міхась*, *Дзед Міхась*, *Стары дзед Міхась* і, нарэшце, *Верны сын Беларусі дзед Міхась*. Ягоныя публікацыі, што вылучаюцца беларускім патрыятызмам і пэўным пафасам, з'яўляюцца на старонках газеты ў 1912 г. Першая з іх была крытыкай ліста *Беларуса з Магілёўскай губ.*, апублікаванага ў газеце "Крестьянин". Аўтар ліста здзекаваўся з беларускай мовы, за што і

[177]Тамсама. № 32 ад 9 (22) жніўня (аўгуста) 1912 г.

атрымаў ад *Дзеда Міхася* мянушку “здрайцы Бацькоўшчыны”. Публікацыя заканчвалася зваротам: “Не чурайцеся, беларусы, сваёй роднай мовы, не рабіцеся здрайцамі сваёй Бацькоўшчыны, а заставайцеся яе вернымі сынамі, тады і чужынцы будуць нас шанаваць”[178].

У іншай публікацыі гэты аўтар рашуча выступаў супраць невуцтва і задаваўся рытарычным пытаннем: “Калі ты, наша Беларусь, уваскрэснеш, калі цябе асвеціць яснае сонейка навукі, калі ты разарвеш тыя ланцугі, якія многа лет дзержаць цябе ў цемнаце. Я хаця стары чалавек, але не трачу надзеі, што на нашай святой Беларусі загарыць ясным полымем навука, што свет ва ўсе цёмныя куты загляне і прабудзіць беларусоў ад доўгага сна. Нам толькі трэба больш школ і навукі на нашай беларускай мове, бо расейская мова, хоць і культурная, але для нас малазразумелая і дзеля гэтага сельскія грамацеі не ахвотна чытаюць расейскія кнігі. Кожная нацыя любіць сваю мову, свае абычаі і сваю бацькоўшчыну”[179].

Штодзённае жыццё гарадзенцаў знайшло сваё адлюстраванне ў шматлікіх нататках ужо згаданага Паўла Алексюка. Яго карэспандэнцыі пачалі з’яўляцца ў кастрычніку 1909 г. Спачатку гэта былі кароткія паведамленні пра падзеі з жыцця Горадні, якія змяшчаліся ў рубрыцы “З Беларусі і Літвы”. Пазней рэдакцыя пачала вылучаць іх асобна і з’явілася рубрыка “З Гродны”. Паведамленні П. Алексюка ствараюць даволі цікавы вобраз штодзённага жыцця горада. Да найбольш характэрных гарадзенскіх сюжэтаў належалі праблемы гігіены, асвятлення вуліц, крымінальныя здарэнні, гаспадарка і адукацыя:

Кастрычнік 1909 г.: “У горадзе халера, якой доўга не было. За тры тыдні памерла 30 чалавек… Зараз наводзіцца чысціня, але больш для вачэй. Калі гаспадар не хоча прыбіраць бруд, то ўсё так і застаецца. Калі паліцыя не будзе глядзець за чысцінёй, то халера будзе множыцца”[180].

---

[178]Тамсама. № 22 ад 31 (13) мая 1912 г.

[179]Тамсама. № 27 ад 5 (18) ліпня (юля) 1912 г.

[180]Тамсама. № 42 ад 15 кастрычніка 1909 г.

Лістапад 1909 г.: "Горад наш губернскі, а парадкі не губернскія. На адной вуліцы шмат ліхтароў, а на іншых няма. Па некаторых завулках боязна хадзіць уначы, а яшчэ і злодзеі цягаюцца. Трэба ставіць ліхтары на пустых вуліцах; цяпер набіраюць навабранцаў у войска. На вуліцы лепш не выходзіць: "Сядзі дома і не вытыкай носа"[181].

Снежань 1909 г.: Судовая палата разглядала справу адваката Гілерсана, які на беластоцкім працэсе аб пагроме казаў антыўрадавую прамову. "Шмат сабралося на гэта дзела адвакатаў з усёй Расеі, каб бараніць свайго таварыша". Аднак Судовая палата засудзіла яго на год у крэпасць[182].

Люты 1910 г.: "У нашым горадзе ёсць такія падворкі, што як залезеш туды, то і ног з балота не выцягнеш: хоць па "скорую помач" пасылай. Ёсць і іншыя парадкі: на Саборнай, напрыклад, столькі таўчэцца народу, не маючы, відаць, нічога лепшага для работы, што калі патрэба здарыцца прайсьці, то і людзям і сабе паадбіваеш бакі". (Інфармацыю папярэджваў загаловак: У нашым Гродне ўсё модне)[183].

Сакавік 1910 г.: "Сярод бела дня вывозяць гарадскія бруды, ад якіх "аж насы рве". Калі-ж гэткім парадкам прыйдзе канец?"[184]

Красавік 1910 г.: У горадзе "бруд, смурод; вечарамі такая цемь, што і прайсьці трудна. Тратуары паламаныя. Паліцыя, праўда, пішэ часам пратаколы; але з гэтым бывае ўсяляк…"; фабрык у Горадні мала. Адна вялікая — тытунёвая І. Шэрашэўскага. Нядаўна ён звольніў 100 непатрэбных работнікаў, выплаціўшы ім 2 тыс. руб. Тыя за гэтыя грошы заснавалі ручную фабрыку тытуню. Тавар пайшоў добра. Шэрашэўскі нават знізіў цэны; Тутэйшы гандаль апроч некалькіх багацейшых і 2–3 гуртовых крамаў у руках жыдоў; Педагагічнае таварыства часта праводзіць публічныя лекцыі. Плата невялікая, а карысць вялізарная.

[181]Тамсама. № 48 ад 26 лістапада 1909 г.

[182]Тамсама. № 49 ад 3 снежня 1909 г.

[183]Тамсама. № 8 ад 18 лютага 1910 г.

[184]Тамсама. № 11 ад 11 сакавіка 1910 г.

Найбольш прыходзіць жыдоў, а наш брат "усё ззаду на хвасьце"; Да леташняга году горад быў падзелены Нёманам на дзве часткі. Багацейшыя трымаліся аднаго берагу, а бедакі, шукаючы таннае жыллё, перабіраліся на другі бераг. Летась збудавалі мост, і цэны выраўняліся: "І тут, і там дзяруць добра!" Пайшлі скаргі на домаўладальнікаў. Гарадская дума прызначыла камісію, каб спыніць рост цэнаў[185].

Травень 1910 г.: Гарадзенская санітарная камісія баіцца вяртання халеры. Шмат гамоняць з гэтай нагоды, "а тым часам на прыватных падворках такія бруды, што бадай і сама халера пасароміцца ўткнуць туды свой нос…"[186]; гарадзенскія каталіцкія прытулкі для сірот бядуюць, што нашы дактары апрача аднаго Д-скага ня хочуць дарма лячыць. Захварэў Д. і ніхто не згадзіўся памагчы бедным. Сорам!; непарадак у Гарадзенскай публічнай бібліятэцы: кнігі выдаюцца неакуратна, а многія згінулі; па горадзе цягаюцца кітайцы, якія выдаюць сябе за дактароў ад усіх хваробаў. Зайшлі да адной жанчыны, тая напалохалася (у жыцці не бачыла!), выбіла шыбу і пачала крычаць. Думала, што гэта чэрці прыйшлі па яе душу[187].

Чэрвень 1910 г.: "Гарадзенская санітарная камісія рыхтуецца бараніць горад ад халеры… Трэба было б каб перш-наперш санітарная камісія звярнула ўвагу на тые скрынкі, куды выліваюцца памыі і ўсялякія бруды; скрынкі гэтыя бываюць часта густа пад самымі вокнамі кватэр бедных жыцелёў"[188].

Праблема здароўя гарадзенцаў хвалявала не толькі П. Алексюка. Ужо згаданы *Nemo* ў артыкуле "Доктарская помач у Гродзенскай губ." адзначаў, што паводле забеспячэння меддапамогай горад знаходзіцца на 56 месцы ў Расійскай імперыі (з 89 губ.): "Хваробы пануюць тутака страшэнныя, дый то найбольш тыя, аб каторых за граніцай мала чутно і каторые родзіць недаеданьне, дрэнны харч, гразь, вільгаць, наагул некультурнасць

[185]Тамсама. № 15 ад 8 красавіка 1910 г.

[186]Тамсама. № 22 ад 10 траўня 1910 г.

[187]Тамсама. № 19 ад 6 траўня 1910 г.

[188]Тамсама. № 26 ад 24 чэрвеня 1910 г.

і беднасць”. Па “брушному тыфу” — у 1904-1905 гг. Горадня аказалася на трэцім месцы ў Расеі, па пнеўманіі — на чацвёртым (1904), па сыпному тыфу — на 5, па тэмпах змяншэння насельніцтва — на 7 месцы[189].

Актуальнай праблемай гарадзенскага жыцця было п’янства. Зрэшты, не толькі гарадзенскага. У студзені 1909 г. у невялікай заметцы *Nemo* “У гарадзенскіх дэпутатаў”, дзе аўтар распавядаў пра сваю сустрэчу з дэпутатамі Дзяржаўнай думы, ён працытаваў прызнанне аднаго з іх: “…Па вёсках у нас пайшло такое п’янства, што, здаецца, ніколі так не пілі. Проста здурэлі людзі з нуды і бяды…[190]” У крымінальнай хроніцы таксама неаднаразова фігуравала п’янства. У прыватнасці, у сакавіку 1910 г. п’яны салдат удзень у цэнтры горада смяротна параніў нажом палкоўніка Нікіціна. Вайсковы Акруговы суд прысудзіў салдата да смяротнага пакарання[191].

Кур’ёзна выглядае паведамленне пра ўвядзенне Гарадской управай новых правіл для лодачнікаў-перавозчыкаў. Правілам № 1 было патрабаванне цвярозасці[192].

Высокую ацэнку карэспандэнтаў “Нашай Нівы” атрымала праца гарадзенскіх пажарнікаў: “Коні добрыя, машыны таксама; людзі шчыра працуюць і вялікая карысць і помач з іх для нашага гораду”[193]. Летам 1910 г. пажарнікі звярнуліся ў Гарадскую ўправу з просьбай набыць паравую пажарную машыну. П. Алексюк, які паведаміў пра іх просьбу, дадаў: “Справа дужэ важная”[194].

Карэспандэнты “Нашай Нівы” таксама звярнулі ўвагу на дзейнасць Хаўрусу (Таварыства) рабочых Горадні, які ўзнік увесну 1910 г. Рабочыя сабралі пэўны капітал, “пааткрывалі пасьля

[189]Тамсама. № 52 ад 3 снежня 1910 г.

[190]Тамсама. № 1 ад 1 студзеня 1909 г.

[191]Тамсама. № 14 ад 1 красавіка 1910 г.

[192]Тамсама. № 22 ад 27 траўня 1910 г.

[193]Тамсама. № 15 ад 8 красавіка 1910 г.

[194]Тамсама. № 25 ад 17 чэрвеня 1910 г.

свае крамы, пекарні; маюць цяпер ужо свайго доктара, сваю аптэку, кнігарню і іншыя карысныя рэчы; даюць падмогу грашмі беднейшым таварышам і гэтакім парадкам шмат дабра і карысьці робяць для сваіх братоў-працоўнікоў"[195]. Летам 1910 г. Таварыства ўжо планавала адчыніць некалькі крамаў, але сустрэла супраціў жыдоў, якія пагражалі збіць цэны. Рабочыя вырашылі адказаць байкотам жыдоўскіх гуртовых крамаў[196].

Пасля ад'езду карэспандэнта П. Алексюка ў Пецярбург годнай замены яму не знайшлося, і штодзённае жыццё пэўны час амаль не асвятлялася "Нашай Нівай". Больш-менш прадуктыўнай аказалася толькі восень 1913 г. У гэты час, паводле дадзеных гарадзенскага адраснага стала, у горадзе пражывала 59 340 чалавек, з іх іудзеяў — 35 213, каталікоў — 13 626, праваслаўных — 9 444, пратэстантаў — 510, мусульман — 547[197].

Нашаніўскі карэспандэнт, які схаваўся пад псеўданімам *Сухаволец*, распавёў пра перамены гарадзенскага жыцця, у вялікай ступені абумоўленыя рашэннем цэнтральных уладаў праператварэнне горада ў буйны вайсковы цэнтр і пра будаўніцтва ў ім ваеннай крэпасці. Яго павінны былі закончыць увосень 1914 г. Гэтае рашэнне паспрыяла развіццю мясцовай прамысловасці і гандлю. *Сухаволец* пісаў пра тое, што ў горадзе паболела жыхароў, што вока радуюць "пекныя магазыны, сьвеціцца электрычэства, недахват толькі трамваёў". Аднак незадавальненне гарадзенцаў выклікала з'яўленне шматлікіх рабочых з Расіі ("кацапаў"). Яны працавалі на будаўніцтве крэпасці і жылі ў "Занёманскім фарштаце". Тут запанавала расейская гутарка і пэўныя расійскія звычаі. Так, у нядзелю і на святы вуліцы занёманскай часткі горада былі напоўненыя рабочымі, якія весяліліся, гулялі і прапівалі заробленае за тыдзень. Нормай жыцця сталі частыя сваркі і бойкі каля вінных лавак[198].

Рост ваеннага значэння Горадні абярнуўся з'яўленнем плану пераносу губернскага цэнтра ў павятовы горад. Хадзілі чуткі,

---

[195]Тамсама. № 16-17 ад 15 красавіка 1910 г.

[196]Тамсама. № 27 ад 1 ліпеня 1910 г.

[197]Тамсама. № 46 ад 14 лістапада 1913 г.

[198]Тамсама. № 38 ад 19 верэсьня 1913 г.

што праз год усе губернскія ўстановы будуць пераведзеныя або ў Беласток, або ў Слонім[199]. Магчыма, новы статус Горадні паўплываў таксама на частыя кадравыя перамены кіраўніцтва губерні. Паводле інфармацыі “Нашай Нівы”, напрыканцы лета 1913 г. у горад прыехаў новы губернатар Баярскі, які ў “адзін дзень” змяніў усю гарадзенскую паліцыю і ўсіх чыноўнікаў губернскай канцылярыі. Карэспандэнт газеты сцвярджаў, што чыноўнікаў і паліцыю вінавацілі ў занадта добрых адносінах з сялянствам губерні. Ён жа паведаміў, што адзін са звольненых чыноўнікаў пакончыў жыццё самагубствам і ў жанры чорнага гумару дадаў, што гэта “ядыная карысць гэтай губернатарскай рэформы, разумеецца, калі лічыць карысным, што людзі вешаюцца”[200]. А ў канцы восені газета паведаміла пра прыезд новага гарадзенскага губернатара М. Шыбекі[201].

Дарэчы, ваенная тэматыка пачынаючы з восені 1912 г. не зыходзіла са старонак газеты. Амаль у кожным (!) нумары газеты (да лета 1913 г.) прысутнічала рубрыка “Вайна”, дзе паведамлялася пра падзеі на Балканах, а таксама пра пазіцыю Расеі і іншых еўрапейскіх дзяржаў адносна гэтай вайны. Пагроза вялікай еўрапейскай вайны нібыта лётала ў паветры. Нумар “Нашай Нівы” ад 17 ліпеня 1914 г. выйшаў з рэдакцыйным артыкулам “Новая вайна”, які канчаўся словамі: “Трывога ў Эўропі расьце, — і мо блізка тая часіна, калі аграмадныя арміі ўсіх краёў, збіраныя гадамі, спаткаюцца на поле бітвы”[202]. Наступны нумар газеты ўжо паведамляў пра пачатак гэтай вайны. Антон Луцкевіч аналізаваў сілы ваюючых паміж сабой груповак і выказваў надзею, што “чым-бы вайна ні скончылася, колькі б людзей не ўзяла яна на ахвяру, народы астануцца, пэражывуць яе, залечаць свае раны, і начнецца ізноў кіпучае жыцьцё, кіпучая праца. Дык кожын з нас, хаця-бы доля прыгатавала яму ліхі канец, павінен ведаць, што і пасьля яго будзе жыць яго народ, што парастуць новыя пакаленьні, да каторых належыць будучына”[203].

[199] Тамсама. № 42 ад 17 кастрычніка 1913 г.

[200] Тамсама. № 32 ад 1913 г.

[201] Тамсама. № 48 ад 28 лістапада 1913 г.

[202] Тамсама. № 28 ад 17 ліпня 1914 г.

[203] Тамсама. № 29 ад 25 ліпня 1914 г.

“Наша Ніва” ваенных часоў — гэта газета, напоўненая інфармацыяй пра ход ваенных дзеянняў, пра трагедыю беларускай зямлі і яе насельніцтва. Пачынаючы з кастрычніка 1914 г. газета часта выходзіла з белымі плямамі замест матэрыялаў, якія не прапусціла вайсковая цэнзура.

Інфармацыя пра Горадню пачала з’яўляцца па меры набліжэння да яе фронту. У снежні 1914 г. “Наша Ніва” паведамляла пра асуджэнне ваенным камендантам генералам Міхаілам Кайгародавым на тры месяцы турмы мясцовых гандляроў алкагольнымі напоямі, якія парушылі “сухі закон”[204], пра ягоны ж загад, што абавязваў габрэяў гандляваць “у звычайным парадку” таксама ў пятніцу і суботу[205]. Адначасна генерал забараніў жыхарам горада выходзіць на вуліцы пасля 21 гадзіны. Парушальнікам пагражала зняволенне на 3 месяцы або штраф у 3 тыс. руб.

У студзені 1915 г. газета інфармавала чытачоў пра вяртанне ў Горадню “присутственных мест” губернскай канцылярыі, якія аднаўляюць сваю працу[206]. Яшчэ ў жніўні 1914 г. гарадзенскія ўстановы былі пераведзеныя ў Слонім. Цікава, што гэтае вяртанне адбылося напярэдадні першай спробы нямецкага камандавання захапіць горад. Якраз у лютым 1915 г. на поўнач ад Горадні ў раёне населеных пунктаў Сапоцкін, Рацічы, Селіванаўцы, Каўбаскі, Пласкаўцы ішлі вельмі жорсткія баі. Але нямецкі наступ быў спынены.

Улетку 1915 г. сітуацыя ў Горадні рэзка пагоршылася. Як паведамляла “Наша Ніва”, 15 чэрвеня камендант загадаў рыхтавацца да эвакуацыі. Прычым усім “небагатым сем’ям” давалася права дармовага праезду[207]. Гэта была апошняя навіна з жыцця Горадні, апублікаваная “Нашай Нівай”. Пры набліжэнні нямецкіх войскаў да Вільні ў жніўні 1915 г. газета перастала выходзіць…

[204]Тамсама. № 50 ад 18 сьнежня 1914 г.

[205]Тамсама. № 7 ад 21 лютаго 1915 г.

[206]Тамсама. № 4 ад 31 студня 1914 г.

[207]Тамсама. № 25 ад 5 чэрвеня 1915 г.

Вяртаючыся да праблемы вобраза Горадні на старонках "Нашай Нівы", трэба адзначыць, што яшчэ да вайны ўвосень 1913 г. у публікацыях газеты ўпершыню быў ужыты беларускі варыянт назвы горада — **Горадна**. Ён быў выкарыстаны ў тэксце ўжо згаданага *Сухавольца*, а таксама ў інфармацыі рубрыкі "З Беларусі і Літвы" наступнага нумару[208]. Потым гэтая назва знікла. Улетку 1915 г. на старонках газеты з'яўіўся іншы беларускі варыянт назвы — **Горадня**. Вацлаў Ластоўскі (крыптонім *Ю. В.*) менавіта гарадзенскім нарысам распачаў серыю артыкулаў "Нашы гарады" (гл. Дадатак).

Першы вядомы нам беларускамоўны агляд гісторыі Горадні збольшага быў заснаваны на публікацыях Я. Арлоўскага. Аднак у адрозненне ад вядомага даследчыка гарадзенскай мінуўшчыны, які падзяляў дактрыну заходнерусізму, Вацлаў Ластоўскі трактаваў Горадню як "спрадвечнае паселішчэ беларускае"[209]. Якраз гэтым сцвярджэннем ён і распачаў гістарычны нарыс. Ягонымі галоўнымі сюжэтамі стала хрысціянізацыя Горадні, барацьба з крыжакамі і татарамі, падпарадкаванне Літве, войны з Масквой і шведамі, палітычны росквіт Горадні ў другой палове XVIII ст., рэформы Антонія Тызенгаўза, падзел Рэчы Паспалітай і расійскае панаванне ў горадзе. Характарызуючы Горадню пачатку XX ст., аўтар зазначыў, што пераважная большасць гарадзенскіх палякаў і расейцаў — гэта нашчадкі колішніх беларусаў. І дадаў, што яны "як зазвычай усякія перакіньчыкі, у восем разоў большые ворагі беларускаго адраджэньня за самых найпраўдзіўшых палякоў і расейцоў". Тым не менш, паводле В. Ластоўскага, "сам жэ фундамэнт Горадні і аколіцы яго заселены беларусамі, як і тысячу гадоў таму назад". Цікава, што гарадзенскі нарыс быў першым у серыі артыкулаў, якія рыхтаваў В. Ластоўскі. Наступны матэрыял быў прысвечаны Вільні, але ваенныя падзеі і закрыццё газеты не дазволілі апублікаваць яго цалкам[210].

---

[208]Тамсама. № 38 ад 19 верэсьня 1913 г.; № 39 ад 26 верэсьня 1913.

[209]Тамсама. № 19-20 ад 22 мая 1915 г.

[210]Тамсама. № 24 ад 19 чэрвеня 1915 г.; № 27 ад 9 ліпня 1915 г.; № 31 ад 7 жніўня 1915 г.

Хіба не будзе перабольшаннем сцвярджаць, што “Наша Ніва” пачала пэўную нацыянальную прыватызацыю Горадні. Амаль усе падзеі культурнага жыцця горада, якія асвятляліся на старонках газеты, былі звязаныя толькі з беларускім Адраджэннем. Карэспандэнты і чытачы газеты неаднаразова крытыкавалі гарадзенцаў за нацыянальную пасіўнасць, але нават гэта не парушала агульнай карціны беларускай Горадні, бо крытыка адбывалася ў межах “нашаніўскай парадыгмы”. “Свае” крытыкавалі “сваіх”, а “чужыя” папросту выдаляліся з вобраза беларускай Горадні. Рэдакцыя неаднаразова ўжывала выраз “наш горад”, а В. Ластоўскі ўпершыню паспрабаваў з дапамогай гістарычных аргументаў даказаць спрадвечную беларускасць Горадні.

Адначасна чытанне “Нашай Нівы” стогадовай даўніны выклікае сумныя думкі пра тое, што многія тагачасныя праблемы захавалі сваю актуальнасць. Гэта і раз’яднанасць гарадзенцаў, якая і сёння абарочваецца абыякавасцю і пасіўнасцю ў грамадскім жыцці, гэта п’янства, якое выразна памаладзела і пашырылася на жаночы пол, гэта зняважлівае стаўленне большасці мясцовага чыноўніцтва і часткі гарадзенскай г. зв. “интеллигенции”, гэтакіх сучасных “перакіньчыкаў”, да беларускай мовы і культуры. Некаторыя аналітычныя артыкулы 1906 — 1915 гг., прысвечаныя нацыянальна-культурным аспектам беларускага руху, успрымаюцца як напісаныя сучаснымі аўтарамі...

Дадатак

**Ю. В. [В. Ластоўскі]. Го́радня**
(Наша Ніва. № 19-20 ад 22 мая 1915 г.)

У гэту вайну чытачы часта сустракаюць найменьне гэтага беларускага гораду (ці, як даўней казалі беларусы: “места”), праўда, не ў беларускай вымове, а так, як звыклі яго пісаць расейцы і палякі, гэта зн. пад найменьнем: “Гродна (о)”.

Го́радня — спрадвечнае паселішчэ беларускае, людзі тут жылі ў часы далёка сягаючыя за памяць гісторыі; перажывалі яны каменны і бронзавы век. Сперша будавалі тут надворныя селішчы, а пасьля на прыткім і высокім беразі Нёмана абаснавалі “горадню”, г. зн. мейсцо, абведзенае абгародай і, так ці йначы, умацаванае дзеля абароны ад ворагаў. С часам першачарговая “горадня” ператварылася ў абаронны замак, а каля замку пабудавалася “место” з торжышчамі, targовымі людзьмі і “славэтным” мяшчанствам. С тых часоў многа вады ўцякло з сівога Нёмана ў мора і з маўклівай Гараднічанкі ў Нёман. Плыла вада, і жыцьцё памалу, але безупынна зьмянялося… Адно ўступала мейсцо другому.

Калісь на гарбох Горадні маліліся і пакладалі ахвяры Пяруну, богу грознаму, і Калядзе-Грамавіцы, пасылаючай уроду на зямлю, Ярыле, богу вясны, і Стрыбогу — ветрыку; пасьля закрасавалі на гэтых жа гарбочках у замку і каля замку сьвятыні хрысціянскія з залочэнымі крыжамі, з завітушкамі на паліваных кахлях, прывожэных з далёкага Цар-Гораду. Духоўнікі з суровымі тварамі ў злататканых шатах на гэтым самым мейсцы апевалі славу Велікага Богу і Сына Яго Ядынароднага, і Маці Яго Прачыстай і славу сьвятых у раі сьветлым… А народу русаваласаму з лагоднымі вачамі апаведалі салодкае слова заветаў Таго, каторага распялі на крыжы за праўду, за словы любові: “Мілуйця бліжніх нашых”. Як-жэ мілаваць ворагаў? Як-жэ мілаваць тых, каторыя прыходзяць, каб забіваць і валадзець намі? Пыталіся свежанаверненыя старцы народу ў духоўнікаў.

І… прыходзіў час, запіраліся вярэі замкавыя, а духоўнікі ў злататканых шатах іменем Распятага благаслаўлялі і пасьвячалі сьвячонай вадой тапары і дзіды, стрэлы і лукі…

А пасьля: “…малацілі чэрапы гартаванымі мечамі, на ток жываты клалі, веялі душу ад цела”.

У летапісах Горадня першы раз упамінаецца году Божага нараджэння 1167; гаворыцца там аб гэтай мясьціне, як аб сялібе ўдзельнага князя Усевалода Расціслававага сына, які ў свой ча-

род меў двох вядомых нам сыноў: Барыса і Глеба. Мабыць гэтыя сыны Ўсеваладавы пабудавалі адну са старэйшых сьвятынь у Беларусі, як цяпер завуць — Каложскую цэркву, вельмі цікавы помнік старой старасьветчыны.

Слова “каложа” не тутэйшае, прыйшло яно ў Горадню за часоў слаўнага Беларуска-Літоўскага князя Вітоўта, пасьля таго, як ён напаўшы на Пскоў, зваяваў яго і 11 тысяч жыхароў пскоўскіх найболей са слабады “Каложы”, перасяліў у Горадню.

Пасьля, гаворуць летапісцы аб Горадні ў 1224 г.: гараднічане заваліся з крыжакамі і тыя, напаўшы на Горадню, спапялілі і замак і места, а над народам наздзекаваліся. Але кажуць: “адна бяда — не бяда” і гараднічанам ня доўга трэ’ было ждаць другой бяды, бо ўдо ў 1241 г. на Горадню напалі татары. Ваевода татарскі Кайдан з вялікай моцай мангольскай агнём і мячом апустошыў зямлю…

Пасьля татараў прыйшла Літва і… запанавала над усёй старонкай. Як з вышэй выведзенага судзіць можна, дагэтуль гараднічане былі самі сабе гаспадарамі, а цяпер пачала гаспадарыць Літва.

Літоўскі князь Эрдзівіл на пажарышчы даўнага замку пабудаваў новы, сабраў жменю людзей і пачаў бараніцца ад крыжакоў і палякаў, кіеўскіх і галіцкіх князёў.

У 1259 — галіцкія князі напалі на гараднічан.

У 1282 — князь польскі Лешак Чорны пустошыў ваколіцы Горадні.

У 1284 — крыжакі пад верхаводзтвам Конрада фон Тырберга зруйнавалі места і замак.

У 1288-1889 — голад вялікі быў у гараднічанскай зямлі, і “маткі дзяцей сваіх елі”, сьведчыць летапісец.

У 1391 — вялікі магістар крыжацкі Мальборг дабыў Горадню.

Адным словам, аб гараднічанах можна сказаць за пяўцом аб палку Ігора, што “пад шэломамі гадаваліся, канцом дзіды ўскармліваліся” і лілі кроў, баронячы зямлі роднай.

Пасьля Літва-гасударство з’едналося з Польшчай. Кажуць, што тады гараднічане пачалі “лечыць раны”. Можэ і лячылі, ды ня доўга. У 1655 г. на Горадню наступіла вялікая моц маскоўскага князя і заваладзела і местам і замкам. Маскоўцаў змянілі Швэды, каторыя гаспадарылі чатыры гады. Швэдоў прагналі за морэ, але не шмат неяк лягчэй, мабыць жылося, бо с тых часоў, мабыць пайшла показка ў народзе, што тады настане доля, калі швэд у трэцьця прыйдзе па дзедаву шапку. Дзе і калі швэдоў дзед згубіў сваю шапку так такі я і не дапытаўся.

А тымчасам еднасць з Польшчай рабіла сваё: нашэ баярство ператваралося ў шляхту і… свой чужынцам лічыўся ў сваёй старонцы.

У палавіне XVII ст. Горадня сталася сэймовым горадам. Аўгуст III пабудаваў сэймовы будынак у Горадні. У гэтым гмаху быў сэнатарскі палац, краёвыя рады і каралеўскія канцэлярыі. У 1775 гаду ў Горадню быў пераведзены галоўны суд, так званы Трыбунал і грашавая камісія, ці бач нешта кшталтам міністэрства фінансоў. У гэтым часе падскарбі Вялікага Княз. Літоўскага Тызэнгаўз залажыў у Горадні ткацкія і другія фабрыкі, усяго каля 15, а такжэ ветэрынарную школу, мэдыцынскую, акушэрскую, хірургічную, а пры школах багатую бібліотэку і ешчэ багацейшы батанічны сад. Тызэнгаўз хацеў адкрыць у Горадні акадэмію навук і было да гэтаго ўсё ўжо прыгатавана, але не збылося дзеля пастаронных прычын.

А тым часам прыйшоў час раздзелу Польшчы і Горадня досталася Расеі ў 1793 гаду, актам зацверджэным у Горадні на сэйме.

Цяпер Горадня — гэта места губернскае, а пры тым як надпагранічнае — умацаванае крэпасьцю і мае значэньне ў разы-

грываючайся на нашых вачах вайне. Горадня ляжыць на правым березі Нёмана і па абодвых берагох Городнічанкі. Усяго жыхароў у Го́радні 41 896; праз Горадню праходзіць чыгунку Петроградзко-Варшаўская. Жыхары па націіі дзеляцца на беларусоў, расейцоў, палякоў і жыдоў. Добрыя 8/10 цяперашніх горадзенскіх палякоў і расейцоў — гэта апалячэныя і абрасеіўшыяся беларусы, каторыя, як зазвычай усякія перакінчыкі, у восем разоў большыя ворагі беларускага адраджэньня за самых найпраўдзіўшых палякоў і расейцоў. На блізка палавіну жыхароў Го́радні складаюцца жыды, каторые ад сьвята дома і дзеля фанабэрыі ў людзях гавораць па-расейску і прыдаюць Го́радні расейскі колер. Сам жэ фундамэнт Го́радні і аколіцы яго заселены беларусамі, як і тысячу гадоў таму назад.

Ю. В.

2010

# Краёвец Антон Луцкевіч

Антон Луцкевіч (1884-1942) — вядомая постаць беларускага Адраджэння, пра жыццё і дзейнасць якога напісана шмат. Тым не менш знаходкі новых дакументаў дазваляюць паглядзець на яго як на асобу, дзейнасць якой не заўсёды ўпісваецца ў межы "нашаніўскай парадыгмы". У артыкуле гаворка пойдзе пра стаўленне беларускага палітыка да краёвай ідэалогіі.

Краёвая ідэалогія грунтавалася на ідэі палітычнай нацыі. Краёўцы даводзілі, што ўсе карэнныя жыхары Беларусі і Літвы, якія лічаць сваёй радзімай гістарычную Літву і ўсведамляюць сябе грамадзянамі Краю, належаць да адзінай нацыі "літвінаў". Этнічнае паходжанне і культурная прыналежнасць адыгрывала другарадную ролю. Прыхільнікі краёвай ідэі імкнуліся захаваць тэрытарыяльнае адзінства Краю, змагаліся супраць праяваў радыкальнага нацыяналізму. Ідэя гэтая несла на сабе адбітак колішняй шляхецкай "нацыі" часоў Рэчы Паспалітай абодвух народаў, і найбольш выразна тое адчувалася ў поглядах кансерватыўнай плыні краёўцаў, да якіх, у прыватнасці, належалі Канстанцыя і Раман Скірмунты, Баляслаў Ялавецкі ды інш.

Міхал Ромэр (1880-1945), у сваю чаргу, быў адным з галоўных ідэолагаў дэмакратычнай плыні краёвасці. І разам з віленскім калегамі (Аляксандр Заштаўт, Зыгмунт Нагродскі, Людвік Абрамовіч ды інш.) актыўна супрацоўнічаў з дзеячамі беларускага руху. Усе яны былі перакананыя, што толькі дэмакратычнае

развіццё можа гарантаваць стварэнне адзінай краёвай нацыі. Яны віталі Адраджэнне беларусаў і літоўцаў і імкнуліся да паразумення дэмакратычных элементаў розных нацыянальных рухаў.

Адной з асноўных крыніц нашага даследавання з’яўляецца дзённік Міхала Ромэра, асабліва першыя 6 тамоў, якія ахопліваюць 1911–1915 гг.[211] Іншыя важныя крыніцы — публікацыі двух віленскіх выданняў дэмакратычнага накірунку, рускамоўнай “Вечерней газеты” і польскамоўнага “Кур’ера краёвага”. Вывучэнне запісаў дзённіка М. Ромэра ў спалучэнні з іншымі матэрыяламі дае падставы сцвярджаць, што Антон Луцкевіч з’яўляўся фактычным кіраўніком і адным з галоўных аўтараў “Вечерней газеты”[212]. І менавіта ён вызначаў краёвы і дэмакратычны накірунак “Кур’ера краёвага”[213].

Антон Луцкевіч упершыню згадваецца ў дзённіку 10(23).05.1911 г.[214] Ромэр апісвае польска-беларускі сход, на якім было прынятае рашэнне пра арганізацыю сумеснага краёвага выдання ў форме “jednodniówki”, г. зн. аднаразовага выдання. З беларускага боку ў сходзе ўдзельнічалі браты Луцкевічы. Пазней ідэя сумеснага выдання набыла форму штотыднёвіка, да ўдзелу ў якім планавалася прыцягнуць і літоўцаў.

Варта адзначыць, што супрацоўніцтва польскіх, беларускіх і літоўскіх дэмакратаў пачалося яшчэ ў часы рэвалюцыі 1905-1907 гг. Можна згадаць публікацыю артыкула А. Луцкевіча “Аграрная

---

[211]Яны захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы ў фондзе Міхала Ромэра (далей — БАНЛ. F 138).

[212]Вечерняя газета — штодзённая газета, якая выходзіла з 18.09.(1.10).1912 г. да 11(24).06.1915 г. Афіцыйны рэдактар-выдаўца — Ф.М. Хатэнка.

[213]Кур’ер краёвы — штодзённая газета, якая выходзіла з 30.11.(12.12).1912 г. да 18.04.(1.05).1914 г. Афіцыйны рэдактар-выдаўца — Юліуш Сумарок. (У 2012 г. стала магчымым вывучэнне матэрыялаў рэдакцыі “Вечерней газеты”, знойдзеных у былым спецхране Літоўскага Цэнтральнага Дзяржаўнага архіва. Гэтыя матэрыялы пацвярджаюць, што менавіта А. Луцкевіч быў рэальным рэдактарам газеты — заўвага аўтара.)

[214]БАНЛ. F 138-2228, t. 1, s. 130.

праграма" ў № 46 ад 13(26).04.1906 г. "Газеты Віленьскай"[215]. Артыкул знаёміў чытачоў польскага дэмакратычнага выдання краёвай арыентацыі з аграрнай праграмай БСГ. З таго часу супрацоўніцтва не перапынялася.

Арганізацыю штотыднёвіка ўзяла ў свае рукі польская віленская суполка краёўцаў-дэмакратаў, у якую ўваходзілі Міхал Ромэр, Аляксандр Заштаўт, Браніслаў Крыжаноўскі, Зыгмунт Нагродскі ды інш. Ромэр бачыў кіраўніком сумеснага выдання Яна Яленьскага[216], які ў гэты час працаваў у рэдакцыі "Нашай Нівы". Але большасць выказалася за кандыдатуру Людвіка Абрамовіча. Пры гэтым беларусы і літоўцы, фактычна, былі адхіленыя ад арганізацыі выдання. 12 (25).11.1911 г. выйшаў першы нумар "Пшэглёнда Віленьскага"[217].

Прызначэнне Л. Абрамовіча, фактычна, перакрэсліла ідэю стварэння міжэтнічнага дэмакратычнага краёвага выдання. Абрамовіч зрабіў "Пшэглёнд Віленьскі" дэмакратычным і краёвым органам, аднак толькі польскай грамадскасці. Між тым неабходнасць барацьбы з шавінізмам, пашырэння краёвай ідэалогіі ды распаўсюду праўдзівай інфармацыі пра імкненні дэмакратычных плыняў беларускага, літоўскага і польскага рухаў станавілася ўсё больш актуальнай.

На пачатку лістапада 1911 г. на сустрэчы з удзелам І. Краскоўскага, А. Луцкевіча, Б. Крыжаноўскага, З. Нагродскага і М. Ромэра была выказана думка пра выданне ў Вільні рускамоўнага дэ-

[215]Газета Віленьска — штодзённая польская газета дэмакратычнага і краёвага накірунку. Выходзіла з 15(28). 02 да 25.07. (8.08).1906 г. Рэдактар-выдаўца — М.Ромэр.

[216]Сапраўднае імя — Вітаўт Чыж. Крытык і публіцыст. У 1910-1911 гг. працаваў у рэдакцыі "Нашай Нівы" (БАНЛ. F 138 - 2229, t. 2, s. 3. Запіс ад 19(08) (1.09).1911 г.) Аўтар рэцэнзій, апавяданняў, артыкулаў па пытаннях беларускага музычнага жыцця, этнаграфічных даследаванняў. З 1911 г. друкаваўся ў польскіх выданнях. У 20-я гг. — чыноўнік віленскай польскай адміністрацыі. У 1928 г. — віцэ-прэзідэнт Вільні.

[217]Пшэглёнд Віленьскі — штотыднёвік, які выходзіў з 15(28).02.1911 да 29.08 (11.09).1915 г. Кіраўнік газеты Людвіг Абрамовіч. Рэдактар-выдаўца — Вітольд Абрамовіч.

макратычнага штотыднёвіка[218]. Мэтай выдання павінна была стаць прапаганда краёвай ідэалогіі ў яе ліберальна-дэмакратычным варыянце. Аднак непасрэдных вынікаў гэтая сустрэча не мела. Толькі ўвосень 1912 г., напярэдадні выбараў у Дзяржаўную Думу, ідэя пачала набываць канкрэтныя формы. На гэты раз ініцыятыву ўзяў у свае рукі Антон Луцкевіч.

18.09(1.10).1912 г. выйшаў першы нумар штодзённай "Вечерней газеты". Падпісаў яго да друку ў якасці рэдактара Ф. М. Хатэнка. Але, як ужо адзначалася, сапраўдным кіраўніком газеты і аўтарам большасці "перадавых" артыкулаў быў А. Луцкевіч. Пра гэта сведчаць не толькі шматлікія запісы ў дзённіку М. Ромэра. Сапраўднага кіраўніка газеты заўважыў і Дэпартамент паліцыі[219].

"Вечерняя газета" як выданне "рускіх дэмакратаў" адразу прыцягнула ўвагу віленскай грамадскасці. Гэтаму спрыяў высокі ўзровень публіцыстыкі ліберальна-дэмакратычнага накірунку. Аднак амаль усе публікацыі друкаваліся без подпісаў. Толькі праз два месяцы пасля выхаду першага нумара пад некаторымі матэрыяламі пачалі з'яўляцца псеўданімы. Сярод іх можна заўважыць псеўданімы і крыптанімы, якія належалі А. Луцкевічу — *А. Иванов, А. Н., Г. Б.*[220]. Апошні быў звязаны з псеўданімам *Генрык Букавецкі*, пра які гаворка наперадзе. Але хто "хаваўся" пад псеўданімамі і крыптанімамі (*Бо-вичъ, Б-ов, С.У., Кий*[221] ды інш.), пакуль не выяўлена.

Прапаганда ліберальна-дэмакратычнай ідэалогіі, якую разгарнула "Вечерняя газета", адыграла сваю ролю падчас абрання ўдзельнікаў віленскага губернскага выбарчага сходу па "рускай курыі". Газета паўплывала на выніку выбараў і знайшла

[218]БАНЛ. F 138 - 2229, t. 2, s. 82. Запіс ад 6 (19). 11. 1911 г.

[219]Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі. Ф. 102, асобны аддзел, 1913, воп. 243, ад.з. 157, арк. 1.

[220]Сідарэвіч А. Антон Іванавіч Луцкевіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск, 1997, с. 402-403.

[221]У. Конан лічыць, што гэты псеўданім мог належаць М. Бабровічу. Гл. ЭГБ. Т. 2, Мінск, 1994, с. 9.

свайго чытача. Антон Луцкевіч вырашыў працягваць выданне. Магчыма, ужо ў гэты час у яго ўзнік план цэнтралізацыі віленскага дэмакратычнага друку, пра які пазней прыгадаў у дзённіку М. Ромэр[222]. Важнай часткай гэтага плана было выданне штодзённай польскамоўнай газеты. Гэты праект А. Луцкевіч збіраўся рэалізаваць у цесным кантакце з польскімі дэмакратамі.

У сярэдзіне кастрычніка 1912 г. Антон Луцкевіч звярнуўся да польскай дэмакратычнай суполкі з прапановай арганізаваць сумеснае выданне. Тым больш, што і палякі шукалі сродкі для выдання штодзённай дэмакратычнай газеты. На пачатку перамоваў беларусы прапанавалі двайное рэдактарства і нават пагаджаліся на тое, што беларускі рэдактар будзе мець толькі права дарадчага голасу. А. Луцкевіч, магчыма, палічыў для сябе больш важнай працу ў “Вечерней газете”. Кампанію Л. Абрамовічу павінен быў скласці Язэп Манькоўскі[223]. Апроч гэтага прапаноўвалася стварыць альбо дзве рэдакцыйныя рады, альбо адну супольную. Аднак да супрацоўніцтва не дайшло. Польскіх калегаў на самай справе цікавілі толькі тыя сродкі, якія сабралі беларусы[224].

М. Ромэр параіў А. Луцкевічу самастойна распачаць выданне польскамоўнай газеты[225]. Ён разлічваў, што пасля выхаду першых нумароў палякі ўсё ж такі далучацца да беларускай ініцыятывы. А. Луцкевіч так і зрабіў. Беларусы выкарысталі ліцэнзію на выданне “Кур’ера краёвага”, выдадзеную ўладамі Юліушу Сумароку.

---

[222]БАНЛ. F 138 - 2229, t. 2, s. 450. Запіс ад 8(21).11.1912 г.

[223]Я. Манькоўскі — публіцыст і перакладчык. З 1909 г. супрацоўнічаў з “Нашай Нівай”. Друкаваўся пад крыптанімамі (Я. О., Я. М-скі, Я. М., і-м-і) або псеўданімамі (Кірмашова П-ч, Окліч Янка). З 1912 г. — у “Кур’еры краёвым”. Адзін з заснавальнікаў кнігавыдавецкага таварыства “Наша хата”. З канца 1917 г. жыў у Варшаве. М. Ромэр характарызаваў яго ў сваім Дзённіку як паляка, які актыўна працаваў у беларускім руху і часам “дзейнічаў як беларускі нацыяналіст” (БАНЛ. F 138 - 2229, t. 2, s. 178. Запіс ад 10 (23). 02. 1912 г.).

[224]БАНЛ. F 138 - 2229, t. 2, s. 435. Запіс ад 24.10 (6.11).1912 г.

[225]Тамсама. S. 445. Запіс ад 3 (16).11.1912 г.

8(21).12.1912 г. выйшаў першы нумар "Кур'ера краёвага" як штодзённага выдання "польскіх дэмакратаў". Прозвішчы беларускіх дзеячаў нідзе не згадваліся. Першы нумар рыхтаваў да друку Я. Манькоўскі, але праграмны артыкул напісаў Антон Луцкевіч[226]. Выйсце газеты актывізавала польска-беларускія перамовы, але паразуменне так і не было дасягнута. Польская групоўка імкнулася атрымаць газету ва ўласнае карыстанне[227].

М. Ромэр досыць высока ацэньваў узровень публіцыстыкі першых нумароў "Кур'ера краёвага". Галоўнай прычынай поспеху новай "польскай" газеты ён лічыў ідэйнае кіраўніцтва з боку Антона Луцкевіча і непасрэдны ўдзел беларускага дзеяча ў падрыхтоўцы гэтых нумароў да выдання.

У сваіх ацэнках "Кур'ера" Ромэр неаднаразова звяртаў увагу на ролю Антона Луцкевіча: "Адным з галоўных, хоць звонку непрыкметных супрацоўнікаў газеты з'яўляецца Антон Луцкевіч, адзін са стаўпоў "Нашай Нівы". Гэта, магчыма, самы дзелавіты работнік і самая здольная галава беларускага народнага руху. Адначасова ён рэдагуе "Вечернюю газету". Антон Луцкевіч трымаецца трохі ў ценю, не становіцца на чале "Кур'ера краёвага", але, фактычна, выконвае партыю першай скрыпкі. Ён аказвае рашаючы ўплыў на кірунак і арганізацыю газеты"[228].

На пачатку сакавіка 1913 г. М. Ромэр прыняў запрашэнне ўвайсці ў склад рэдакцыі "Кур'ера". Разам з ім увайшоў і А. Заштаўт. Яны павінны былі ўзмацніць творчыя магчымасці рэдакцыі і кампенсаваць занятасць А. Луцкевіча. Апошні не быў у стане рэгулярна дапамагаць Я. Манькоўскаму. Да таго ж, беларускі палітык быў зацікаўлены ў тым, каб "Кур'ер краёвы", захоўваючы вызначаны кірунак, станавіўся па складу сваёй рэдакцыі больш польскім.

Фактычнае кіраўніцтва "Кур'ерам" з боку А. Луцкевіча ў першыя месяцы існавання гэтай газеты не было таямніцай для дзеячаў

[226]Тамсама. S. 450. Запіс ад 8 (21).11.1912 г.

[227]Тамсама. S. 464. Запіс ад 22.11(5.12).1912 г.

[228]Тамсама. F 138 - 2231, t. 3, s. 61. Запіс ад 27.02 (12.03).1913 г.

дэмакратычнай плыні польскага руху. “Пшэглёнд Віленьскі” ў палеміцы з “Кур’ерам” неаднаразова выказваў сумненні ў сапраўднай польскасці газеты і дазваляў сабе празрыстыя намёкі на “пабочныя ўплывы” ў яе рэдакцыі.

Ромэр актыўна ўключыўся ў працу. Аўтарытэт гэтага вядомага грамадскага і палітычнага дзеяча значна павысіў цікавасць да газеты з боку польскай грамадскасці. Ягоныя артыкулы выходзілі пад лёгка пазнаваемымі крыптанімамі: *m.r.*, *m.* Іншым разам ён падпісваўся сапраўдным прозвішчам. А вось А. Луцкевіч па-ранейшаму захоўваў у таямніцы свой удзел у газеце. Імя вядомага беларускага дзеяча або тыя крыптанімы, пад якімі ён выступаў раней на старонках іншых выданняў, у “Кур’еры” не сустракаліся. Спалучэнне дзённікавых запісаў з публікацыямі газеты дазволіла вызначыць два псеўданімы А. Луцкевіча: *Веслаў Каліноўскі* і *К-вец*. Польскі гісторык Ян Юркевіч вызначыў яшчэ адзін — *Генрык Букавецкі*[229].

Улетку і ўвосень 1913 г. выдавецкія справы “Кур’ера краёвага” складваліся не лепшым чынам. У сувязі з занятасцю А. Луцкевіча і ад’ездам з Вільні М. Ромэра ўзровень публікацый панізіўся, абвастрыліся фінансавыя праблемы. Я. Манькоўскі, які застаўся без падтрымкі, не здолеў захаваць на былым узроўні краёвы і дэмакратычны накірунак газеты. У лістападзе 1913 г. беларусы ініцыіравалі беларуска-польска-літоўскі сход для абмеркавання далейшага лёсу выдання.

У сходзе з беларускага боку ўдзельнічалі браты Луцкевічы, В. Іваноўскі і А. Уласаў, з літоўскага — Ёнас Вілейшыс і Міколас Сляжэвічус (ад сацыял-дэмакратаў), Міколас Біржышка і Сцяпонас Кайрыс (ад нацыянал-дэмакратаў), з польскага — М. Ромэр, А. Заштаўт, Уладзіслаў Асмалоўскі, Ю. Сумарок. Да польскіх удзельнікаў М. Ромэр у дзённіку аднёс і Я. Манькоўскага (?). Апошні таксама прысутнічаў на сходзе, хаця А. Луцкевіч і М. Ромэр прынялі рашэнне пра адхіленне яго ад рэдакцыйнай працы.

---

[229]Jurkiewicz J. Demokraci wileńscy w latach 1905-1914. Zarys działalności i myśli politycznej // Acta Baltico-Slavica, XV, 1983, s. 17.

Пасля працяглай дыскусіі ўдзельнікі сходу прызналі неабходным падтрымаць “Кур’ер краёвы” як “орган польскай дэмакратыі”. Не апошнюю ролю ў выпрацоўцы менавіта такой фармулёўкі адыгралі браты Луцкевічы. У спрэчцы М. Ромэра з літоўцамі і В. Іваноўскім, якія даказвалі, што “Кур’ер” павінен стаць органам агульнакраёвай дэмакратыі, Луцкевічы падтрымалі польскі бок. Яны прызналі неабходнасць развіцця польскай дэмакратыі як часткі краёвага дэмакратычнага руху[230].

Яшчэ адным вынікам сходу было ўтварэнне Арганізацыйнага і Рэдакцыйнага камітэтаў. У першым з іх палякаў прадстаўлялі Ю. Сумарок, Букоўскі і М. Ромэр, літоўцаў — Ё. Вілейшыс, Ю. Шаўлюс і С. Кайрыс, беларусаў — браты Луцкевічы і В. Іваноўскі. У Рэдакцыйны камітэт увайшлі А. Луцкевіч, М. Ромэр і Ю. Шаўлюс[231]. Антон Луцкевіч абавязаўся рыхтаваць для газеты два перадавыя артыкулы ў тыдзень. Аднак канчаткова пераадолець творчы і фінансавы крызіс газета ўжо не здолела.

Так выглядала знешняя канва падзей, звязаных з польскамоўнай і рускамоўнай выдавецкай дзейнасцю А. Луцкевіча ў 1912–1915 гг. Напрыканцы 1912 г. пад кантролем віленскага беларускага кола знаходзіліся чатыры выданні: два беларускія — “Наша Ніва” і “Саха”, адно польскамоўнае — “Кур’ер краёвы” і адно рускамоўнае — “Вечерняя газета”.

Навошта Антону Луцкевічу спатрэбіўся ўвесь гэты “польска-рускі маскарад”? Чым было выклікана ягонае імкненне да прапаганды краёвай ідэі і цэнтралізацыі віленскага дэмакратычнага друку ў беларускіх руках? Як выданне “Вечерней газеты” і “Кур’ера краёвага” паўплывала на грамадска-палітычную і міжэтнічную сітуацыю ў Краі? Як гэтая выдавецкая дзейнасць адбілася на развіцці беларускага руху?

Адказаць на гэтыя пытанні дапаможа аналіз публікацый “Вечерней газеты” і “Кур’ера краёвага”. Звернем увагу і на матэрыялы “Нашай Нівы”. Аднак наша цікавасць да яе будзе абмежавана пераважна артыкуламі А. Луцкевіча.

---

[230]БАНЛ. F 138-2231, t. 3, s. 323. Запіс ад 16(29).11.1913 г.

[231]Тамсама. S. 329. Запіс ад 22.11. (3.12).1913 г.

У праграмных артыкулах першых нумароў “Вечерней газеты” і “Кур’ера краёвага” А. Луцкевіч сфармуляваў галоўныя задачы выданняў, якія цалкам адпавядалі дэмакратычнаму варыянту краёвай ідэалогіі.

“Вечерняя газета” (№ 1 ад 18.09(1.10).1912 г.): “У нас ніякім чынам нельга зыходзіць з інтарэсаў якой-небудзь адной нацыянальнай групы. Ва ўмовах разнастайнасці нацыянальнага складу насельніцтва трэба ўвесь час мець на ўвазе інтарэсы Краю як адзінага цэлага. Толькі ў гэтым выпадку магчыма нармальнае развіццё кожнай асобнай народнасці. Усведамленне, што ўсе мы, жыхары гэтай зямлі, з’яўляемся грамадзянамі Краю — вось наша зыходная кропка пры высвятленні патрабаванняў розных груп насельніцтва”. Поўнае задавальненне нацыянальных і сацыяльных патрабаванняў А. Луцкевіч звязваў з устанаўленнем дэмакратычнага ладу. Пад апошнім у гэтым артыкуле разумелася рэалізацыя ў поўным аб’ёме “вялікіх палажэнняў, абвешчаных яшчэ Маніфестам 17 кастрычніка 1905 г.”

У артыкуле першага нумару “Кур’ера” падкрэслівалася небяспека ваяўнічага шавінізму, які “ўносіць у народныя масы ўзаемную нянавісць і ўнутраную барацьбу, пагражае распадам Краю і стратай магчымасці абараняцца ад людзей, якія імкнуцца знішчыць на гэтай зямлі ўсялякае пачуццё асобнасці”. Між тым, “у Краі, дзе побач з літоўцам жыве паляк, побач з беларусам — габрэй, у Краі, няшчасны лёс якога перадвызначыў ягонае адставанне і пазбавіў магчымасці свабоднага развіцця, няма месца для ўнутранай барацьбы”. А. Луцкевіч заклікаў усіх “грамадзян Краю” да працы на ягоную карысць і на карысць народа[232].

На старонках абодвух выданняў шырока ўжываўся тэрмін “грамадзянін Краю”. Аўтары публікацый даводзілі, што жыццёва важныя “краёвыя” пытанні павінны вырашацца з улікам інтарэсаў усіх этнасаў Беларусі і Літвы[233], асуджалі вялікарускі

[232]Кур’ер краёвы. 1912 № 1.

[233]Генрык Букавецкі. Прынцыповае пытанне // Кур’ер краёвы. 1912. № 19; б/п. Одна из причин трений // Вечерняя газета. 1913. № 337.

і вялікапольскі шавінізм[234], заяўлялі пра неабходнасць барацьбы з праявамі шавінізму сярод беларусаў і літоўцаў[235], выкрывалі сутнасць дзейнасці г. зв. "Белорусского общества" як арганізацыі вялікарускіх шавіністаў у беларускай "вопратцы".

Асновай краёвай згоды лічылася супрацоўніцтва дэмакратычных сіл усіх нацыянальных рухаў[236]. Краёвасць досыць натуральна прыводзіла да дэмакратычных поглядаў: "Усё больш ясным становіцца той шлях, які мясцовым рускім людзям падказвае само жыццё. Як грамадзяне Краю, мы павінны ўважыць яго карэннае насельніцтва, прыслухацца да ягонага голасу і пажаданняў, лічыць яго інтарэсы сваімі інтарэсамі і працаваць на агульную карысць"[237]. У сваю чаргу, дэмакратызм, які зыходзіў з павагі да народных патрабаванняў, непазбежна нараджаў краёвую пазіцыю[238].

Абодва выданні пашыралі ідэалогію краёўцаў-дэмакратаў сярод грамадскасці Беларусі і Літвы. "Вечерняя газета" рабіла гэта сярод рускіх, але не пакідала цалкам па-за ўвагай і палякаў. У шэрагу артыкулаў апошніх спрабавалі пераканаць у тым, што толькі іх шчыры паварот да дэмакратыі можа гарантаваць будучыню польскай грамадскаці Беларусі і Літвы[239].

А вось для "Кур'ера краёвага" галоўнай задачай было пашырэнне дэмакратычных і краёвых поглядаў сярод польскай грамадскасці. Антон Луцкевіч у сваіх артыкулах часта апеляваў да гістарычных традыцый. *Генрык Букавецкі*: "З паняццем польскасці заўсёды звязвалася паняцце свабоды", *Веслаў Каліноўскі*: "Як некалі з іменем паляка атаясамлівалася вольнасць, так за-

---

[234]б/п. Конквистадоры // Вечерняя газета. 1913. № 360; м.г. Хто быў правы? // Кур'ер краёвы. 1913. № 127.

[235]б/п. Национальные течения и демократия // Вечерняя газета. 1914. № 468.

[236]K-wiec. Права і абавязкі // Кур'ер краёвы. 1912. № 3.

[237]б/п. От русских прогрессивных избирателей г.Вильны // Вечерняя газета. 1912. № 12.

[238]Веслаў Каліноўскі. Выбар дарогі // Кур'ер краёвы. 1913. № 258.

[239]б/п. А речи всё теже... // Вечерняя газета. 1912. № 64; б/п. Два выступления // Вечерняя газета. 1913. № 263.

раз наша (польская — *А.С.*) нацыянальная будучыня звязана з дэмакратыяй"[240].

А што ж "Наша Ніва"? Як удзельнічаў А. Луцкевіч у яе выданні? Варта заўважыць, што да № 38 ад 20.09.1912 г. газета рэгулярна змяшчала яго артыкулы пад крыптанімамі: *А. Н., а-н-а., Г. Б.* (у выданнях на беларускай лацінцы адпаведна: *A. N., a-n-a., H. B.*). З № 38 перадавыя артыкулы спачатку пісаў А. Уласаў, пазней — В. Ластоўскі, С. Плаўнік, М. Бабровіч ды інш. Артыкулы А. Луцкевіча з'явіліся на старонках "Нашай Нівы" зноў толькі ў 1913 г. Але ў параўнанні з 1911–1912 гг. — эпізадычна.

Нават павярхоўны аналіз публікацый галоўнай беларускай газеты ўказвае на тэматычны паралелізм з матэрыяламі "Кур'ера краёвага" і "Вечерней газеты". У першую чаргу, гэта прапаганда краёвай ідэалогіі ў яе дэмакратычным варыянце і барацьба з шавінізмам[241]. Падчас выбарчай кампаніі ў IV Дзяржаўную Думу "Наша Ніва" падтрымала кандыдатаў, якіх адстойвала "Вечерняя газета". У адным з артыкулаў "Нашай Нівы" адзначалася: "Мы, беларусы, можам верыць толькі шчырым расійскім прагрэсістам, каторые зрадніліся з нашым краем, лічаць сябе грамадзянамі нашай старонкі"[242].

Усе тры выданні вялі сумесную барацьбу супраць вялікапольскага і вялікарускага шавінізму. Разам давалі адпор нападкам шавіністычнага друку. У першую чаргу гэта тычылася "Виленского вестника" і "Гонца цодзеннэго"[243]. Адначасова А. Луцкевіч на старонках "Нашай Нівы" старанна падкрэсліваў дэмакратызм беларускага руху[244].

Адныя з самых цікавых матэрыялаў "Вечерней газеты" і "Кур'ера краёвага" — гэта матэрыялы пра беларускі рух. Яны зай-

---

[240]Кур'ер краёвы. 1912. №№ 8, 12.

[241]а-н-а. Край і народ // Наша Ніва. 1912. № 28-29; а-н-а. Змаганне з хваробай // Наша Ніва. 1913. № 9.

[242]Наша Ніва. 1912. № 40.

[243]б/п. Газэтнае хуліганства // Наша Ніва. 1913. № 9; б/п. Бандытызм "Газеты цодзэннэй" // Кур'ер краёвы. 1913. № 52.

[244]а-н-а. Пуцяводная ідэя // Наша Ніва. 1914. № 11.

малі значнае месца ў абодвух выданнях. Ужо ў гэтым праяўляўся “беларускі ўхіл” краёўца Антона Луцкевіча. Матэрыялы распавядалі пра сітуацыю ў беларускім руху[245], адстойвалі права беларускай мовы быць мовай навучання[246]. Рускамоўнае і польскамоўнае выданні імкнуліся выклікаць сімпатыі да беларускага руху. “Вечерняя газета” асцярожна згадвала пра мясцовыя беларускія карані большасці рускай грамадскасці Краю[247]. “Кур’ер краёвы” заклікаў польскую грамадскасць шукаць згоду і паразуменне з беларусамі. Пры гэтым падкрэсліваліся дэмакратычныя тэндэнцыі беларускага руху: “Шчыры дэмакратызм беларускага руху... ягоная лаяльнасць у адносінах да суграмадзян іншых нацыянальнасцяў — гэта гарантыя, што нашыя імкненні знойдуць жывы водгук сярод беларусаў”[248]. Патрэба згоды з беларусамі тлумачылася інтарэсамі барацьбы з вялікарускім шавінізмам[249] і адсутнасцю выразных перспектываў развіцця польскага руху ў Беларуска-Літоўскім Краі[250].

Якраз у вызначэнні адносін польскай грамадскасці да беларускага Адраджэння можна заўважыць найбольш істотны момант “беларускага ўхілу” краёвасці Антона Луцкевіча і іншых дзеячаў нашаніўскага кола. У асобных публікацыях “Нашай Нівы”[251], у шэрагу артыкулаў “Кур’ера”[252], у польска-беларуска-літоўскіх дыскусіях лістапада 1913 г. наконт будучыні “Кур’ера краёвага” вызначылася беларуская пазіцыя, якая не адпавядала разуменню краёвасці М. Ромэрам і Л. Абрамовічам.

Л. Абрамовіч і шмат якія чытачы “Пшэглёнда” лічылі, што пазіцыя беларусаў грунтавалася на адсутнасці веры ў магчымасць

[245]Генрык Букавецкі. 1913 год у жыцці беларусаў // Кур’ер краёвы. 1914. № 1; А.Н. Из белоруской жизни // Вечерняя газета. 1913. № 290.

[246]б/п. Родной язык в школе // Вечерняя газета. 1912. № 53; Бо-вичъ. Борьба за родной язык // Вечерняя газета. 1914. № 552; Веслаў Каліноўскі. Палітычная шкода // Кур’ер краёвы. 1913. № 206.

[247]б/п. Национальная культура // Вечерняя газета. 1912. № 92.

[248]Генрык Букавецкі. Час патрабуе // Кур’ер краёвы. 1913. № 12.

[249]Генрык Букавецкі. Прынцыповае пытанне // Кур’ер краёвы. 1912. № 9.

[250]К-вец. Do ut des // Кур’ер краёвы. 1913. № 98.

[251]Г.Б. З газэт // Наша Ніва. 1912. № 19-20.

[252]Ястшэмбец І. [Манькоўскі Я.?]. Трывожны сігнал // Кур’ер краёвы. 1913. № 80.

захавання польскасці ў Беларуска-Літоўскім Краі. Перакананне кіраўнікоў беларускага і літоўскага рухаў, што мясцовыя палякі з'яўляюцца нашчадкамі паланізаваных літоўцаў і беларусаў, нараджала з іх боку патрабаванні, каб польская грамадскасць працавала дзеля развіцця свядомасці беларусаў і літоўцаў. "Пшэглёнд" не прымаў гэтага. Ён абвінавачваў "Кур'ер" у "пабочных уплывах"[253].

"Беларускі ўхіл" можна заўважыць і ў асобных артыкулах "Вечерней газеты": "Справа культуры, справа прагрэсу настолькі важная, што яе павінен падтрымліваць кожны грамадзянін Краю. Тут няма месца для меркаванняў нацыянальнага эгаізму: хто можа, той павінен садзейнічаць культурным намаганням сваіх слабейшых суседзяў, з якімі яго моцна звязаў гістарычны ход падзей"[254].

Можна сцвярджаць, што А. Луцкевіч разумеў краёвасць як сужыццё розных народаў Краю і імкнуўся забяспечыць за беларусамі лепшыя ўмовы. Дарэчы, гэта набліжала яго пазіцыю да пазіцыі групы "Пшэглёнда Віленьскага". Аднак гэтае ж падабенства непазбежна рабіла іх апанентамі.

М. Ромэр характарызаваў беларускія і літоўскія прэтэнзіі як праявы этнічнага шавінізму[255]. Але пры гэтым галоўны ідэолаг краёвасці быў упэўнены, што А. Луцкевіч і яго сябры ў рэшце рэшт зразумеюць польскую пазіцыю і пагодзяцца з тым, што палякі Беларусі і Літвы маюць поўнае права на развіццё ўласнай культуры[256]. У аднолькавай ступені з літоўцамі і беларусамі яны павінны ўдзельнічаць у вызначэнні будучыні Краю. Надзея М. Ромэра, як паказалі дыскусіі вакол "Кур'ера", была дастаткова абгрунтаванай. Відавочна, што нашаніўскае беларускае кола ў гэты час моцна спадзявалася на пазітыўныя вынікі супрацоўніцтва з польскімі краёўцамі-дэмакратамі. Дзеля зго-

[253]б/п. Пабочныя ўплывы // Пшэглёнд віленьскі. 1913. № 22/23.

[254]m.r. Грамадзянская пазіцыя // Кур'ер краёвы. 1913. № 77.

[255]БАНЛ. F 138 - 2231, t. 3, s. 324. Запіс ад 17 (30).11.1913.

[256]б/п. Практическое применение краёвой теории // Вечерняя газета. 1913. № 436.

ды А. Луцкевіч быў гатовы пайсці на пэўныя саступкі. Магчыма, ён разлічваў, што пазіцыя М. Ромэра будзе пашырацца сярод польскай грамадскасці. У тым, што гэта прынясе карысць як беларускаму руху, так і ўсяму Краю, ён быў упэўнены.

Але надзеі не спраўдзіліся. І на пачатку 1915 г. А. Луцкевіч на старонках "Нашай Нівы" выступіў з рэзкай крытыкай: "Нашыя" палякі-інтэлігенты кажуць, што яны маюць поўна работы "для сваіх" — для "польскага сялянства і пралетарыяту" на нашай зямлі. Але ж польскага "дэмаса" — на смех малая жменя. А поруч з гэтай жменяй мільёны цёмных і галодных беларускіх сялян, каторыя блізка не маюць йшчэ сваёй інтэлігенцыі, для каторых німа каму працаваць... Працаваць для тых мільёнаў — гэта для нашых палякаў грэх і здрада, хоць колькі ж між імі сыноў таго ж беларускага народу!... Яны не разумеюць, што прайшоў час панавання над намі, і трэба цяпер адслужыць нашай старонцы, трэба не толькі называцца, але і быць грамадзянамі, трэба карміць галоднага і асвяшчаць цёмнага селяніна не толькі за тым, што ён — "свой", што ён пераробіцца на паляка, але затым, што гэта сьвятая павіннасць. А раз гэта павіннасць, а не ласка, дык і вучыць беларусаў трэба не так, як хоча вучыцель, а так як гаворыць народ, каторы захаваўшы сваю мову праз соткі гадоў, праявіў ясна сваё жаданне заставацца беларусам"[257].

Гэтая крытыка не мела дачынення да М. Ромэра і прыхільнікаў ягонай краёвай пазіцыі. Ужо праз нумар А. Луцкевіч адзначыў, што "поруч з "прыгоншчыкамі" ў нашай старонцы ёсць людзі, каторыя баронячы сваю польскую культуру, не забываюць, што яны тутэйшыя грамадзяне, што і на іх ляжыць павіннасць памагаць галодным, асвяшчаць цёмных людзей, няглядзячы, якой яны нацыі і веры. ...Мы верым, што сілы польскай дэмакратыі ўзрастуць, калі над зямлёй Беларусі засвеціцца зорка лепшай будучыны. А шчыры дэмакратызм створыць той залаты мост, каторы з'еднае ўрэшце народы нашага Краю ў адну вялікую згодную сям'ю і каторы польскія нацыяналісты цяпер не даюць збудаваць[258]".

[257]а-н-а. Кліч да згоды // Наша Ніва. 1915. № 10.

[258]а-н-а. Іх адказ // Наша Ніва. 1915. № 12-13.

У заключэнні хацелася б яшчэ раз звярнуць увагу на матывы, якія падштурхнулі А. Луцкевіча да рэалізацыі незвычайнага выдавецкага праекта. Па-першае, у 1912–1915 гг. Антон Луцкевіч падзяляў асноўныя прынцыпы краёвай ідэалогіі ў яе дэмакратычным варыянце. Пашырэнне краёвасці сярод рускай і польскай грамадскасці, якая ў большасці складалася з нашчадкаў некалі паланізаваных або русіфікаваных беларусаў (і літоўцаў) ён лічыў карысным як для ўсяго Краю, так і для беларускага Адраджэння. Але, узнікала пытанне, як прапагандаваць краёвую ідэю? Выкарыстаць "Нашу Ніву" і пашыраць краёвасць ад імя беларусаў? Але перад "Нашай Нівай" стаялі зусім іншыя задачы. Да таго ж беларускамоўная прапаганда была абмежавана этнакультурнымі рамкамі і наўрад ці магла аказаць сур'ёзны ўплыў на рускую і польскую грамадскасць Беларусі і Літвы. І зусім па-іншаму яна ўспрымалася рускімі і палякамі, калі гучала на іх мовах. "Вечерняя газета" і "Кур'ер краёвы" змяшчалі вялікую колькасць матэрыялаў пра беларускае Адраджэнне. Гэта ўмацоўвала пазіцыі беларускага руху, пашырала кола ягоных прыхільнікаў і прывучала польскую і рускую грамадскасць да думкі пра заканамернасць беларускага Адраджэння.

Магчыма, А. Луцкевіч разлічваў з дапамогай польскамоўнага і рускамоўнага выданняў вярнуць у рэчышча беларускага руху хаця б частку страчанага раней беларускага этнасу. Дарэчы, М. Ромэр сцвярджаў у дзённіку, што "вяртанне зрусіфікаваных элементаў да роднага беларускага асяроддзя і ўключэнне іх у беларускі рух" з'яўлялася галоўнай задачай "Вечерней газеты"[259]. Цалкам магчыма, што падобная задача, хаця і ў іншай ступені, стаяла і перад "Кур'ерам краёвым".

Істотнае месца ў прапагандзе краёвасці займала барацьба супраць этнічнага шавінізму. У адным з артыкулаў на старонках "Нашай Нівы" А. Луцкевіч заклікаў усе народы Беларусі і Літвы падаць сабе рукі і супольнымі сіламі бараніцца ад гэтай хваробы, каб "зніштожыць сяўбу ненавісьці і злосьці". А далей адзначаў: "Вось бачым добрую жменю расійскіх, польскіх і літоўскіх газет, каторыя — каждая ў сваім народзі — змагаюцца з чарнасоцен-

[259]БАНЛ. F 138 - 2230, t. 4, s. 115. Запіс ад 19.05 (1.06). 1914 г.

ствам. У Вільні выходзіць “Вечерняя газета”, “Кур’ер краёвы”, “Lietuvos Ukininkas”, “Vilniaus Żinios”, і ўсе яны поруч з “Нашай Нівай” ідуць да аднэй мэты: стараюцца развіваць “просты” народ, каб урэшці сам ён узяў свае справы ў свае рукі і з пагардай адвярнуўся ад тых, хто хоча выкарыстаць яго цемнату дзеля пашырэння націоналізма”[260].

Выдавецкі праект Антона Луцкевіча спрыяў дэмакратызацыі рускай і польскай грамадскасці Краю. Дарэчы, калі ўлічваць актыўную ролю нашаніўскага кола ў арганізацыі і дзейнасці віленскага асветніцкага таварыства “Вестник знания”, то можна прыйсці да высновы, што з беларусаў складалася амаль уся “руская” дэмакратыя Краю. Пра польскую дэмакратыю гэтага не скажаш, але і тут дзейнасць беларусаў адыгрывала значную ролю.

Усё вышэйсказанае падаецца справядлівым з прагматычнага пункту погляду. Але, упэўнены, што нельга ўсё растлумачыць толькі нейкімі рацыянальнымі разлікамі А. Луцкевіча. Справа ў тым, што ідэя краёвасці ламала традыцыі і стэрэатыпы вузкай этнічнай прапаганды, якія ў гэты час ўжо дамінавалі ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе. У пэўным сэнсе гэта ідэя трымалася на ўнікальнай атмасферы шматэтнічнага Краю і асабліва Вільні. Гэтая атмасфера нараджала людзей, якія адчувалі сябе адначасова рускім і беларусам (Іван Краскоўскі[261]), палякам і літоўцам (Данатас Маліноўскас, Міхал Ромэр), палякам і беларусам (Аляксандр Заштаўт, Раман Скірмунт, Вітаўт Чыж[262]). Гэта была атмасфера сапраўднага этнічнага карнавала, дзе адсутнічалі выразныя межы, калі ў залежнасці ад жыццёвых абставін маска станавілася тварам і наадварот. Беларус Антон Луцкевіч на старонках “Вечерней газеты” станавіўся “рускім”,

[260]а-н-а. Змаганне з хваробай // Наша Ніва. 1913. № 9.

[261]М. Ромэр характарызаваў яго як “беларуса па паходжанні і рускага па культуры”. Ён жа паведаміў, што ў віленскім аддзяленні Саюза аўтанамістаў-федэралістаў менавіта І. Краскоўскі прадстаўляў рускую грамадскасць (БАНЛ. F 138 - 2230, t. 4, s. 20. Запіс ад 13(26).02.1914 г.).

[262]На пачатку 1915 г. В. Чыж заявіў пра сваё жаданне ўступіць у віленскую арганізацыю прыхільнікаў незалежнасці Польшчы (БАНЛ. F 138 - 2230, t. 4, s. 383. Запіс ад 11.(24).02.1915 г.).

а на старонках “Кур’ера краёвага” — “палякам”. Магчыма, мы сутыкаемся тут з пэўнай заканамернасцю беларускай гісторыі. Яна вельмі багатая персанажамі, якія выступалі ў двух або нават трох іпастасях і адначасова належалі беларускай, польскай, літоўскай і рускай гісторыі. Можа гэта была праява таго самага “вольнага беларускага духу” (Ігнат Канчэўскі), які шукаў уласныя шляхі? Беларусь нараджала такіх людзей таму, што была зямлёй, дзе зліваліся розныя этнічныя, культурныя і рэлігійныя плыні. Кожны з іх знаходзіў прытулак і прыжываўся ў “беларускім доме”.

Калі мы пагодзімся з тым, што гэты этнакультурны карнавал базуецца на асаблівасцях развіцця нашага краю, магчыма, нам будзе лягчэй зразумець асобы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Вікенція Канстанціна Каліноўскага, Аляксандра Ельскага, Рамана Скірмунта, Эдварда Вайніловіча і некаторых іншых. Дык можа краёвасць, якую адстойвалі М. Ромэр, Р. Скірмунт і іх паплечнікі, не з’яўлялася толькі праявай пострамантычных і трохі наіўных спадзяванняў гэтых людзей, а ўяўляла сабой адну з падвалінаў беларускай гісторыі і тагачаснай беларускай ментальнасці?

Што ж тычыцца даследаванняў выдавецкай дзейнасці А. Луцкевіча і ўсяго нашаніўскага кола, то яны павінны працягвацца. Застаюцца шматлікія пытанні. Напрыклад, якую ролю адыгралі віленскія масонскія ложы? У 1910–1915 гг. яны аб’ядналі частку дэмакратычных сіл усіх нацыянальных рухаў Беларусі і Літвы. Сябрамі ложаў былі браты М. Ромэр, браты Луцкевічы, В. Ластоўскі ды інш.[263]. Варта задумацца і над тым, чаму з двух выданняў большы поспех выпаў на долю “Вечерней газеты”? Ці можна лічыць гэта адлюстраваннем пэўных тэндэнцый, якія мелі месца сярод рускай грамадскасці Краю, ці толькі вынікам публіцыстычнай дзейнасці А. Луцкевіча? Чаму дэмакратызм “Вечерней газеты” і “Кур’ера краёвага” не выходзіў па-за межы ліберальна-дэмакратычнай ідэалогіі?

Застаецца пытанне і пра тое, чым была краёвасць у беларускай гісторыі пачатку ХХ ст. Прагматычным разлікам прадстаўнікоў

[263]БАНЛ. F 138 - 2230, t. 4, s. 404. Запіс ад 4(17).03.1915 г.

тых этнічных рухаў, якія адчувалі ўласную слабасць? Спробай выкарыстаць палітычны варыянт нацыянальнай мабілізацыі насельніцтва? Пострамантычнымі ілюзіямі некалькіх палітыкаў, далёкіх ад рэчаіснасці Беларусі і Літвы пачатку XX ст.? Ці напаўсвядомай праявай глыбінных падставаў беларускай гісторыі? Гэтыя і іншыя пытанні яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў.

2009

## Палеская вёска ў стасунку да *Пана*

Палессе ў межах Беларусі і сёння з’яўляецца адным з найбольш адметных і самабытных рэгіёнаў. У прадстаўнікоў гуманітарных навук асаблівую цікавасць выклікаюць тыя рысы традыцыйнай культуры, якія, нягледзячы на маштабныя працэсы сацыяльнай трансфармацыі XX ст., усё ж захаваліся на Палессі ды па-ранейшаму ёсць часткай светаўспрымання яго жыхароў. Сацыяльныя антраполагі адзначаюць, напрыклад, прысутнасць у свядомасці старэйшых пакаленняў вясковага насельніцтва кагнітыўных структур, сфарміраваных яшчэ ў перыяд феадалізму і звязаных з міфалагічным светапоглядам.

Багатая мазаіка архаізмаў і навацый, перамешванне новага і старога былі яшчэ больш відавочнымі ў міжваенны час, калі Палессе знаходзілася ў межах Польскай дзяржавы. Гэтая палеская асаблівасць рабіла рэгіён прыцягальным для этнографаў, сацыяльных антраполагаў, этнасацыёлагаў ды інш. Праграма па вывучэнню Палесся, якую курыравалі Інстытут даследаванняў нацыянальных спраў і Камісія навуковага вывучэння ўсходніх земляў, ахоплівала моўныя, дэмаграфічныя, эканамічныя і этнасацыялагічныя даследаванні. Палессе ператварылася ў свайго роду даследчую лабараторыю асаблівасцяў сацыяльна-культурных працэсаў, у т. л. у гістарычнай рэтраспектыве.

Адным з найбольш грунтоўных даследчыкаў Палесся міжваеннага часу ў галіне сацыяльнай антрапалогіі быў Юзаф Абрэмбскі

(1905-1967). Галоўным аб'ектам ягонай увагі стаўся "адказ" традыцыйнай культуры на "выклікі" навейшага часу.

Даследчык адзначыў узмацненне працэсаў сацыяльнай дэзарганізацыі, што было выклікана як пэўным крызісам старэйшых пакаленняў, звязаным з прыстасаваннем да новай эканамічнай і прававой сітуацыі, так і ігнараваннем моладдзю традыцый і аўтарытэтаў. Менавіта моладзь была авангардам разбурэння традыцый і лабіравання новых каштоўнасцяў, узятых па-за светам палескай вёскі. Адметнай рысай новай мадэлі жыцця ставілася тое, што Ю. Абрэмбскі акрэсліў тэрмінам *панскасць*[264]. Гэта было выразнае імкненне быць *панам*, жыць як *пан* і мець тыя ж самыя правы.

Перайманне гэтай новай мадэлі адбывалася праз кантакты з польскім грамадствам і гараджанамі. Але пры гэтым вясковыя разбуральнікі традыцый, як правіла, не мелі магчымасці далучыцца да вышэйшай сацыяльнай групы і былі асуджаныя на пагарду з яе боку, на сацыяльную і культурную "непаўнавартасць". Адказам на гэта стаў рост варожасці да *палякаў*.

Другая палова 30-х гг. XX ст. была часам абвастрэння сацыяльных (*сялянска-панскіх)* супярэчнасцяў. Ю. Абрэмбскі сцвярджаў, што крышталізацыя ў палешука пачуцця *крыўды* выціснула традыцыйнае мужыцкае *горэ* з ягоным фаталізмам і абярнулася ростам нянавісці да ўсяго польскага асяродку, і ў першую чаргу да лясной адміністрацыі, служачых у маёнтках (*падпанкаў*) і чыноўнікаў мясцовай адміністрацыі ніжэйшага ўзроўню[265].

Прысутнасць пэўных этнакультурных рысаў у (*сялянска-панскім*) канфлікце таксама была абумоўленая тым, што на тагачасным Палессі сацыяльныя межы часта супадалі з нацыянальнымі. Гэта засведчылі і вынікі перапісаў насельніцтва 1921 і 1931 гг.[266] Сацыяльныя ролі палешука амаль не выходзілі за межы ся-

[264]Jozef Obrębski, Dzisiejsi ludzi Polesia i inne eseje. Prygotowanie do druku i przedmowa Anna Engelking. Wydawnictwo IFiS PAN, Warszawa, 2005, s. 125

[265]Ibidem, s. 127.

[266]Гл., напр., Eberhardt P. Przemiany narodowościowe na Białorusi. Warszawa, 1994.

лянскага стану. Пасады, нават самыя нязначныя, напрыклад, у мясцовых органах кіравання, займалі палякі.

Трэба таксама заўважыць, што ў традыцыйным успрыняцці палескай вёскі польскасць была непарыўна звязаная з *панам*. *Паляк* (або *лях*) у калектыўнай памяці заўсёды быў сінонімам *пана*. Такі важны элемент сялянскай калектыўнай ідэнтычнасці як апазіцыя **селянін/пан** на Палессі здаўна мела форму апазіцыі "рускі мужык/польскі пан".

Супадзенне этнічнага ці нацыянальнага падзелу з сацыяльным было надзвычай важным момантам. Ю. Абрэмбскі, аналізуючы стасункі палескай вёскі з навакольным светам польскага, украінскага і беларускага нацыяналізмаў, заўважыў пачатак фарміравання ў палешукоў нацыянальнага светапогляду[267].

*Але наколькі глыбокімі былі гэтыя перамены? Ці закранулі яны традыцыйны вобраз пана/шляхціца? Ці набыў ён уласна нацыянальныя рысы мадэрнай эпохі?*

Паспрабую адказаць на пастаўленыя пытанні, аналізуючы вобраз *пана* ў вуснай гісторыі. З 2001 па 2008 г. у колішніх уладаннях Скірмунтаў на Заходнім Палессі, у вёсках Парэчча Пінскага раёна і Моладава Іванаўскага раёна, а таксама ў суседніх вёсках Табулкі, Чамярын, Рудка, Ахова, Моталь ды інш.[268] (усё Брэсцкая вобл.) ладзіліся экспедыцыі па вуснай гісторыі. Іх мэтаю быў запіс успамінаў пра Рамана Скірмунта, які быў галоўным аб’ектам нашай увагі, ды іншых прадстаўнікоў гэтага роду, а таксама пра стасункі паміж маёнткам і вёскай. Удзельнікі экспедыцый запісвалі інтэрв’ю, карыстаючыся распрацаваным апытальнікам, у рэдкіх выпадках фіксаваўся біяграфічны наратыў. Сабраная калекцыя вусных успамінаў датычыла пераважна постаці Рамана Скірмунта. Недахоп вусных успамінаў пра гаспадара Моладаўскага маёнтка Генрыка Скірмунта давялося кампенсаваць з дапамогай пісьмовых успамінаў[269]. Аўтарка ўспамінаў нале-

[267]Jozef Obrębski, Dzisiejsi ludzi Polesia i inne eseje, s. 150.

[268]Аўдыязапісы ўспамінаў жыхароў вёсак захоўваюцца ў архіве аўтара.

[269]Pamiętnik Jreny Szareckiej-Sosnowskiej (rękopis zachowuje się w rodzinie).

жала да іншай сацыяльнай групы (дачка аканома маёнтка), але гаспадар Моладава і для яе сям'і таксама быў *панам*.

Варта адзначыць, што нашыя суразмоўцы вельмі ахвотна распавядалі на тэму *пана*. Часам складвалася ўражанне, што распавядаючы пра Скірмунтаў, яны хочуць нешта важнае сказаць і пра сябе саміх.

Экспедыцыі сабралі даволі багаты і няпросты для аналізу гістарычны матэрыял. Змест індывідуальных успамінаў моцна залежаў таксама ад жыццёвага досведу нашых суразмоўцаў, іх інтэлектуальнага ўзроўню і спецыфікі калектыўнай памяці.

*Паны Скірмунты*

Парэчча і Моладава сталі ўладаннямі Скірмунтаў з канца XVIII ст., калі Сымон Скірмунт выкупіў гэтыя землі ў Міхала Казіміра Агінскага. Новыя гаспадары моцна прычыніліся да ператварэння звычайных памешчыцкіх маёнткаў у свайго кшталту плацдарм індустрыялізацыі Палесся.

Прадстаўнікі той галіны роду (цэнтрам эксперыментаванняў стаўся маёнтак Парэчча Пінскага павета Мінскай губ.), парушаючы пэўныя шляхецка-земянскія нормы жыцця, актыўна заняліся прадпрымальніцкай дзейнасцю. Ужо ў XIX ст. Парэчча стала вядомым сваёй суконнай фабрыкай, цукроўняй, крухмальным заводам, броварам, паспяховай меліярацыяй поймы р. Ясельды і перадавымі для таго часу тэхналогіямі сельскай гаспадаркі. Цікава, што першай пабудовай новых уладальнікаў былі карпусы суконнай фабрыкі. Палац, які звычайна з'яўляўся не толькі сямейнай рэзідэнцыяй, але таксама сімвалізаваў багацце і славу гаспадароў, у Парэччы наогул не быў збудаваны. У другой палове XIX ст. Аляксандр Скірмунт прыстасаваў пад сямейную рэзідэнцыю адзін з фабрычных будынкаў. Гэты прадстаўнік роду Скірмунтаў, як вядома, адыграў вялікую ролю ў працэсе адмены прыгону на Піншчыне, што адлюстравана ў надпісе на магільным помніку.

У міжваенны час уладальнікам маёнтка быў Раман Мар'ян Скірмунт (1868–1939), які працягваў традыцыі Скірмунтаў-наватараў. І гэта датычыла не толькі прадпрымальніцкай дзейнасці. На пачатку XX ст. Раман Скірмунт належаў да плыні краёўцаў. Апошнія ва ўмовах дамінавання этнакультурных нацыяналізмаў выступілі з канцэпцыяй палітычнай/грамадзянскай нацыі *ліцвінаў*, дзе галоўным крытэрыем нацыянальнай прыналежнасці з'яўляўся краёвы патрыятызм. Краёвасць Р. Скірмунта паступова эвалюцыянавала ў накірунку беларускага руху. Ужо ў канцы 1916 г. ён стаўся адным з кіраўнікоў гэтага руху, а ўвесну 1918 г. узначаліў урад БНР. Пасля ратыфікацыі сеймам ІІ Рэчы Паспалітай Рыжскага міру, які цалкам перакрэсліў ідэю беларускай незалежнасці, Р. Скірмунт адышоў ад палітычнай дзейнасці і заняўся аднаўленнем маёнтка, разбуранага падчас Першай сусветнай вайны. У палітычнае жыццё яго вярнулі падзеі мая 1926 г. Як прадстаўнік Беспартыйнага блоку супрацоўніцтва з урадам, ён быў абраны ў Сенат і ўвайшоў у Канстытуцыйную камісію. Але большую частку года па-ранейшаму праводзіў у Парэччы.

У адрозненне ад Парэчча, Моладаўскі маёнтак прэзентаваў традыцыйны тып панскай гаспадаркі. Гаспадары жылі ў прыгожым палацы пасярод парку з кветнікамі, які быў збудаваны на пачатку XIX ст. на месцы былога палаца Міхала Казіміра Агінскага. Іх болей цікавілі мастацтва і літаратура, чым прадпрымальніцтва і палітыка. Зрэшты, на пачатку XX ст. палітыка ўсё ж такі ўвайшла ў жыццё Моладаўскага маёнтка. Канстанцін Скірмунт (1866–1849) з 1909 па 1917 г. быў сябрам Дзяржаўнай Рады Расійскай імперыі, дзе прэзентаваў кансерватыўную земянскую плынь. Крах Расійскай імперыі паспрыяў яго далучэнню да польскага руху. У 1917 г. ён стаў адным з заснавальнікаў Польскага нацыянальнага камітэта і яго прадстаўніком у Рыме. Быў міністрам замежных справаў ІІ Рэчы Паспалітай, а потым — паслом у Вялікабрытаніі. У сярэдзіне 30-х гг. вярнуўся ў Моладава. У справы гаспадаркі не ўмешваўся. *Панам* для сялянаў з Моладава быў фактычны гаспадар маёнтка, ягоны брат Генрык (1868–1939). Ён увайшоў у польскія энцыклапедыі як паэт і кампазітар.

Усе згаданыя Скірмунты не мелі ўласных сем'яў і ўласных дзяцей, прынамсі, афіцыйных…

### *Вобраз Пана*

Паспрабуем прааналізаваць вобраз *Пана* праз прызму такіх адвечных для сялянскага светапогляду каштоўнасцяў, як *праца*, *зямля* і *вера*. Варта адзначыць, што для традыцыйнага сялянскага светаўспрымання характэрнае пастаяннае падкрэсліванне панска-шляхецкай вышэйшасці, якая, звычайна, складаецца з сацыяльнага і прававога дамінавання, багацця, пэўнай культуры паводзінаў. У "беларускім выпадку" гэта вышэйшасць асацыюецца таксама з польскасцю і каталіцкім веравызнаннем.

### *"Добры пан" Раман Скірмунт*

На пачатку звернем увагу на такую істотную для сялянскага разумення сацыяльнага свету апазіцыю, як *праца/непраца*. У традыцыйным светаўспрыманні дамінавала перакананне, што *пан* не працуе.

У выпадку Рамана Скірмунта адразу сустракаемся з выразным парушэннем гэтай нормы. Суразмоўцы з Парэчча часта распавядалі пра фізічную працу *пана* ў парку, ім жа заснаваным. Сяляне бачылі, як уладальнік маёнтка пілаваў крывыя дрэвы, абразаў або абсякаў сухія галіны: "Памешчык кожны дзень на работу выязджаў. У яго быў тапорык, пілачка была. Ён працаваў, не то што якія..."* (Хведар Лукашык, 1922 г. нар., в. Парэчча).

Таксама суразмоўцы з гонарам распавядалі пра тыя прамысловыя прадпрыемствы, якія існавалі ў Парэцкім маёнтку, прыгадвалі палітычную дзейнасць Р. Скірмунта ў Варшаве, хоць і не лічылі гэта *працай* у традыцыйным разуменні

---

*Усе цытаты даюцца з захаваннем асаблівасцяў вымаўлення жыхароў в. Парэчча.

• Ён быў сенатар, але не за грошы, а проста так, бо разумны (Хведар Хвісюк, 1912 г. нар., в. Парэчча).

Затое палітычная дзейнасць Р. Скірмунта заўсёды звязвалася з *зямлёй*. Многія суразмоўцы сцвярджалі, што ўладальнік Парэчча неаднаразова выступаў за перадачу зямлі сялянам:

• Вон шчодры быў. Воны чуствовалі, што вайна вось-вось пачнецца. І маліся гэту зямлю вось-вось роздаці крестьянам. Отобраць гэтую ўсю землю ад памешчыкаў польскія власці хацелі: Гэта не ваша зямля, гэта народа зямля. …Парэцкі Скірмунт таксама выступаў, хацеў зямлю крестьянам роздаці (Рыгор Дарашэнка, 1930 г. нар., в. Палтаранавічы);

Пры гэтым рэспандэнты адзначалі, што падобная пазіцыя была небяспечнай:

• Кагда-то ў Варшаве быв Санат як зара Дума, так он жа тожэ участвовал там. То он сказаў, што всю зямлю трэба ў памешчыкаў забраць і аддаць крэсцьянам. Памешчыкам надо покінуць по 40 гектар. Хваціт з іх. А всю зямлю забраць і народу роздаць. Дык у яго стралялі, і он цераз акно выпрыгнуў. Тая Дума (ілі як) страляла. Матка мая расказвала. Он сам прыехаў у Парычча і народу казаў, што так выступаў, а па мне стралялі. (Калбаска Мікалай Андрэевіч, 1925 г. нар., в. Рудка).

Таксама парэцкія суразмоўцы прыгадвалі асабістую шчодрасць *пана*, які раздаваў зямлю сялянам (напрыклад, у якасці вясельных падарункаў ці як аплату за працу *хвабрыкантаў* на прадпрыемствах) або прадаваў надзелы за невялікія грошы: “Харошы быў чалавек… Раздаваў зямлю: палову так аддаў, палову — за грошы” (Рыгор Цудзіла, 1913 г. нар., в. Табулкі). Нават былая камуністычная актывістка, якая ў 60-70-я гг. XX ст. нібыта ўласнаручна пілавала крыжы ў вёсцы, а потым была дырэктарам школы, прызнала: “Многім ён даваў зямлю. Мой бацька таксама хадзіў прасіць. Скірмунт не даў: “Я ўсім не надаюся”. Бацька часта супраць пана выступаў і сцяг савецкі вешаў” (Лізавета Епішка, 1927 г. нар., в. Табулкі). Яна ж назвала *пана* “прагрэсіўным памешчыкам”.

Асаблівай увагі заслугоўваюць адказы на пытанні, што датычылі веравызнання, нацыянальнасці і мовы Рамана Скірмунта. Тут адсутнічала стэрэатыпнае атаясамліванне *пана* і *паляка*.

Большасць нашых рэспандэнтаў не без пэўных ваганняў сцвярджала, што ён быў каталіком:

• Скірмунты, наверна, былі польскай веры, каталічаскай... Мне кажэцца, он польскай веры быв (Васіль Казак, 1924 г. нар., в. Ахова).

Пры размове пра веравызнанне суразмоўцы абавязкова адзначалі талерантнасць Р. Скірмунта і ягонае непрыняцце рэлігійнай канверсіі:

• Скірмунт быў супраць перамены веры. Казаў: "Якім нарадзіўся, такім і памірай". Праздн
ічнага рэжыму Скірмунт не парушаў. Ні свайго, ні праваслаўнага. Адна жанчына ў каталіцкае свята пайшла жаць, дык выклікаў жаўнераў і яе прагналі (Павел Клімовіч, 1925 г. нар., в. Парэчча);

• Адзін рабочы перайшоў з беларускай веры на польскую, а Скірмунт не адобрыў: "Ты дурак!" (Павел Рак, 1917 г. нар., в. Парэчча).

Пытанне пра нацыянальнасць Рамана Скірмунта звычайна выклікала пэўную разгубленасць рэспандэнта і прымушала яго апеляваць да веравызнання:

• Скірмунт — паляк, бо хадзіў у касцёл (Павел Рак, 1917 г. нар.);

Як пэўны кур'ёз можна расцаніць сцвярджэнне, нібыта "людзі казалі, што Скірмунт — татарын (Рыгор Цудзіла, 1913 г. нар.).

Затое не было ніякіх праблемаў з адказам на пытанне, на якой мове размаўлялі Скірмунты:

• Скірмунт гаварыў па-мужыцку (Мікалай Куцко, 1911 г. нар., в. Табулкі);

• Скірмунт как мы гаворыў. Іli па-беларуску. Как мы гаворым. Ён і па-польску умеў гаварыць. Канечне! Ён жа католік быв (Мікалай Калбаска, 1925 г. нар., в. Рудка);

• Скірмунты разговарвалы как людзі… (Васіль Казак, 1924 г. нар., в. Ахова);

На трэці год нашай працы ў Парэччы атрымалася разгаварыць людзей на тэму інтымнага жыцця *пана*, якая ўсё яшчэ застаецца закрытай для "чужых". Як адзначалася, сям'і ён не меў… Вельмі асцярожна і тактоўна нам распавялі пра ўдаву Кацярыну Цярэшка:

• Баба красівая была. Самы гады такі пад яго… То засакрэчана любоў (Марыя Кучыньская, 1919 г. нар., в. Парэчча).

У 20-я гады Кацярына Цярэшка пастаянна жыла ў маёнтку. Людзі казалі пра чатырох сыноў Кацярыны ад *пана*. На пытанне, чаму вы лічыце, што гэта яго сыны, адказвалі: "Падобныя як партрэты". Усе яны атрымалі адукацыю, жылі і працавалі ў маёнтку, мелі прозвішча Цярэшкаў, але "па-вулічнаму" былі "Скірмунтавымі".

Моцнае ўражанне рабіла тая асцярожнасць і тактоўнасць, з якой парэчане распавядалі пра адносіны *пана* і сялянкі. Але падчас наступных экспедыцый высветлілася, што Р. Скірмунт меў таксама іншых вясковых каханак. Стаўленне вёскі да гэтага боку *панска-сялянскіх* адносінаў было даволі спакойнае. Склалася ўражанне, што парэчане прызнавалі сэксуальныя правы *пана*, што, верагодна, месцілася ў рэчышчы пэўнай традыцыі. Прынамсі, права першай ночы (*jus primae noctis*) да адмены прыгону ў 1861 г. было нормай жыцця палескай вёскі.

Адначасна ўспаміны малююць вобраз пана-апекуна вёскі, пана-ратавальніка, які быццам знішчаў сацыяльна-культурную дыстанцыю паміж маёнткам і вёскай:

• Люди расказвали, что он был неплохой пан. Всем помогал, кто зайдёт и чего-нибудь попросит. Бацька положительно отзы-

вался о Скирмунте: хороший человек был, к людям хорошо относился. И сейчас, те кто помнит, как и я, все положительно относятся к нему (Сяргей Глушко, 1925 г. нар., в. Рудка);

• Трапіць да пана Скірмунта было проста. Пастукаемся і зойдзем. Не тое, што зараз. Не дабрацца да якога прэдсэдацеля. А тады: “Паночку, так і так, дзело ёсць”. І ён дапамагаў (Рыгор Цярэшка (1932 г. нар.);

• Пан добры быў, добры… Усё у нас згарыло, дом, карова… Пан прыехаў і гаворыць: “Не плач! То не твая карова згарэла, а мая”. А мужу кажа: “А ты, Міхал, прыдзі заўтра ў кантору”. Муж прыйшоў, а пан даў яму 100 злотых на карову (Ганна Пракопчык, 1930 г. нар., в. Моладава).

• Ён быў харошы. Гэтакіх людзей мала бывае, як Скірмунт быў. Я да яго не ходзіла, я яму не робыла, не была я ў яго, но він быв харошы чалавек (Харыта Чырко, 1913 г. нар., в. Парэчча).

Вонкавая блізкасць *пана* да вёскі ўжывалася з надзяленнем яго пэўнай чарадзейнай сілай. Нам неаднаразова распавядалі пра магічную здольнасць Р. Скірмунта спыняць полымя:

• Калі здараўся пажар, то Скірмунт сам выязджаў туды. Заўсёды абыходзіў пажарышча, і агонь далей не ішоў. Людзі цікавіліся ягоным сакрэтам, але ён нікому гэтага не казаў (Марыя Нікалайчык, 1920 г. нар., в. Парэчча);

• Некалі, я вам скажу, хлеў загарэўся. І пайшло, і пайшло гарэць. І прыехаў пан, стаў, рукі злажыў — і сціхло. Вецер прыціх. Ціхэнько, ціхэнько… (Анастасія Вакульчык, 1911 г. нар., в. Парэчча).

Рэспандэнты прыгадвалі, што часта вітаўся першым, аказваў дапамогу асабліва для будаўніцтва, дазваляў касіць траву (“даваў сенакос”), рабіў падарункі на святы, “пагэтаму людзям вельмі падабалася ў яго працаваць, і яны ніколі ад яго не ўходзілі” (Марыя Нікалайчык, 1920 г. нар., в. Парэчча).

Асабліва выразна блізкасць *пана* да людзей перадавалася ў аповедах пра апошнія хвіліны жыцця Рамана Скірмунта. Ён быў забіты 7 кастрычніка 1939 г. разам са шваграм Баляславам Скірмунтам. Паводле савецкай літаратуры, забілі "мясцовыя савецкія актывісты", паводле памяці жыхароў вёскі, забівалі "мясцовыя дурні", "такія нэндзы", "хуліганы", "падхалімы", "гулякі", за спінамі якіх маячылі постаці савецкіх камісараў Холадава, Кавалёва і Маскалёва. Суразмоўцы вельмі эмацыянальна перадавалі апошнія словы *пана*:

• Скірмунту перад смерцю загадалі адвярнуцца. Адмовіўся: "Я ад народа не адварочваюся (Павел Клімовіч, 1925 г. нар., в. Парэчча);

• І таму пану, і шурыну той Соловэй казаў: Адвярніся задам. Коб у зад страляць. А він гаворыць: Я ад людзей не адварочваўся. Хто да мяне прыходзіў, я каждаму помоч даваў". У ліцо выстраліў. Так тому Солоўю он мо гадоў з дзесяццю, мо і бульш, як застрэліў, так у вачах усё ўрэмя стаяў. Што ў ліцо страляў… (Мікалай Калбаска, 1925 г. нар., в. Рудка).

Аповеды пра смерць Рамана Скірмунта канчаліся сцвярджэннем, што ўсе забойцы вельмі кепска закончылі свае дні, усе былі пакараныя Богам:

• У яго ўсе тыкалі пальцам: "Соловэй пана забіў! Соловэй пана забіў! То ён ныхліў, ныхліў, то так помэр. А тыя дуракі двое, недзе поіхалы. І яны ў дзярэўні не памерлі. Недзе на свіці пропалы (Харыта Чырко, 1913 г. нар.).

Варта адзначыць, што пры аповедах пра смерць Р. Скірмунта звычайна суразмоўцы цалкам ігнаравалі прысутнасць у Парэччы салдат і камісараў Чырвонай Арміі. У забойстве вінавацілі выключна "сваіх", падкрэслівалі ўнутраныя матывы. Пашыраная вясковая версія сцвярджала, што забойцы праявілі самавольства і забілі Р. Скірмунта, бо разлічвалі на вялікую ўзнагароду:

• Яны такія былі вумныя, бо сьпталі, што ім награду дадуць. І ўсё. Яны бідны былі, постухі... (Харыта Чырко, 1913 г. нар.).

Магчыма, у гэтым забойстве таксама праявілася тая прага да *панскасці*, пра якую пісаў Ю. Абрэмбскі. Відаць, у верасні 1939 г. актуалізаваўся варыянт: забіць *пана*, каб стаць панам…

Блізкасць Рамана Скірмунта да вяскоўцаў, ягоная вонкавая *прастата,* якая звычайна трактуецца як антанімічны полюс *шляхетнасці* і канстытуіруе аўтастэрэатып *мужыка*, аднойчы ва ўспамінах ператваралася ў пэўнае ганаровае прызнанне Скірмунта “сваім”:

• Во, што я знаю пра Скірмунта. Харошы мужык быв! (Мікалай Калбаска, 1925 г. нар., в. Рудка).

Зрэшты, падобная ацэнка была выключэннем... Той жа суразмоўца прызнаў, што *пан* “у канцы мог быць прэзідэнтам”.

Пры ўсёй сваёй *прастаце* і блізкасці да вёскі Раман Скірмунт усё роўна заставаўся для яе *панам*. Магчыма, гэтаму спрыяла багацце і ўплывовасць *пана,* традыцыйная роля апекуна вёскі. Менавіта сацыяльнае вызначала гэтую дыстанцыю і тое, што Раман Скірмунт заставаўся для вяскоўцаў *панам*. Ягонае стаўленне да мясцовай гаворкі, колішнія сімпатыі да беларускага руху, усё тое, што можна залічыць да этнічнай ці нацыянальнай сферы жыцця, вызначальным не было…

### *“Плахі пан” Генрык Скірмунт*

Вусныя ўспаміны таксама высветлілі лакальнасць памяці вяскоўцаў. У Парэччы людзі прыгадвалі ўладальніка Моладава Генрыка Скірмунта выключна дзеля таго, каб падкрэсліць станоўчыя рысы “свайго *пана*”:

• У Моладаве быў худшы пан. Бывае і сабакамі нацкуе (Рыгор Цярэшка, 1932 г. нар.);

• Моладаўскі пан лесу не даваў, нават пагарэльцам. Казаў, што знарок хату спалілі (Хведар Лукашык, 1922 г. нар).

Таксама распавядалі гісторыю пра тое, як Г. Скірмунт забараніў хаваць на родавых могілках у Моладаве пляменніка, які пакончыў жыццё самагубствам. Роспач маці, што прывезла цела сына ў труне з Варшавы, не зрабіла на *пана* ніякага ўражання. Урэшце, дапамог Раман Скірмунт, і самагубцу пахавалі ў Парэччы, у скірмунтаўскім парку.

У памяці жыхароў дзвюх вёсак ніяк не адлюстраваліся адносіны паміж уладальнікамі Парэчча і Моладава. Падобна, што яны былі даволі напружанымі. Прынамсі, вядома, што Канстанцін Скірмунт аднойчы назваў Рамана "нашым бальшавіком". Не мог паспрыяць паляпшэнню гэтых адносінаў і дазвол Р. Скірмунта пахаваць пляменніка ў Парэччы…

Моладава знаходзіцца ў 8 км ад Парэчча, але вусная гісторыя сведчыць пра адлегласць памерам у цэлую гістарычную эпоху. Моладаўскі *пан* быццам спрабаваў спыніць час і жыць па ўзорах пыхлівай шляхты часоў Рэчы Паспалітай абодвух народаў.

Паводле сялянскіх уяўленняў, Генрык Скірмунт *не працаваў*. Пра яго захапленне музыкай і паэзіяй суразмоўцы нават не ведалі. Зрэшты, сустрэчы вяскоўцаў з *панам* былі даволі рэдкімі. Уваход на тэрыторыю палаца, абнесеную агароджай, быў забаронены. Прыгадваліся выпадкі, калі *пан* (гэтыя ўчынкі прыпісваліся менавіта яму, а не слугам!) спускаў на парушальнікаў, у т. л. на дзяцей, сабак.

Якраз стаўленне *пана* да сялянаў, слуг і рабочых маёнтка было дамінуючай тэмай успамінаў пра Г. Скірмунта:

• Звалі яго нашы людзі "шалёным"… Бо ён быў нервны, мне адзін раз в морду даў (Стэфан Кіпень, 1920 г. нар, в. Моладава);

• Паненка была добрай, а пан был плахі. Як зайдуць да яго, то сабаку пусціць, нацкуе на людзей (Надзея Вакульчык, 1927 г. нар., в. Моладава);

• А Генрык быў гадасць-гадасць. Сабак спускаў на людзей. На Каляды, калі прыйшлі спяваць калядкі, ледзь не пазабіваў за нашую мову (Ніна Шаталава, 1927 г. нар., в. Моладава)

Ірэна Шарэцка-Сасноўска, якая была дачкой аканома маёнтка Станіслава Шарэцкага, пакінула пісьмовыя ўспаміны, у якіх ахарактарызавала Генрыка Скірмунта як псіхічна неўраўнаважанага чалавека[270]. Але гэтая "неўраўнаважанасць" датычыла толькі тых, хто знаходзіўся на ніжэйшых прыступках сацыяльнай лесвіцы.

У памяці колішняй дзяўчынкі, што жыла на тэрыторыі маёнтка, захаваўся вобраз *пана* з кіем у руках, заўсёды чырвонага і раззлаванага, які наводзіў страх на людзей. Яна ж прыгадвала звычайную практыку звальнення работнікаў без папярэджання з патрабаваннем у некалькі гадзін пакінуць маёнтак, адмовы плаціць грашовыя кампенсацыі за траўмы і г. д. Ніякага апякунства з боку *пана* ніхто не мог прыпомніць. Відавочна, што паміж вёскай і маёнткам захоўвалася велізарная сацыяльная дыстанцыя. Генрык Скірмунт разбураў стэрэатып пана як *культурнага*, *ветлівага*, *велікадушнага*, *далікатнага*.

Пры гэтым палац быў аточаны паркам, патанаў у ружах, якія даглядаў адмысловы спецыяліст. Тут гасцявалі вядомыя літаратары (у прыватнасці, Эліза Ажэшка), славутыя спевакі, гучала музыка і паэзія, існаваў культ Англіі. Атмасфера была напоўнена арыстакратычным снабізмам і пыхай. І. Шарэцка-Сасноўска пісала пра пастаянную "дэманстрацыю сярэднявечнага феадалізму"[271]. Дарэчы, нават адсутнасць у палацы радыё, што моцна прычынілася да трагедыі верасня 1939 г., была звязана з перакананнем гаспадара, што радыё — гэта атрыбут плебсу.

У 30-я гг. у палацы жылі таксама брат гаспадара былы міністр замежных справаў ІІ Рэчы Паспалітай Канстанцін Скірмунт, барон Вайсэнгоф з жонкай, сваячка Скірмунтаў з роду Бутрымовічаў, нарэшце, сястра гаспадара Марыя.

---

[270]Pamiętnik Jreny Szareckiej-Sosnowskiej.
[271]Ibidem.

Апошняя, паводле ўспамінаў, была моцна непадобная да свайго брата:

• Паненка была добра. На біднага мела ўвагу. У нас каровы не було, змарнавалася, а мой бацька хадзіў ежэдневно на работу, і вона прызнала даваці нам, дзецям, молоко... Як хто хварэе, то трудно.. Няма грошай да доктара ісці. Ідуць да яе. Яна напіша бумажку доктару, дасць 1-2 злотых. (Кацярына Мядзведзева, 1920 г. нар., в. Моладава);

• Вона, як у нас хто захварэе, то пійдэ да паненкі, і вона нікогда не отказывалась, старалася, каб чалавіку помоч... Очэнь хороша была (Ніна Шаталава, 1927 г. нар.).

Гэтая ж тэма гучала ў аповедах пра апошнія хвіліны жыцця Марыі і Генрыка Скірмунтаў. Суразмоўцы часта паўтаралі словы Генрыка, адрасаваныя забойцам: “Мяне біце, бо я плахі, а паненку не чапайце. Яна ж добрая была да вас...” (Вольга Шык, 1922 г. нар.).

Сястра таксама заснавала школу для дзяўчынак, вучыла іх спевам. Яе стаўленне да вёскі было ўзорам жаночага апякунства, характэрнага для многіх земянскіх сем’яў.

Панскасць у Моладаве была неад’емна звязаная з польскасцю і каталіцкасцю. Рэспандэнты не мелі сумнення, што Генрык і Марыя Скірмунты палякі па нацыянальнасці, што яны размаўлялі па-польску:

· А пана... ненавідзелі, бо то ж паляк, другая раса. Співалы: “Надоело жыць пры Польшчы, надоело працаваць, надоело кажду сволоч “Прошэ пана” называць”... З панам і паненкай размаўлялі па-польску, бо воны мо і нэ зналы, нэ понымалы як по-нашаму” (Ніна Шаталава, 1927 г. нар.).

Генрык застаўся ў памяці таксама як зацяты каталік. Ёсць падставы казаць пра пэўны празелітызм у рэлігійным жыцці Моладава. Так, І. Шарэцка-Сасноўска прыгадала, што ў касцельным хоры прымушалі спяваць праваслаўных дзяўчат

з вёскі. Аляксандр Шык (1924 г. нар.) прыгадаў эпізод, калі настаўнікі па загаду *Пана* павялі сваіх праваслаўных вучняў на набажэнства ў касцёл. Дзеці атрымалі ў якасці падарункаў папяровыя абразкі каталіцкіх святых. Але на выхадзе з маёнтка іх ужо чакалі старэйшыя школьныя калегі, якія рвалі гэтыя абразкі. Скончылася звальненнем з школы.

Ва ўспамінах моладаўцаў і сёння досыць адчувальнае расчараванне тым, як Генрык Скірмунт распарадзіўся зямельнай маёмасцю. Жыхары Моладава спадзяваліся, што пасля смерці Скірмунтаў, якія не маюць нашчадкаў, іх зямлю падзеліць вёска. Гэта цалкам адпавядала звычаёваму праву, што зямля належыць тым, хто на ёй працуе… Але надзеі абрынуліся напрыканцы 30-х гг., калі Генрык Скірмунт перадаў усе землі сёстрам Уршулянкам. Яны пасяліліся ў афіцыне і пачалі гаспадарыць. Ва ўласнасці моладаўскіх Скірмунтаў застаўся толькі лес.

Відавочны даволі востры сацыяльны канфлікт паміж вёскай і *панам* у Моладаве:

· Скірмунтаў забілы таму, што воны булы панамі (Ніна Шаталава, 1927 г. нар.)

Нацыянальныя супярэчнасці ў вусных успамінах слаба адчувальныя. Толькі Ірэна Шарэцка-Сасноўска тлумачыла забойствы Скірмунтаў тым, што, па-першае, яны былі палякамі, а, па-другое, землеўласнікамі. Успаміны большасці жыхароў палескай вёскі сведчылі пра іншае. Сацыяльная напружанасць паміж вёскай і палацам у Моладаве выбухнула на пачатку вайны і знішчыла гаспадароў палаца.

Аповеды жыхароў Моладава пра забойства ў верасні 1939 г. Генрыка і Марыі Скірмунтаў не суправаджаліся праклёнамі забойцаў. Гучала шкадаванне:

· Мотоляне забілі. І пана забілі, і паненку, і захавалы ў лесе. Свое забівалы… (Вольга Шык, 1922 г. нар.).

· Ніхто не згадаў і пра Божае пакаранне забойцаў…

Аналіз вусных успамінаў дазваляе сцвярджаць, што панска-сялянскія стасункі ў гэтым кутку Палесся па-ранейшаму вызначаліся фактарам сацыяльнай няроўнасці. Нацыянальнае значнай ролі яшчэ не адыгрывала. Нават ва ўспамінах з Моладава пра “худшага пана” не адчуваецца, што стаўленне да яго вызначалася нацыянальным канфліктам. Верагодна, што той сацыяльны (*сялянска-панскі*) канфлікт, пра які пісаў Ю. Абрэмбскі, датычыў мясцовага польскага асяродку, але не распаўсюджваўся на самога *пана,* які яшчэ не трактаваўся ў нацыянальных катэгорыях. Эпоха нацыяналізму насоўвалася на Палессе, але традыцыйны вобраз *пана* ўсё яшчэ паспяхова ёй супрацьстаяў.

2011

**Біяграфія**

Алесь Смалянчук нарадзіўся ў Слоніме напрыканцы вясны 1959 г. Там жа закончыў сярэднюю школу. Вучыўся на гістарычным факультэце Гарадзенскага ўніверсітэта. Каля дзесяці гадоў працаваў настаўнікам гісторыі ў школах Горадні. У 1991 г. паступіў у завочную аспірантуру Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (навуковы кіраўнік прафесар Міхась Біч). У 1995 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю, а праз сем гадоў — доктарскую, якая была прысвечана польскаму руху на беларускіх і літоўскіх землях у апошнія 50 гадоў гісторыі Расійскай імперыі.

Аўтар некалькіх кніг, болей чым сотні навуковых публікацый, рэдактар гадавіка антрапалагічнай гісторыі “Homo Historicus”, альманаха “Горад святога Губерта”, навуковы кіраўнік онлайн праекта “Беларускі архіў вуснай гісторыі”, адзін з кіраўнікоў навуковага праекта па сацыяльнай гісторыі “Гарадзенскі Палімпсест” ды інш.

Лаўрэат дыплома Беларускага гістарычнага таварыства “За лепшую навуковую кнігу па гісторыі Беларусі ў 2000–2001 гг.”

Жыве ў Горадні.

Навукова-папулярнае выданне

**СМАЛЯНЧУК Алесь Фёдаравіч**

**БЕЛАРУСКАЯ ГІСТОРЫЯ: ЗНАЙСЦІ ЧАЛАВЕКА**

**Аўтар ідэі серыі** *Максім Жбанкоў*
**Каардынатар** *Алесь Анціпенка*
**Галоўны рэдактар** *Валянцін Акудовіч*
**Рэдактар** *Алесь Анціпенка*
**Карэктар** *Ліка Жаўрыд*
**Дызайн вокладкі** *Сяргей Ждановіч*

Падпісана да друку ... . Фармат 84х108 $^1/_{32}$.
Ум. друк. арк 8,30.Улік.-выд. арк. 7,69.
Наклад 300 асобнікаў. Замова 436.

Выдавец І.П. Логвінаў
ЛИ №02330/0494468 ад 08.04.2009
Пр-т Незалежнасці, 19-5, 220030, г. Мінск.
lingvopress@gmail.com

Надрукавана на капіравальна-памнажальным
абсталяванні І. П. Логвінава

У серыі **“Бібліятэка “Беларускі калегіюм”** выйшлі:

**Віталь Сіліцкі** “Адкладзеная свабода**”**,
**Алесь Анціпенка** “Быць (пры)сутным”,
**Сяргей Харэўскі** “ПраЧутае”
**Валер Булгакаў** “Беларусь 1994–2004 гг.: разбудова дзяржавы і перасьлед нацыі”